• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

21 мая 1996 г. аўторак, №№ 124—125 (22927 — 22928)

# ЗВЯЗДА




*Розгалас*

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЭНТА

*Удзельнікам фіналу II Усебеларускага тэлефестывалю юных талентаў «Усе мы родам з дзяцінства»*

Дарагія дзеці!

Паважаныя юныя сябры!

Мне вельмі прыемна звярнуцца са словамі прывітання да вас, фіналістаў II Усебеларускага тэлефестывалю юных талентаў «Усе мы родам з дзяцінства».

Ваш фестываль стаў своеасаблівым парадам юных талентаў. Тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак з розных куткоў нашай краіны змаглі прадэманстраваць сваё выдатнае майстэрства ў розных жанрах самадзейнай мастацкай творчасці.

Ваш фестываль прыцягнуў да сабе ўвагу шырокай грамадскасці, прадстаўнікоў усіх пакаленняў. Ён з'яўляецца сведчаннем таго, што невычэрпная крыніца нашых маладых талентаў, не бяднее наша родная беларуская зямля на яркія творчыя асобы.

Вы праявілі свае здольнасці на фестывальнай сцэне. Я ўпэўнены ў тым, што вы праявіце іх і ў вучобе, і ў працы, і ў жыцці, будзеце дастойнымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Мы жывём у складаны час, але я глыбока пераканаты ў тым, што ўсе цяжкасці будуць пераадолены і вы будзеце дастойна жыць і паспяхова працаваць на карысць нашай Радзімы.

Віншую вас, мае юныя сябры, з вялікім поспехам, жадаю новых перамог на вашым жыццёвым шляху. Хачу падзякаваць вашым бацькам, педагогам, работнікам мастацтва і культуры, якія выхоўваюць вас дастойнымі грамадзянамі нашай краіны.

Вы — наша змена і надзея. Моцнага вам здароўя, шчасця і росквіту вашых талентаў на славу беларускага народа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

## ХУТКА СТАНУЦЬ ВЯДОМЫЯ МЕЖЫ «ВАЛЮТНАГА КАЛІДОРА»

**Як газета ўжо паведамляла сваім чытачам, у хуткім часе павінна быць разгледжана пытанне аб далейшым лёсе «валютнага калідора» ў Беларусі. Ужо сёння працэс пайшоў.**

Аб гэтым можна меркаваць хаця б абапіраючыся на апошняе выступленне кіраўніка Нацыянальнага банка нашай рэспублікі. Зараз, прынамсі, згодна з выкладзенай інфармацыяй, на будучае паўгоддзе прапрацоўваюцца варыянты па «калідору», спецыялісты ўстанаўліваюць новыя лічбы, якія павінны будуць фігураваць у якасці ніжняй і верхняй яго межаў. Дарэчы, зусім не абавязкова, што «калідор» будзе тым механізмам, якому наканавана і далей рэгуляваць валютны рынак. Цалкам магчыма, і гэта падкрэслівалася ў выступленні старшыні праўлення Нацбанка, што рэспубліка можа замяніць яго на «слізгаючы» курс або выкарыстаць іншы варыянт. Вядома ж, што лічбы павінны хутка з'явіцца ў прэсе: тым жа прадпрыемствам ужо ў бліжэйшы час трэба неяк планаваць свае фінансавыя адносіны з партнёрамі на другое паўгоддзе.

Не выклікае сумненняў і той факт, што «шырокага кроку» долару зрабіць не дадуць, нягледзячы на інфляцыйныя чаканні некаторых экспертаў. Скачка не будзе. Долар і надалей будзе працягваць «паўзком» пераадольваць беларускі рубель. Сённяшняя ж сітуацыя на рынку наяўнай валюты, калі долар (які спачатку рвануў за межы «калідора», а потым быў вернуты назад) моцна завіс на верхняй мяжы «калідора» і амаль знік з продажу ў абменных пунктах, лепш за ўсё характарызуе цяперашнюю «рэальнасць» курса цвёрда канверсоўнай валюты.

І яшчэ адна навіна. З банкаўскіх колаў нам стала вядома, што на пасяджэнні Асацыяцыі камерцыйных банкаў адным з фрагментаў размовы стала выкладзеная кіраўніком Нацбанка інфармацыя аб тым, што некаторыя маламоцныя банкі могуць быць пазбаўлены магчымасці праводзіць аперацыі па прыцягненню ўкладаў насельніцтва. Праўда, у Асацыяцыі камерцыйных банкаў гэтую інфармацыю не пацвердзілі. Аднак удакладнілі, што размова ішла не пра банкі, а пра фінансавыя кампаніі, якія спрабуюць на грашах грамадзян «скалаціць» капітал, а апошніх пакінуць з носам. Тым больш, што прэцэдэнтаў такога роду ў рэспубліцы хапае.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# КІРАЎНІКІ ДЗЯРЖАЎ СНД ПАДТРЫМАЛІ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА



***Пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД, якое адбылося 17 мая ў Маскве, асабліва значным для Беларусі не назавеш. Гэта пацвердзіў у сваім інтэрв'ю і Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Ён адзначыў, што ўдзельнікі самміта поўнасцю вычарпалі парадак дня, разгледзеўшы ўсе дзевяць пастаўленых у ім пытанняў.***

На думку кіраўніка нашай дзяржавы, найбольш карысным для інтэграцыйных працэсаў унутры Садружнасці з'яўляецца прыняцце перспектыўнага плана на 1996—1997 гады. Апіраючыся на яго, адзінаццаці дзяржавам трэба будзе распрацаваць, узгадніць і прыняць не менш як 150 праектаў, у тым ліку і такіх прынцыповых, як Канвенцыя аб каардынацыі дзейнасці на рынках каштоўных папер, Канцэпцыя супрацоўніцтва ў галінах паліўна-энергетычнага комплексу, мадэльныя законы аб транснацыянальных карпарацыях. А Міждзяржаўнаму валютнаму камітэту сумесна з Міждзяржаўным банкам і нацыянальнымі фінансавымі структурамі да канца 1997 года трэба будзе стварыць прававы фундамент для плацежнага і валютнага саюзаў.

«Добра, калі ўсе гэтыя добрыя намеры ажыццявяцца, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Аднак у мяне склалася ўражанне, што маскоўскі саміт збіраўся не столькі для прыняцця адказных рашэнняў, колькі з мэтай прадэманстраваць падтрымку Барысу Ельцыну на маючых адбыцца ў Расіі прэзідэнцкіх выбарах. Я таксама ўсім сэрцам жадаю Барысу Мікалаевічу перамогі ў гэтым нялёгкім выпрабаванні. Але мяне засмуціла спроба параіць рускаму народу, як яму трэба ўпарадкаваць Расію».

На пытанне карэспандэнта БЕЛТА, ці паставіў Аляксандр Рыгоравіч свой подпіс пад заявай кіраўнікоў дзяржаў у падтрымку Барыса Ельцына, Прэзідэнт адказаў сцвярджальна і дадаў: «Як я мог не падпісаць дакумент, у якім падкрэсліваецца імкненне да далейшага развіцця дэмакратыі і рыначных пераўтварэнняў! Асабліва мне падабаецца тое месца ў Заяве, дзе выказана надзея, «што расіяне зробяць выбар на карысць адзінай працвітаючай дэмакратычнай Расіі».

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## ВОПЫТ НЯМЕЦКІХ БУДАЎНІКОЎ ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСІ

**Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір 20 мая правёў перагаворы з дэлегацыяй Міністэрства ўпарадкавання тэрыторый і гарадскога будаўніцтва Германіі, якая прыбыла ў Мінск на чале з федэральным міністрам Клаусам Тэпферам.**

«Сустрэчы з прадстаўнікамі дзелавых колаў Германіі для нас заўсёды маюць вялікую цікавасць, — сказаў Міхаіл Чыгір. — Фарміруемыя кантакты дапамагаюць пераймаць лепшы замежны вопыт. У дадзеным выпадку ўрад Беларусі будзе ўдзячны нямецкім калегам за аказаную Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва дапамогу, асабліва ў разгорнутым цяпер працэсе перагляду галіновых нарматываў і правілаў». Прэмьер-міністр адзначыў, што кіраўніцтва рэспублікі будзе ўсяляк садзейнічаць таму, каб дзелавыя адносіны перайшлі ад чыста кансультацыйных і гандлёвых да інвестыцыйных, будзе вітаць уклады нямецкага боку ў будаўніцтва на Беларусі, а таксама работу на беларускіх аб'ектах нямецкіх спецыялістаў. Рэспубліцы, падкрэсліў ён, асабліва патрэбны і вытворчы, і тэхналагічны вопыт нямецкіх будаўнікоў.

У слове ў адказ федэральны міністр упарадкавання тэрыторый і гарадскога будаўніцтва Германіі Клаус Тэпфер паведаміў, што паміж беларускім і нямецкім будаўнічымі міністэрствамі ўжо склаліся самыя плённыя адносіны. Сфарміравана восем сумесных праектаў, у рамках якіх бакі паспяхова разгортваюць работу. Вызначаны рамкі спецыяльнай праграмы для жыллёва-камунальнай галіны, з гатоўнасцю бяруцца нямецкія калегі і за падрыхтоўку беларускіх спецыялістаў.

Пасля завяршэння перагавораў з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром госці з Германіі разам з кіраўніцтвам Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі накіраваліся на праспект Пушкіна, 54 у Мінску, дзе будаўнікі пачалі ўкараненне нямецкай тэхналогіі цеплавой рэабілітацыі жылога дома. Нямецкі і беларускі міністры — Генадзь Навіцкі і Клаус Тэпфер — прынялі ўдзел у сімвалічным замацаванні на будынку першай цеплаізаляцыйнай пліты.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*МІНІ-АПЫТАННЕ — НА ВУЛІЦАХ МІНСКА І ПА ТЭЛЕФОНЕ*

## «ЛІЧУ АПОШНІЯ ГРОШЫ. З БОЯЗЗЮ ЗАГЛЯДВАЮ ВА ЎЛАСНЫ КАШАЛЁК...»

Галоўнае пытанне сёння: «Як выжыць?» Калі раней інтанацыйна яно гучала крышачку мякчэй («Як пражыць?» ці «Як цяжка пражыць на малую зарплату...»), то сёння ўжо і слёзы на вачах у пенсіянераў, якім, адпрацаваўшы па сорак, а то і болей гадоў, даводзіцца лічыць капейкі ва ўласным кашальку. Сустракаючыся са старымі людзьмі, нават няёмка кідацца ў роспыты. Бо ведаеш: адказы будуць горкія і сумныя. Прасцей, здавалася б, падысці да чалавека маладзейшага, інтэлігентнага ўжо на адзін толькі выгляд.

***Вось і задалі першае пытанне Івану Сцяпанавічу КУРБЕКУ, старшаму навуковаму супрацоўніку Літаратурнага мемарыяльнага музея Якуба Коласа.***

**— Вы пенсіянер?**

— Так. Але працую, як вы ўжо ведаеце. Хіба ж на 530 тысяч пенсіі можна пражыць? Ды і зарплата музейная невялікая. Інтэлігенцыя зараз не ў пашане. Але ж вось як разам скласці пенсію і зарплату, то ў два разы болей атрымліваецца. Таму скажу па вялікаму сакрэту для ўсіх чытачоў «Звязды»: трымаюся за працу як ніколі.

***Наступны субяседнік — таксама араты культурнай нівы Іван Іванавіч САКОЛЬЧЫК, загадчык Навапольскага дома культуры, што ў Пухавіцкім раёне:***

— Што атрымліваю? Слёзы, а не грошы. Крыху болей як паўмільёна. Але як пагляджу, як мала атрымліваюць і ў калгасе, то надта і не смуткую. Трэба ж неяк жыць. Выжыць дапамагае гаспадарка, ды і агарод таксама.

***Наш чарговы субяседнік — ЦІХАМІРАЎ Васіль Лявонцьевіч, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута тэхнічнай кібернетыкі!***

— Вы пытаецеся пра заробак? У красавіку ён быў з усімі налічэннямі каля мільёна «зайцоў». У маі знізілі да 0,6 стаўкі. Авансу пакуль не было, зарплаты таксама не атрымліваў. Шчыра кажучы, мяне падтрымлівае толькі вайсковая пенсія, але яе памеры, выбачайце, называць не буду. Так што сацыяльны статус свой акрэслю як сярэдні.

***Сустрэліся мы таксама і з рабочай Мінскага трактарнага завода Людмілай Леанідаўнай ГАЛАВАШКА.***

— Зараз працуем без простояў, што вельмі радуе, хоць нейкія грошы атрымаем. За красавік іх, праўда, было небагата — каля сямісот тысяч. Напрыканцы мая адбудзецца свята — паўвекавы юбілей да дня стварэння МТЗ, можа, што-небудзь і падкінуць. Узровень жыцця, вядома, змяніўся, і не ў лепшы бок.

А яшчэ адна з нашых выпадковых субяседніц не прадставілася. Відавочна, што пенсіянерка. Толькі сказала (гутарылі мы ў прадуктовай краме): «Лічу вось апошнія грошы. З бояззю заглядваю ва ўласны кашалёк...»

**Пытанні пра пенсію і зарплату задавалі Алесь КАРЛЮКЕВІЧ і Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## УВАГА: ПАДПІСКА!

**Паважаныя чытачы «Звязды»! Паведамляем вам, што згодна з дасягнутай дамоўленасцю паміж рэдакцыяй газеты «Звязда» і рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднаннем «Белпошта» ўсе паштовыя аддзяленні рэспублікі прымаюць падпіску на нашу газету як на месяц, трэці квартал, так і ў цэлым на другое паўгоддзе.**

**Гэта рашэнне кіраўніцтва «Белпошты» давяло да адказных выканаўцаў на месцах.**

***Нагадваем, што падпісны кошт «Звязды» на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў складае 81.600 рублёў, на квартал — 40.800, на месяц — 13.600.***

**Газета «Звязда» 24 мая з 12 да 13 гадзін праводзіць «прамую лінію» з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васілём Іванавічам СТРАЖАВЫМ.**

У дзень «прамой лініі», паважаныя чытачы, мы чакаем вашых званкоў па тэлефонах: ***32-38-21 і 32-38-92.*** Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне ***68-28-72.*** Чакаем і вашых пісьмаў з пытаннямі.

Упэўнены, што на ўсе вашы пытанні, якія датычацца сферы адукацыі, будуць дадзены самыя кампетэнтныя адказы.

## РОСТ НАЗІРАЕЦЦА, АЛЕ ТЭМПЫ НІЗКІЯ

Аб'ём прамысловай прадукцыі, атрыманай у Беларусі за чатыры месяцы бягучага года, склаў у супастаўных цэнах 98,9 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам 1995 года. Такія звесткі паступілі ў БЕЛТА з Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі. Прычым выпуск харчовых тавараў знізіўся на 7,3 працэнта. Больш чым на адну дзесятую скарацілася вытворчасць вырабаў нехарчовай сферы і на 14 працэнтаў — алкагольных напояў.

Калі параўноўваць паказчыкі першага месяца другога квартала з мінулагоднімі красавіцкімі данымі, то апошнія даныя сведчаць, што пад'ём у рабоце народнай гаспадаркі пачаўся, праўда, тэмпы яго назваць здавальняючымі нельга. Напрыклад, прадпрыемствы па выпуску прадуктаў харчавання амаль дасягнулі ўзроўню яе вытворчасці ў красавіку 1995 года, але не ўзняліся вышэй стопрацэнтнай адзнакі. Крыху палепшылася становішча з вырабам нехарчовых тавараў. Аб'ём іх выпуску ўзрос амаль на 10 працэнтаў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# ДЗЯРЖАВА Ў ДАЎГУ Ў ВЕРНІКАЎ

**Разам з вернікамі адзначыў 20 мая знамянальную для Беларускай праваслаўнай царквы падзею — свята цудатворнай іконы Божай Маці (Жыровіцкай) — Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.**

Пад гукі званоў з самай раніцы да сцен старажытнага Жыровіцкага манастыра базіліян пачалі збірацца паломнікі. Пакланіцца праваслаўнай святыні прыйшлі вернікі з усёй рэспублікі, а таксама з Украіны, Польшчы, краін Балтыі і Расіі.

Апоўдні ў вёску Жыровіцы прыбыў Прэзідэнт Беларусі. Ён азнаёміўся з манастыром і размешчанай у яго сценах Мінскай духоўнай семінарыяй, якая рыхтуе свяшчэннаслужыцеляў для Беларускай праваслаўнай царквы. Рэктар семінарыі епіскап Навагрудскі і Лідскі Канстанцін зрабіў экскурс у гісторыю гэтай навучальнай установы. Заснавана яна ў 1828 годзе, а ў 1963-м была закрыта. Адрадзілася ў 1989 годзе, у 1991-м семінарыя атрымала статус вышэйшай навучальнай установы. Цяпер пры ёй дзейнічаюць нядзельная школа і рэгенцкі клас, у чэрвені адбудзецца ўжо трэці выпуск семінарыстаў.

Ва Успенскім саборы манастыра Прэзідэнт прыняў удзел у Божай літургіі, якую з нагоды ўрачыстай падзеі адправіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Потым адбыўся хрэсны ход з Жыровіцкай цудатворнай іконай Божай Маці да Яўленскага храма манастыра, у якім удзельнічаў і Аляксандр Лукашэнка. Ля ўвахода ў храм Прэзідэнт вітаў шматлікіх вернікаў, якія сустрэлі яго кветкамі і ўрачыстымі духоўнымі спевамі.

«Гэта свята — аб'яднальнае, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Жыровіцкую цудатворную ікону ўшаноўваюць аднолькава як праваслаўныя, так і каталікі. Дзяржава ў даўгу ў святых людзей, якія праз усе цяжкасці жыцця захавалі для народа гэту святыню і сам манастыр». Таму менавіта дзяржава дапаможа ў аднаўленні і ўтрыманні Жыровіцкага манастыра, паабяцаў Прэзідэнт.

Тэлеграму ад Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II зачытаў прадстаяцель Беларускай праваслаўнай царквы Філарэт. У ёй гаворыцца аб аб'яднальным духоўным пачатку славянскіх народаў і аб тым, што разам яны абавязкова пабудуюць дастойнае жыццё.

Свята завяршылася малебнам за здароўе народа Беларусі і ўсіх вернікаў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

*У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## ЗАРПЛАЦЕ — СТАТУС ПЕРШАЧАРГОВАГА ПЛАЦЯЖУ

**На пасяджэнні Камісіі па сацыяльнай палітыцы і працы было разгледжана пытанне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты, звязаныя са своечасовай выплатай заработнай платы. Заклапочанасць праблемай зразумелая — са сферы эканомікі яна перайшла ў сацыяльную і ўскладняе напружанасць у працоўных калектывах.**

На думку парламентарыяў, яе вырашэнне залежыць, перш за ўсё, ад эфектыўнасці работы саміх прадпрыемстваў, якія адлічваюць частку прыбытку ў выглядзе падатку ў фонд заработнай платы. Для гэтага ў парламенце неабходна паскорыць распрацоўку новых законапраектаў, накіраваных на паскарэнне рыначных рэформ.

Члены камісіі прыйшлі да высновы, што ў якасці першай меры ў Закон «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» неабходна ўнесці палажэнне, якое замацоўвае за заработнай платай статус першачарговага плацяжу. Пасля абмеркавання гэтага пытання ў камісіях Вярхоўнага Савета новае палажэнне будзе прадстаўлена на разгляд сесіі.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь.**

## НА МЯЖЫ СПЫНЕННЯ

**знаходзіцца адно з найбольш рэнтабельных прадпрыемстваў Магілёўшчыны — Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод.**

Прычына — затаваранасць вырабленымі напоямі. Нейкі час таму старшыня аблвыканкома А.Кулічкоў ці то жартам, ці то ўсур'ёз заклікаў землякоў быць патрыётамі і ўнутр ўжываць моцную прадукцыю, выробленую выключна ў вобласці. І сапраўды, на прылаўках сёння — цалкам магілёўскія маркі, але, як аказалася, нават гэтая мера не аказалася дзейснай.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

*ТОСТ НАЎЗДАГОН*

## ВІНШУЕМ!

*Хочаш не хочаш, а ў рэшце рэшт становішся юбілярам. І нават такім, калі табе не «нашчаць», а ўсіх 60. І нават калі ўсё жыццё сваё не надта помніў пра ўзрост і належныя яму паважнасць, ашчаднасць у эмоцыях і намаганнях.*

*З чым мы і віншуем свайго калегу, журналіста, брэсцкага рэдактара Пятра Пятровіча Суцько. Таго самага, з «Зари». 25 гадоў рэдактарства — яшчэ адзін юбілей, але гэта ўжо такі, якога прычакае не кожны працаўнік, а тым больш не кожны рэдактар. Мы не адрасуем Пятру Пятровічу пышных урачыстых кампліментаў — чалавек з гумарам і вострым адчуваннем жыцця, газетчык, ён ведае цану слова і не любіць прыгожых моўных утварэнняў. Жыве, як піша: проста і без фальшу. Умее знаходзіць, гуртаваць таленты, ствараць для іх такі асяродак, каб — пісалася, спрачалася, каб нараджаліся ідэі. Да асобы цягнуцца асобы — вось і ўвесь, відаць, сакрэт шматгадовай папулярнасці «Зари». А калі талентам цесна ў рамках адной газеты — узбагачаюць іншыя выданні, у тым ліку і наша.*

*Так што шэсць дзесяткаў гадоў — не груз, бо ёсць з кім раздзяліць жыццёвыя нягоды і юбілейны келіх.*

*Далучаемся!*

* * *

*Такі ж юбілей — у былога супрацоўніка «Звязды», публіцыста, сцэнарыста, пісьменніка Льва Сяргеевіча Караічава. Шчыра віншуем, жадаем здароўя і творчых поспехаў.*

***Звяздоўцы.***

* * *

Віншуем нашага дарагога Паўла Іванавіча Захарэвіча з 65-годдзем.

Жадаем моцнага здароўя і ўсіх зямных даброт.

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Віншуем дарагіх сыноў Анатоля, Віктара Хацукоў і праўнука Сашу Лобана з днём нараджэння.*

*Жадаем здароўя, шчасця.*

**Бацькі.**

## КАМІСІЯ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА НАКІРАВАЛА ГЕНПРАКУРОРУ ХАДАЙНІЦТВА АБ ЗМЯНЕННІ МЕРЫ СТРЫМАННЯ ПРАФЕСАРУ Ю. ХАДЫКУ

**Камісія Вярхоўнага Савета па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі накіравала на імя Генеральнага пракурора рэспублікі Васіля Капітана ліст.**

Камісія хадайнічае аб змяненні меры стрымання прафесару Юрыю Хадыку, які знаходзіцца пад вартай як адзін з арганізатараў шэсця «Чарнобыльскі шлях-96».

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні камісіі Уладзімір Нісцюк, парламенцкая камісія просіць вызваліць Ю.Хадыку з-пад варты пад падпіску ад нявыездзе. «Сёння ў пракуратуры выпрацоўваецца думка, каб змяніць яму меру стрымання. Гэта магчыма. Я лічу, што хутчэй за ўсё так і будзе», — сказаў У.Нісцюк. Тым больш, адзначыў дэпутат, што за прафесара паручыліся буйнейшыя грамадскія і палітычныя дзеячы рэспублікі і замежжа.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

*ФУТБОЛ. КУБАК БЕЛАРУСІ*

## КУБАК АДПРАВІЎСЯ Ў МАЗЫР

**Тое, што мазырскі футбольны клуб МВКЦ стаў уладальнікам Кубка Беларусі, ні для кога з балельшчыкаў не з'явілася нечаканасцю. Па-першае, палескія футбалісты сёння ў лідэрах. А па-другое, мінскае «Дынама», відаць, перажывае зараз не лепшыя свае часы, паколькі апошнія перамогі ў гульнях чэмпіянату ім даліся з вялікай цяжкасцю, хоць у старанні ім не адмовіш.**




Вось і дэбют фіналу Кубка Беларусі паказаў, што ў чэмпіёна не знік байцоўскі запал. Першыя 20 хвілін падначаленыя Івана Шчокіна бесперапынна атакавалі. На ударных пазіцыях раз-пораз аказваліся то Качура, то Бялькевіч.

Практыка паказвае, што пры такім характары гульні атакуючай камандзе неабходна абавязкова забіваць як найхутчэй, інакш потым махавік гульні раскруціцца ў іншы бок.

Футбольныя законы дзейнічаюць, як аказалася, безадмоўна. На зыходзе першага тайма госці прабівалі штрафны і мяч быў пакладзены на любімую кропку Максіма Рамашчанкі, удар якога і застаў знянацку галкіпера мінчан Віталя Варывончыка.

Ён яшчэ не паспеў перавесці дыханне, як пасля розыгрышу аўта лепшы бамбардзір мінулага чэмпіянату Сяргей Яромка падвоіў лік.

У другой палове сустрэчы гаспадары поля паспрабавалі змяніць ход гульні, і ў хуткім часе Алег Чарняўскі забівае гол у адказ. Гэты момант мог стаць пераломным у гульні. У «Дынама» заставалася яшчэ цэлых 25 хвілін, каб зраўнаваць лік. Аднак планам мінчан не суджана было збыцца. Памылка ў абароне, калі няўпэўнена выйшаў наперад новы варатар «Дынама» Аляксандр Яўневіч, каштавала ім трэцяга гола: выхад сам-насам з галкіперам зноў умела скарыстаў той-жа Яромка. Заключная кропка ў матчы была пастаўлена на апошняй, 90-й хвіліне. Чарговую памылку варатара сталічных футбалістаў скарыстаў Уладзімір Канавалаў. Ён падвёў вынікі гульні — 4:1.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі Іван Шчокін трымаўся ўпэўнена, хоць на душы ў яго і кіпела. Ён не стаў рабіць трагедыі з пройгрышу, пажадаў сапернікам поспехаў у розыгрышы Кубка кубкаў. Менавіта ў гульнях такога ўзроўню, зазначыў Іван Рыгоравіч, і праяўляецца сапраўдны клас каманды.

Настаўнік гасцей Анатоль Юрэвіч спакойна і без лішніх эмоцый ацаніў перамогу сваіх выхаванцаў. І гэта, па словах Юрэвіча, не павінна стаць падставай для расслаблення. Наперадзе — адказныя гульні на палях Еўропы і ва ўнутраным чэмпіянаце.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*Лявонцій РАМАНЮК:*

# «АБ АРМІЮ ГЭТУЛЬКІ ВЫЦІРАЛІ НОГІ, ШТО НАМ ВЕЛЬМІ ХОЧАЦЦА ПАКАЗАЦЬ, ЯКІЯ МЫ НА САМАЙ СПРАВЕ...»

***Беларускі рынак перыядычных выданняў папоўніўся новым часопісам. Поруч з газетай «Во славу Родины» ў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь з'явіўся яшчэ і часопіс — «Армія». Падзея ўражвае найперш і таму, што новае выданне вызначаецца высокім паліграфічным выкананнем, багата ілюстраванае. На ўсіх старонках «Арміі» — пячатка сучаснага камп'ютэрнага дызайну. Некалькі пытанняў галоўнаму рэдактару новага часопіса падпалкоўніку Лявонцію РАМАНЮКУ.***

**— Наколькі я ведаю, ідэя выдання вайсковага часопіса даўно пачала выспяваць сярод газетчыкаў «Во славу Родины», ды і ў самім Міністэрстве абароны. І вось — збылося. Якім жа будзе новы часопіс? Яго перыядычнасць? Каму мяркуеце найперш адрасаваць выданне?**

— У нас устаноўка такая — выходзіць адзін раз у два месяцы. Пакуль жа вось з пачатку года падрыхтавалі толькі адзін нумар. Прычыны на тое зразумелыя — пачынаем з нуля. Не было сваёй тэхнікі, не было людзей. Пачыналі сіламі газетчыкаў «Во славу Родины». Але не ведалі, што будзе гэтак складана. Часопіс жа — зусім іншая тэхналогія. Тым не менш часопіс атрымаўся. Прызнацца, з яго выданнем я адчуў сябе сапраўды шчаслівым. Але здарылася гэта дзякуючы дзвюм акалічнасцям. Мы атрымалі велізарнейшую падтрымку з боку міністра абароны. Там, у ваенных калідорах улады, зразумелі, што трэба самым рашучым чынам ствараць здаровы імідж Узброеных Сіл. Аб армію гэтульківыціралі ногі, што нам вельмі хочацца паказаць, якія мы на самай справе. Словам, часопіс уяўляецца нам візітнай карткай арміі. Другая акалічнасць, што паспрыяла выхаду «Арміі» такой як яна ёсць, — дапамога прадпрымальніка, былога ваеннага журналіста Аляксандра Прыліпкі. Ён, яго фірма «Хелман», таленавітыя дызайнеры-камп'ютэршчыкі Віктар Кенік і Сяргей Альхавік зрабілі ўсё магчымае, каб часопіс выглядаў на ўзроўні заходніх выданняў.

**— Тыраж часопіса тры тысячы асобнікаў. Хопіць гэтага на ўсе вайсковыя падраздзяленні?..**

— Пакуль у нас няма падпіскі. Але ж гэта ўсё наперадзе. Што датычыць распаўсюджвання першага нумара, то будзем прадаваць яго праз звычайныя кіёскі «Саюздруку». А калі гаварыць пра патэнцыяльнага чытача, то перакананы, што першачаргова «Армія» скіравана на чытача цывілізаванага. Мы проста хочам расказаць пра Узброеныя Сілы нашай дзяржавы.

Пагартайце старонкі часопіса, уявіце, дзякуючы і нашым здымкам, як зграбна, элегантна выглядае той жа танк Т-72, напрыклад. А самалёты... Сапраўдныя прыгажуны! Хіба гэта не прыгожа — маўклівая ваенная тэхніка?!

**— Сапраўды, пацыфістам вас не назавеш...**

— Але ж Узброеныя Сілы ёсць, існуюць. І хіба не справа гонару, годнасці мужчыны — умела валодаць зброяй? Іншая справа, што мы павінны расказваць і пра жахі, трагедыі, звязаныя з войнамі, іх наступствамі.

Увогуле, паказваць прыгажосць ратнай працы — ці не найгалоўнейшы наш клопат. Зірніце на вокладку першага нумара. Малады чалавек з голым торсам захоплена, з задавальненнем абціраецца снегам. І гэта не надуманая ілюстрацыя. Нам выпадак падказаў героя вокладкі. На здымку — апантаны, захоплены, улюбёны ў армію салдат-кантрактнік. Яму даспадобы выпрабаванні, рызыка.

**— Вы перакананы, што ў грамадстве ёсць цікаўнасць да арміі?**

— Безумоўна. Зараз, наадварот, адбываецца прыліў увагі да арміі. У нас зараз няма ваенных часопісаў. А быў жа час, калі саюзныя выданні — «Советский воин», «Зарубежное военное обозрение», «Авиация и космонавтика» — карысталіся велізарнейшым попытам. Зараз, калі на мінскі кніжны рынак трапляе расійскі «Военный парад», то тут жа ў вокамгненне знікае, хаця і каштуе недзе каля 100 тысяч.

**— Магчыма, скупляюць калекцыянеры...**

— Няхай сабе і так. Але ж у Расіі з'явіліся яшчэ і іншыя выданні. Той жа «Солдат удачи...» Праўда, крыху двухсэнсоўная назва. Хаця ніводнае з выданняў не вучыць страляць, забіваць, не заклікае да прыярытэту сілы. Зрэшты, сіла, як і розум, таксама важная. Бо пра чалавека сведчаць аднолькава красамоўна і фізічнае, і духоўнае здароўе.

**— Некалькі слоў пра змест першага нумара...**

— Мы імкнуліся расказаць пра характар рэформаў, якія адбываюцца ва Узброеных Сілах. Прадаставілі слова начальнікам упраўленняў міністэрства. Гэта канцэптуальны бок публікацый. Далей ідуць матэрыялы, што паказваюць пункт гледжання «нізоў» на рэформы. Нам цікава, што думаюць пра вялікую вайсковую палітыку «нізы», скажам так — ротныя, батальённыя камандзіры.

У часопісе традыцыйнымі стануць рубрыкі, прысвечаныя гісторыі ўзбраення, сучаснай ваеннай тэхніцы, зброі. Хіба гэта не цікава? Зараз жа такая літаратура ў Беларусі не выдаецца зусім. Здаецца, і назвы раздзелаў — «Канверсія», «Ваенныя тайны» — гавораць самі за сябе. З першага нумара пачынаем цыкл публікацый на тэмы выжывання ў экстрэмальных умовах. Шукаем неардынарных асоб, чыё жыццё звязана з арміяй. Такія людзі на Беларусі ёсць.

Дарэчы, шмат у чым часопіс выйграе дзякуючы выключна прафесіянальным фотаілюстрацыям. Тут мы павінны падзякаваць вядомым фотамайстрам краіны Сяргею Грыцу, Васілю Федасеенку, Віктару Драчову.

**— Мне падаецца, што вы забыліся ў часопісе на беларускую мову, беларускую культуру, гісторыю...**

— Вы робіце высновы толькі па першым нумары. У партфелі рэдакцыі — матэрыялы пра Беларусь і напісаныя па-беларуску. Збіраемся адкрыць рубрыку «Мой родны кут». Будзем расказваць пра тыя гарады і пасёлкі, дзе знаходзяцца вайсковыя часці. Знойдзецца ў нас месца і для беларускай вайсковай гісторыі.

А што тычыцца падзей Вялікай Айчыннай, то тут і ўвогуле гатовы выпусціць асобны нумар. Адкрылі процьму «белых плям» пра год 1941-ы. Думаем, што не толькі радавому чытачу, але і многім прафесіянальным гісторыкам цікава будзе пазнаёміцца з нашымі адкрыццямі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ*

# ...САБРАЦЦА Ў ПАХОД

**Летні адпачынак на прыродзе — заўсёды страты для кашалька. Добра, калі вы чалавек беражлівы і ў вас захаваўся неабходны «рэквізіт» мінулых гадоў, ну, а калі вам давядзецца яго трошкі абнавіць, а то і нанава «сабрацца» з ног да галавы — у гэтым выпадку ваш сямейны бюджэт значна пацерпіць.**

Прагуляўшыся па сталічных магазінах спорттавараў, нягледзячы на некаторую беднасць асартыменту, вы ў тым ці іншым магазіне ўсё-такі зможаце набыць неабходную вам рэч.

Напрыклад, веласіпеды можна выбраць у магазінах «Старт» (вул. Даўгабродская, 26): дарожны складны — каля 1 млн. 400 тыс., «Турыст» (вул. Талбухіна, 12): дарожны — 1.170.000 руб., горны — 1.950.000, жаночы — 1.895.000 руб., «Спорттавары» (пр-т Ракасоўскага, 49): складны дарожны — 1.495.000, дзіцячы — 462.000 рублёў.

Найвялікшы асартымент лодак прадстаўлены ў магазіне «Паляўнічы» (пр-т Ф. Скарыны, 55): «Амега-2» — 3.300.000 руб., «Ветрык-1» — 2.100.000 руб., «Уфімка-22» — 2.700.000 руб.

Тут жа і лепшы выбар рыштунку для рыбалова: вудачкі спінінгавыя — ад 131 да 200 тыс. руб., спінінгі — ад 148 да 303 тыс. руб., скрынка рыбалова — 122 тыс. руб., боты гумавыя — ад 170 да 600 тыс. руб.; боты балотныя — 350 тыс. руб., ліхтар падводны (ЗША) — ад 582 да 633 тыс. руб.

Паляўнічыя змогуць тут «набыць» стрэльбу за 2.100.000—14.500.000 рублёў, патранташ — за 247—312 тыс. руб., паляўнічы нож — за 325 тыс. руб. і... капялюш камуфляжны — усяго за 115 тыс. руб.

Тым, хто аддае перавагу турыстычным паходам і начам, праведзеным ля кастроў, давядзецца запасціся руказакамі, дэфіцыту ў якіх нідзе не адчуваецца, а цэны, у залежнасці ад памераў, вагаюцца ад 200 да 600 тыс. руб.

Куды больш складана давядзецца з набыццём палатак і спальных мяшкоў: у «Спорттаварах» па вул. Я. Коласа па 1.690.000—4.550.000 рублёў — палаткі; у «Турысце» па 2.600.000 руб. — тэнтавы каркасны гараж, па 562—846 тыс. руб. — спальныя мяшкі, у «Старце» па 2.030.000 руб. — двухмесныя палаткі, у магазіне «Спорт-турызм» (вул. Прытыцкага, 42) па 1.000.000 і ў «Спорттаварах» (пр-т Ракасоўскага, 49) па 680 тыс. руб. — спальныя мяшкі.

Пабачыўшы гэтыя цэны, неяк міжволі пачынаеш схіляцца да думкі аб пасіўным адпачынку, які, можа быць, не нанясе такога адчувальнага ўдару па вашых фінансах.

Але, як гаворыцца, усё на свеце адносна. Напрыклад, папесціцца пад сонейкам можна на хатнім пакрывале, але можна і ў шэзлонгу за 157.400 руб. (маюцца толькі ў «Спорттаварах» па вул. Я. Коласа, 30). Камусьці здасца залішнім гамак (у «Спорцетурызме», цана 188 тыс. руб., у «Спорттаварах» па пр-це Ракасоўскага — 203 тыс. руб., «Спорттавары» па вул. Я. Коласа — 188.500 руб.), а нехта не зможа адмовіць сабе ў гэтым задавальненні.

А вось паплаваць на надзіманым матрацы любяць, бясспрэчна, усе. Калі цэны вас не адпудзяць, то вы зможаце іх набыць па цане ад 400 да 800 тыс. руб. у «Спорттаварах» (пр-т Ракасоўскага) і магазіне «Спорттурызм». А вось каб адмовіцца ад пікнічка з шашлычком, трэба мець вельмі моцныя нервы. Шашлычніца ўсім «прыхільнікам дымка» абыдзецца ў 166.500 руб. («Турыст» і «Спорттавары», вул. Я. Коласа). Ну, а калі дадаць сюды кавалачак мяса, пляшачку віна і іншае, то такі адпачынак здасца многім вельмі шыкоўным.

Что ж, выходзіць, няма грошай — сядзі дома, адпачывай?..

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ВЫЙСЦІ ЗАМУЖ

**Чалавека, які браў шлюб у часы не вельмі далёкага мінулага і карыстаўся выключна паслугамі салона «Шчасце», можа прывесці ў замяшанне мноства прапаноў, што зыходзяць ад прыватных вясельных салонаў, а таксама проста ад прыватных асоб. Паспрабуем паслугі і цэны на іх прывесці ў якую-небудзь сістэму.**

Вызначыць верхнюю мяжу цэн на вясельны ўбор для жаніха і нявесты увогуле цяжкавата, таму што ў некаторых прыватных салонах можна набыць шыкоўныя і неймаверна дарагія строі з лепшых каталогаў свету. Паколькі кола маладых, якіх не бянтэжыць колькасць нулёў на цэнніку, вельмі абмежаваная, то будзем арыентавацца на сярэднюю якасць, без прэтэнзій.

Пачнём з нявесты. Калі на вяселлі ўкрадуць жаніха, гэта заўважаць далёка не ўсе. Выкраданне ж нявесты нікому не сыдзе з рук, таму што яна — не проста прыгожае, але яшчэ і дарагое задавальненне. Вясельную сукенку з неабходнымі аксесуарамі танней за ўсё купляць па прыватных аб'явах, тады можна ўкласціся ў суму 40—60 долараў. Вясельны ўбор у прыватным салоне рэальна набыць за 120—200 тых жа долараў (па словах работнікаў салонаў — гэта сукенкі вытворчасці Італіі, Іспаніі, Германіі, радзей — Францыі, ЗША). У салоне «Шчасце» сукенка каштуе ад 800.000 — 1.500.000 да 3.000.000 рублёў. Больш практычныя нявесты могуць узяць вясельны ўбор напракат, балазе фірмаў, якія аказваюць такія паслугі, у горадзе дастаткова. Сукенкі — на любы густ, рознага стылю, што адбіваецца на розніцы цэн за 2-3 дні карыстання: ад 25 да 250 долараў.

Прыведзеныя ніжэй цэны на абутак як для жаніха, так і для нявесты ўзяты ў салоне «Шчасце», хоць яны не адрозніваюцца ад цэн у іншых магазінах і ў прыватным гандлі. Такім чынам, туфлі айчыннай вытворчасці нявеста набудзе за 130.000—180.000 рублёў. Кошт замежных туфляў вагаецца ад 200.000 да 1.400.000.

Пасля набыцця вясельнага букета за 100.000—150.000 рублёў нявесту можна пакінуць у спакоі і заняцца яе абраннікам.

Касцюм для жаніха каштуе 40—50 долараў (калі купляць яго па прыватных аб'явах) 110—120 долараў — у прыватных салонах, 800.000—2.000.000 рублёў — у дзяржаўным салоне «Шчасце». Абутак айчыннай вытворчасці ацэньваецца ў 200.000—450.000 рублёў, а замежнай — у 250.000—1.100.000.

Напомнім яшчэ некалькі паслуг, без якіх абысціся цяжка, а часам і немагчыма. Рэгістрацыя шлюбу ў адным з ЗАГСаў Мінска каштуе 85.000 рублёў. У гэтую лічбу ўваходзіць і дзяржпошліна, і афармленне дакументаў, і аплата самога ўрачыстага моманту. Да ЗАГСа можна даехаць і на таксі, але лепш на «Вольва-40», заплаціўшы за 3 гадзіны 30—45 долараў. А можна і зэканоміць грошы, выкарыстаўшы паслугі сяброў-аўтааматараў. Калі вы не паспелі да вяселля набыць відэакамеру, то купіце хаця б відэакасету. Відэаздымка ў ЗАГСе каштуе 150.000 рублёў. 3 гадзіны ўсяго, што будзе адбывацца пасля рэгістрацыі, вам здымуць за 70 долараў відэааматары, якія жадаюць зарабіць (шукайце прыватныя аб'явы). Затое пасля вяселля ў вас будзе дастаткова часу, каб набыць відэамагнітафон. Адзін фотаздымак у ЗАГСе каштуе 15.000, негатыў — 25.000 рублёў.

Гэтым, вядома, не абмяжоўваюцца ўсе грашовыя выдаткі, звязаныя з вяселлем, аднак астатнія праблемы ў кожным доме вырашаюцца па-рознаму. Нехта наладжвае ў рэстаране пышную ўрачыстасць на 100 і больш персон з ансамблем і тамадой, а нехта святкуе дома, у коле сям'і і сведак.

**На заканчэнне — аб вянчанні. У Кафедральным саборы вас абвянчаюць за 350.000 рублёў разам з яшчэ некалькімі парамі маладых. Такім чынам, выбірайце, але асцярожна, аднак ўсё ж выбірайце вяселле — якое-ніякое, а свята для душы.**

**Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

*КРЫК АБ ДАПАМОЗЕ*

# АБРЫДЛА ЖАБРАВАЦЬ. ХАЧУ ЗАРАБЛЯЦЬ СВАЁЙ ПРАЦАЙ І ГАДАВАЦЬ СЫНА

**Зноў прымусілі вам напісаць бясконцая галеча і беспрасветнасць. Адна выхоўваю сына 6,5 года. Працую справаводам, аклад 400.000—500.000 разам з індэксацыяй і прэміяй. Ужо дайшлі з сынам да таго, што на сметніку падбіраем выкінутыя рэчы. Сын пастаянна хварэе. Думаю, ад недахвату належнага харчавання. Лячыць яго няма за што, вывезці ў санаторый — таксама. Нават на прафсаюзную пуцёўку коштам 700.000 рублёў у мяне няма грошай. Сваякоў тут не маю, дапамагчы ніхто не можа, і б'юся адна як рыба аб лёд.**

Я ўжо і ў фонды розныя пісала — ніякага адказу. Затое па радыё трубяць пра міласэрнасць, гавораць, што дапамагаюць камусьці ў вялікіх маштабах, а канкрэтна асобнаму, маленькаму чалавеку, які вельмі гаруе, маўляў, зрабіць гэта цяжка. Хоць бы хто пацікавіўся, як жывеш-выжываеш з дзіцем на такую мізэрную зарплату? Я і ў газеты два разы пісала. Дзякуй добрым людзям: прыслалі непатрэбнае адзенне, ёсць хоць у што сына апрануць. І прадуктамі крыху дапамаглі.

Але не будзеш жа пастаянна жабраваць, прасіць у чужых людзей. Не разумею, чаму няма ў нас дзяржаўнай падтрымкі маламаёмным. 70.000 рублёў дапамогі на дзіця — хіба гэта падтрымка?

Сын расце, растуць і патрэбнасці, выдаткі. Я павінна яго выхаваць і паставіць на ногі. Скажыце, як без грошай гэта зрабіць? Жыву ў ведамасным інтэрнаце. Больш высокааплатную работу знайсці цяжка. А калі і знайду, звольніцца не магу: страчу жыллё, а іншага ў мяне няма.

Вось і звяртаюся ў вашу газету з просьбай надрукаваць маё пісьмо. Можа, хто падкажа, дзе ёсць такая вёска, у якой можна атрымаць работу, жыллё. Словам, каб можна было выхоўваць сына і карміць яго і сябе. Я даўно жыву ў горадзе і бачу, што мне тут не выжыць. Даіць кароў не ўмею, але, думаю, усяму змагу навучыцца. 1 год я нават вучылася на пчаляра, але не давучылася: у горадзе гэта спецыяльнасць была непатрэбнай. Бацькі мае жывуць таксама ў адным з гарадоў Гомельскай вобласці. Туды я ехаць не магу з-за Чарнобыля.

Лічу, што работнік з мяне і ў вёсцы можа выйсці добры, мне хутка споўніцца 34 гады. Чакаю запрашэнняў туды для жыхарства і работы. Толькі прашу не хвалявацца патэнцыяльных жаніхоў. Аднойчы ў адной з газет надрукавалі маё пісьмо з просьбай аб дапамозе адзеннем, дык многія мужыкі кінуліся замуж клікаць. І ўсё такія, прабачце, што «на табе, Божа, што мне не гожа».

**Прозвішча і хатні адрас паведамляю толькі для рэдакцыі. Для водгукаў чытачоў надрукуйце такі адрас:**

***222120, г. Барысаў-8, а/с 184, Алене Мікалаеўне.***

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Друкуем гэта шчырае пісьмо-»крык душы» з адной мэтай: каб яго заўважылі чытачы «Звязды».

Спадзяёмся, што на яго звернуць сваю ўвагу перш-наперш кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, іншых сельгаспрадпрыемстваў, дзе патрэбны працавітыя рукі, маладыя кадры. Думаецца, такіх гаспадарак у рэспубліцы нямала.

Адно хацелася б, каб да просьбы гэтай жанчыны аднесліся ўважліва, сур'ёзна, з поўнай адказнасцю, а не проста наабяцалі залатыя горы.

Незразумела толькі тое, чаму ў Барысаве не змаглі гэтай пакрыўджанай жанчыне прапанаваць работу ў сваім сельскім раёне?

# У ПАЖАРНІКАЎ СТАЛІЦЫ НЕДАСТАТКОВА СІЛ І ТЭХНІКІ, АЛЕ АГОНЬ ГЭТА НЕ ЦІКАВІЦЬ

**За студзень—красавік бягучага года ў Мінску адбыліся 644 пажары — на 1 працэнт менш, чым за той жа перыяд мінулага года. У агні загінула 20 чалавек, сярод іх 5 дзяцей.**

Як паведаміў начальнік упраўлення мінскай гарадской ваенізаванай пажарнай службы Барыс Варынгольц, у ходзе праверкі 15 тысяч прадпрыемстваў была перапынена работа 320 аб'ектаў, пакарана 1 тысяча службовых асоб, адказных за проціпажарны стан прадпрыемстваў. Аднак дзве трэці пажараў адбываецца ў жыллёвым сектары. У 85 працэнтах выпадкаў віноўнікамі трагедыі становяцца самі жыхары. Традыцыйна, гэта пакінутыя без нагляду электрапрыборы, газавыя пліты і да т. п. Мінгарвыканкомам зацверджана праграма па навучанню насельніцтва правілам пажарнай бяспекі. Аднак у эфектыўнасці яе дазволю сабе ўсумніцца: колькі ўжо было праграм, аднак тое, што павінен ведаць кожны, тым не менш, ніхто не ведае. Хаця, магчыма, наступная інфармацыя засяродзіць увагу кожнага чытача: з віноўніка пажару спаганяецца штраф у памеры ад 5 мінімальных заработных плат, з адказных асоб — ад 20 мінімальных зарплат. У дадатак віноўнік кампенсуе страты, нанесеныя пажарам усім пацярпеўшым.

Спякота надае дынамізм жыццядзейнасці прадстаўнікоў службы 01. Звычайна за суткі адбываецца 10—15 выездаў, за мінулы красавік пажарныя сталіцы выязджалі больш як 30 разоў штодня. У сувязі з гарачым надвор'ем у горадзе забаронена распальванне вогнішчаў. Нядаўняя трагедыя ў Крычаве, калі ў пажары ў інтэрнаце гумавых вырабаў загінула 8 чалавек, паказала, што пажарная служба недастаткова забяспечана тэхнікай. У штаце сталічнай ваенізаванай службы 01 працуюць 1 тысяча 650 чалавек. Паводле слоў Барыса Сямёнавіча, па нарматывах павінна быць 2 тысячы. Машынны парк зношаны на 25 працэнтаў, некаторыя аўтамабілі эксплуатуюцца з 1983 года. У мінулым годзе сталічная пажарная служба атрымала ўсяго 2 машыны, у той час як у ранейшыя часы парк абнаўляўся штогод на 20 аўтамабіляў. Як адзначыў спадар Варынгольц, «мы паспяваем дзякуючы хуткасці і манеўровасці». Для забяспячэння паспяховай работы пажарнай службы Мінска неабходна яшчэ каля 30 аўтацыстэрнаў, 12 аўталесвіц. Улічваючы складаную эканамічную сітуацыю, пажарныя сталіцы не чакаюць паляпшэння тэхнічнага забяспячэння (адкуль чакаць, калі адна машына хоць украінскай, хоць беларускай вытворчасці каштуе 7 тысяч долараў?). Разам з тым надвор'е на эканамічнае становішча скідак не робіць. «Год-два мы папрацуем, потым пытанне стане вельмі востра», — зазначыў Барыс Сямёнавіч.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ГАРАДЫ ПАКУЛЬ ТРЫМАЮЦЦА. ПЕРАВАЖНА, ДЗЯКУЮЧЫ МІГРАЦЫІ

**Наша газета ўжо паведамляла папярэднія даныя Міністэрства статыстыкі аб колькасці жыхароў у буйнейшых (ад ста тысяч і болей) гарадах Беларусі. Нагадаем, на пачатак года іх было чатырнаццаць: Мінск — 1 мільён 700 тысяч чалавек, Гомель — 512 тысяч, Магілёў — 367, Віцебск — 365, Гродна — 302, Брэст — 293, Бабруйск — 227, Баранавічы — 172, Барысаў — 153, Орша — 134, Пінск — 130, Мазыр — 108, Салігорск і Ліда — прыкладна па 101 тысячы жыхароў.**

Днямі спецыялісты аддзела дэмаграфічнай статыстыкі Мінстата падрыхтавалі інфармацыю аб колькасці насельніцтва ў іншых гарадах Беларусі. З яе вынікае, што, як і ў выпадку са «статысячнікамі», лік гарадоў з колькасцю жыхароў ад 50 тысяч і болей таксама не змяніўся. Дарэчы, такіх населеных пунктаў сёння ў краіне дзесяць. Гэта Навапалацк і Маладзечна — па 97 тысяч чалавек (летась прыводзіліся такія лічбы), Полацк — 87 (у 1995 годзе — 88 тысяч), Светлагорск — 76 (76), Рэчыца — 71 (73), Жлобін — 69 (67), Слуцк — 63 (63), Жодзіна — 60 (60), Слонім — 53 (53), Кобрын — 52 (у мінулым годзе — 51 тысяча чалавек).

Як вынікае з гэтых звестак, за апошні год істотных змен у колькасці насельніцтва ў невялікіх гарадах Беларусі не адбылося. Засмучае хіба што наступнае: у большасці выпадкаў «раўнавага» дасягнута не натуральным шляхам, а перш-наперш дзякуючы міграцыі.

**Сяргей ГРЫБ.**



Гэта хлопчык — не жабрак. Ён чакае свайго пакупніка, каб прадаць свой тавар — лясныя кветкі. Але людзі моўчкі ідуць далей. Шкада хлопчыка. Яму б у школе быць, кніжкі чытаць, у футбол гуляць. Магчыма, гіне талент вучонага ці пісьменніка — хто ведае?

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ: НАПЯРЭДАДНІ ДРУГОГА АРЫШТУ

## (1935—1937 гг.)

**Той, хто знаёміўся з архіўнай крымінальнай справай № 13036 па абвінавачанню пісьменніка Максіма Гарэцкага ў 1937—1938 гг., мог лёгка выявіць, што кімсьці з супрацоўнікаў дзяржаўнай бяспекі УНКУС па Смаленскай вобласці было ў свой час вырвана восем лістоў дакументаў.**

Пра гэты факт, у прыватнасці, упаміналася Р. Г. Гарэцкім і мною ў перыядычным друку ў 1992—1993 гг. Следчы або аператыўны супрацоўнік УДБ, калі вырываў дакументы, не вельмі паклапаціўся аб канспірацыі: ён проста вырваў першыя 6, а таксама 15-ы і 16-ы лісты з крымінальнай справы, а магчыма, і ўнутраны вопіс дакументаў, ад чаго скразная нумарацыя, натуральна, пры гэтым была парушана і крымінальная справа цяпер пачынаецца з ліста № 7.

Ці спрабавалі чэкісты штосьці ўтаіць, вырываючы з крымінальнай справы восем лістоў дакументаў?

Несумненна!

Ці ўяўляюць гэтыя дакументы гістарычную каштоўнасць для нас, вывучаючых вялікую творчую спадчыну і трагічную біяграфію класіка беларускай літаратуры?

Бясспрэчна!

Схаваныя дакументы я шукаў трынаццаць месяцаў і выявіў іх у чэрвені 1994 года ў адным з тэрытарыяльных ведамасных архіваў Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі. Па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын дакументы мной не публікаваліся і сёння абвяшчаюцца ўпершыню.

Лічыцца, што прычынай арышту Максіма Іванавіча Гарэцкага ў 1937 годзе з'явіліся дакладная запіска чыста даноснага характару, перададзеная настаўнікам П. П. Васільевым[1] у газету «Правда», а таксама пісьмо рэдкалегіі газеты на імя сакратара Заходняга абласнога камітэта ВКП(б) І. П. Румянцава[2]. Абодва вышэйуказаныя дакументы поўнасцю апублікаваны ў 1993 годзе ў Смаленску. Аднак сярод зноў выяўленых у 1994 годзе архіўных дакументаў НКУС ёсць яшчэ адзін, які пралівае дадатковае святло на абставіны арышту М. І. Гарэцкага. Гэта невялікі па аб'ёму дакумент унутранага карыстання, падрыхтаваны ў Смаленску, у УНКУС па Заходняй вобласці, і накіраваны ў г. Кіраў, у раённае аддзяленне УНКУС Заходняй вобласці:

*СССР*
*Народный Комиссариат*
*Внутренних дел*
*Управление НКВД СССР*
*по Западной области*
*Отдел 4-й «29» III 1937 г. № 2232/6*
*г. Смоленск,*
*телефон-коммутатор № 30060*
*Сов. Секретно.*

*Врид. начальника Кировского РО УНКВД*

*З/О Сержанту Государственной Безопасности тов. Быстрову.*

*При этом направляется два письма [:] учителя Васильева П. П. и редакции газеты «Правда» за № 030117-107020 от 19 марта 1937 г. о к.[онтр-]р. [еволюционных] проявлениях в средней школе гор. Кирова, для производства срочного расследования.*

*О результатах сообщите с высылкой всех материалов расследования к 8 апреля с/г.*

*Приложение: по тексту.*

*Начальник IV отдела УГБ УНКВД З/О*
*Капитан Госуд. Безопасности*
*(Малыгин)*
*За секретаря IV-Отдела УГБ*
*(Шевелев)*[3]

Толькі што працытаваны дакумент ніяк не разбурае версію аб дачыненні настаўніка П. П. Васільева да арышту М. І. Гарэцкага. Наадварот, іншыя ўказанні, якія пайшлі ўслед за гэтым са Смаленска, у тым ліку і загад ад 2 лістапада 1937 года аб яго арышце, з'яўляюцца, вядома ж, вынікам даносу П. П. Васільева. Менавіта гэты чалавек «падштурхнуў» М. І. Гарэцкага ў абдымкі НКУС і менавіта ён, П. П. Васільеў, гэтак жа, як і смаленскія чэкісты, вінаватыя ў арышце і фізічным знішчэнні М. І. Гарэцкага.

У 1993 годзе мной была выказана думка аб тым, што Максім Іванавіч Гарэцкі, як бы ні склаўся яго лёс пасля адбыцця пакарання ў высылцы і куды б ён ні пераехаў з яе на пастаяннае месца жыхарства, не застаўся б без пільнай увагі з боку ўсёпранікальнага вока і шчупальцаў страшнага і жахлівага НКУС. У гэтай сувязі я праводзіў аналогію аб падабенстве трагічных лёсаў дзесяткаў беларускіх інтэлігентаў, якія нацярпеліся спаўна ад камуністычнай бальшавіцкай улады і ў рэшце рэшт былі ёю ж расстраляны. Такі сумны лёс Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Цвікевіча, Уладзіміра Пракулевіча, Ігната Дварчаніна, Браніслава Тарашкевіча, Максіма Гарэцкага і многіх іншых бязвінных ахвяр сталінскага самавольства і тэрору. І, хутчэй за ўсё, Максім Іванавіч Гарэцкі прадчуваў сваю хуткую гібель, аб чым мы можам меркаваць па яго «Скарбах жыцця» (Полымя, 1993, № 2).

А выяўленыя дакументы, якія я буду зараз цытаваць, пераканаўча сведчаць, што калі б не было на шляху М. І. Гарэцкага настаўніка П. П. Васільева — усё роўна пісьменнік наўрад ці перажыў бы крывавы 1938 год.

Органы НКУС не пакінулі без старраннага негалоснага нагляду М. І. Гарэцкага нават пасля таго, як ён, па чэкісцкай тэрміналогіі, адбыў «меру сацыяльнай абароны ў г. Кіраве і вызвалены 21-га ліпеня 1935 года па адбыванню меры сацабароны».

Такім чынам, 1 верасня 1935 года М. І. Гарэцкі назначаны выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў поўную сярэднюю школу г. Пясочні Заходняй вобласці.

Менш чым праз 2 месяцы, канкрэтней, праз 57 дзён — 27 кастрычніка 1935 года з сакрэтна-палітычнага аддзела УРБ УНКУС па Заходняй вобласці ў Пясочню ідзе дакумент наступнага зместу:

*Совершенно секретно.*

*Начальнику Песоченского Р/О УНКВД Зап. обл. п. Песочня.*

*Возвратившийся из концлагеря, видный белорусский нацдем, участник к[онтр]-р [еволюционной] организации Горецкий Максим Иванович работает в одной из школ Песочненского р-на.*

*Немедленно установите место работы Горецкого и сообщите имеющиеся у Вас агентурные возможности для его разработки.*

*Ответ ожидаем не позднее 3 ноября.*

*Зам. нач. секрет. полит. отд. УГБ*
*УНКВД по Запобласти (Коллегов)*
*нач. 5 отдел. [ения] СПО УГБ*
*(Левинсон)*
*№ 13480/1 27 октября 1935 г.*
*г. Смоленск*[4].

На ўказанні са Смаленска супрацоўнікам УДБ райаддзялення УНКУС Быстровым была накладзена наступная рэзалюцыя: «Т. Сидоренкову Установить и агентурно обставить Быстров».

Штосьці не спрацавала на гэты раз у даволі-такі адладжаным чэкісцкім механізме, і адказ у Смаленску да 3 лістапада атрыманы не быў. Але, верагодна, пытанне з М. І. Гарэцкім стаяла на кантролі ў кіраўніцтва абласнога ўпраўлення НКУС, таму што 9 лістапада начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела УДБ УНКУС Савін накіраваў тэлеграму ў Пясочанскае райаддзяленне ўнутраных спраў.

Адказ у Смаленск быў пасланы на наступны дзень, 11 лістапада 1935 года (№ 2289):

*Сов. Секретно. Серия «К»*
*Нач. СПО УГБ УНКВД З/О*
*Гор. Смоленск.*

*Сообщаем, что Горецкий Максим Иванович нами на жительстве в гор. Песочне установлен последний прибыл в первых числах октября м-ца с/г, работает П[есоченской] С[редней] школе на его иждивении двое детей: сын и дочь, учаться в школе, жена его по сведениям находиться больная в гор. Брянске.*

*Среди учительства, Горецкий держиться нейтрально и связей не имеет. Агентурных возможностей для его разработки мы сейчас не имеем, нами подрабатываются его связи, для выявления кандидатуры для [в]ербовки о чем будет сообщено.*

*Нач. Песоченского Р/О НКВД:*
*(Карасев).*
*Уполномоченный УГБ:*
*(Сидоренков)*[5].

5 снежня 1935 года са Смаленска ў Пясочню ідзе новае ўказанне. Смаленск прыспешвае райапарат НКУС і дае на выкананне свайго распараджэння менш 4 сутак:

*СССР*
*Народный Комиссариат*
*внутренних дел*
*Управление НКВД СССР*
*по Западной области*
*Отдел «5» XII 1935 г. №14550/1*
*г. Смоленск*
*телефон-коммутатор № 30060*
*Сов. секретно.*
*Нач. Песоченского РО УНКВД З/О.-*
*на № 2289 от 11/XI-35 г.*

*Сообщите обратной почтой результат разработки связей Горецкого и намеченные кандидатуры для вербовки.*

*Горецкий является видным лидером белнацдемов. К нему возможен приезд остальных лиц для инструктажа из Белоруссии.*

*Изыщите агентурный подход по месту его жительства, сообщите кого можно завербовать из его соседей по квартире.*

*Ответ ожидаем не позднее 10 декабря с/г.*

*Начальник секретно-политического*
*отдела УГБ УНКВД Запобл.*
*(Саввин)*
*Начальник 5 о ОТД СПО УГБ*
*(Левинсон)*[6]

Менавіта 10 снежня 1935 года ў Пясочні было прынята рашэнне аб заводзенні на М. І. Гарэцкага справы і аб далучэнні да яе ўсіх наяўных на гэты дзень кампраметуючых матэрыялаў на пісьменніка, у сувязі з чым упаўнаважаным УГБ Сідарэнкавым выносіцца адпаведная пастанова.

Як распрацоўваліся чэкістамі сувязі М. І. Гарэцкага, якая агентура імі была задзейнічана для кантролю за пісьменнікам, мы, хутчэй за ўсё, ніколі не даведаемся. Дакументаў наконт гэтага не выяўлена і, зусім магчыма (я ў гэтым цвёрда пераканаваны), іх наогул не існавала.

Я кажу так упэўнена таму, што вывучыў сотні крымінальных «расстрэльных» спраў, якія знаходзяцца на захоўванні ў архівах Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі. Стыль работы энкэвэдыстаў быў усюды стандартны і на месцах не асабліва вызначаўся разнастайнасцю, за выключэннем, вядома, працэсуальнага афармлення пратаколаў допытаў сведак і абвінавачваемых. Тут чэкісты ў 1937—1938 гг. праявілі проста цуды вынаходлівасці, дэманстравалі суперуяўленне, часам, трэба прызнаць, хваравітае, і часцей за ўсё выступалі ў ролі пісьменнікаў-фантастаў або інсцэніроўшчыкаў дзеянняў неіснуючых контррэвалюцыйных арганізацый. Гэта, вядома, прыводзіла ў канчатковым выніку, як нам усім вядома, да вялікіх чалавечых трагедый.

У нашым канкрэтным выпадку чэкісты не тое што бяздзейнічалі. Яны яшчэ не прывыклі адлюстроўваць і фіксаваць на паперы свае аператыўныя дзеянні, таму што ў гэтым асаблівай неабходнасці не было: у краіне пакуль не пачаліся масавыя арышты і рэпрэсіі. Супрацоўнікі райаддзялення НКУС задавальняліся эпізадычным зборам характарызуючых даных на М. І. Гарэцкага, але паколькі апошні сябе ніяк не праяўляў, якіх-небудзь сур'ёзных кампраметуючых матэрыялаў на яго здабыта не было і ніякія дакументы на пісьменніка не складаліся. Чэкісты абмежаваліся толькі рэдкімі адпіскамі.

Аднак маўчанне перыферыйных чэкістаў было расцэнена ў Смаленску як непрафесіяналізм і нядобрасумленнае выкананне службовых абавязкаў. Ці былі на гэта сур'ёзныя падставы, не вядома. Можа, і не было. Відаць, калі справа М. І. Гарэцкага была пастаўлена на кантроль ў СПА УДБ абласнога ўпраўлення НКУС і СПА ГУДБ НКУС СССР, то аб ім перыядычна ўспаміналі, каб давесці яе да канца і канчаткова вызначыцца, што ж рабіць з М. І. Гарэцкім.

Чарговая, на гэты раз больш грозная, дырэктыва са Смаленска ў Кіраў была спушчана 19 ліпеня 1936 года:

*Совершенно секретно.*

*Нач. Кировского Р/О УНКВД Запобласти.*

*№№ 13480, 14560, 14801 мы указывали на необходимость изыскания агентурного подхода к разрабатываемому видному белорусскому нацдему Горецкому, но до сего времени Вы не сообщили о результатах разработки Горецкого.*

*Обратной почтой сообщите — привлечен ли Вами к работе Н., что сделано для изыскания других агентурных подходов к Горецкому.-*

*Пом. начальника СПО УГБ УНКВД З/О*
*(Аронсон)*
*Начальник 5 Отделения СПО*
*лейтенант Гос. Безопасности*
*(Левинсон)*[7]

Застаецца нявысветленым яшчэ адно важнае пытанне аб ступені і глыбіні каардынацыі дзеянняў смаленскіх чэкістаў са сваімі калегамі з НКУС БССР. Для атрымання адказу на гэта пытанне спатрэбіцца час і старраннае вывучэнне архіўнага знятага фонду КДБ Рэспублікі Беларусь. Спадзявацца на шанцы і на выяўленне такіх дакументаў у Цэнтральным аператыўным архіве ФСБ РФ (г. Масква) не прыходзіцца, — там сотні тысяч спраў, абсалютная большасць якіх нікім і ніколі не вывучалася і не сістэматызавалася.

А аб тым, што каардынацыя паміж Заходнім абласным упраўленнем ДБ УНКУС у Смаленску і УДБ НКУС БССР была, сумненняў няма. Мой аргумент — апошні, дзевяты з выяўленых дакументаў, — яшчэ адно ўказанне начальніку Кіраўскага РА НКУС Заходняй вобласці лейтэнанту дзяржаўнай бяспекі Карасёву заняцца М. І. Гарэцкім:

*СССР*
*Народный Комиссариат*
*Внутренних дел*
*Управление НКВД СССР*
*по Западной области*
*Отдел СПО «16» XII 1936 г. № 7524/5*
*г. Смоленск.*
*телефон-коммутатор № 30060*
*Совершенно секретно.*

*Начальнику Кировского РО УНКВД Запобласти*
*Лейтенанту Гос. Безопасности*
*тов. Карасеву.*

*В Белоруссии вскрыта контрреволюционная фашистская организация, связанная с троцкистами, зиновьевцами и украинскими националистами. Основным и руководящим составом вскрытой организации являлись осколки ликвидированных контрреволюционных организаций «СВБ» и «БНГ», в большинстве своем писатели, литературные и газетные работники. Установлено, что вскрытая организация является только частью широкой националистической организации, ставившей своей целью отделение Советской Белоруссии от СССР и создание «Белорусской народной республики» с фашистской формой правления. Отдельные звенья вскрытой организации носили террористический характер.*

*Значительное количество участников вскрытой организации в прошлом являлись участниками «СВБ».*

*В связи с вышеуказанным, разработке проживающего в г. Кирове б[ывшего] руководителя «Союза вызволения Украины» — Горецкого Максима Ивановича и выявлению возможной руководящей роли в вскрытой организации, СПО ГУГБ придает серьезное значение. Необходимо Горецкого обеспечить глубокой и тщательной разработкой с целью выявления всех его связей, в частности, с Белоруссией, вскрытия характера этих связей и возможной его причастности к национал-фашистской организации.*

*Ваше сообщение (№ 985) о том, что Горецкий живет замкнуто, ни с кем не поддерживает связей — не соответствует действительности, ибо Вы, несмотря на наши неоднократные указания, не подобрали и не завербовали осведомления, которое могло бы фиксировать связи Горецкого, приезд к нему отдельных лиц и возможные поездки Горецкого в БССР.*

*В наикратчайший срок предлагаем изыскать агентурный подход к Горецкому с целью выявления группирования вокруг него контрреволюционных лиц, в частности прибывших из БССР, фиксации фактов приезда к Горецкому отдельных лиц из БССР и выезда его самого в БССР.*

*Изыщите на месте возможность организации просмотра документов в адрес Горецкого и приступите к проведению таковой лишь в том случае, если Вы в состоянии будете обеспечить в этом вопросе полную конспирацию, как в смысле получения документов, для просмотра, так и в смысле хорошей технической обработки документов. Если у Вас не будет в этом гарантий — просмотр документов не устанавливайте.*

*О результате принятых Вами мер сообщите не позднее 25 декабря с. г.-*

*Начальник СПО УГБ УНКВД Зап. обл.*

*Ст. лейтенант Государствен. Безопасности*
*(Малыгин)*
*Начальник 5 Отделения СПО*
*Лейтенант Государств. Безопасности*
*(Левинсон)*[8]

Перастаўшыя сёння складаць тайну восем з дзевяці зноў выяўленых дакументаў НКУС неабвержна даказваюць, што М. І. Гарэцкі на працягу вельмі працяглага часу знаходзіўся пад пільным кантролем чэкістаў. Дзяржаўныя апрычнікі, надзеленыя ўладай і партыяй спецыяльнымі паўнамоцтвамі і загадзя індульгіраваныя імі, пастаянна ўмешваліся ў асабістае жыццё пісьменніка і яго сям'і. Вось яшчэ чаму я так упэўнена сцвярджаю, што шанцаў у Максіма Іванавіча Гарэцкага застацца жывым у 1938 годзе ўжо не было.

Апошні дакумент, які я прывёў вышэй, датаваны 16 снежня 1936 года. Да даносу настаўніка П. П. Васільева ў «Правду» заставаліся два месяцы.

### Каментарыі.

[1] П. П. Васільеў быў загадчыкам навучальнай часткі і выкладчыкам матэматыкі і фізікі ў той жа школе, дзе перад арыштам працаваў М. І. Гарэцкі.

[2] Румянцаў Іван Пятровіч, 1886—1937 гг., арыштаваны 17 чэрвеня 1937 г., абвінавачваўся ва ўдзеле ў антысавецкай контррэвалюцыйнай групе, расстраляны 30 кастрычніка 1937 г. і крэміраваны на Данскіх могілках у г. Маскве.

[3] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. і. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 6. Быстроў — біяграфічных звестак не выяўлена. Малыгін Ілля Васільевіч, 1905 г. н., ур. пас. Карманава Смаленскай губ., намеснік, начальнік аддзела УДБ УНКУС Заходняй (Смаленскай) вобл., лейтэнант дзяржаўнай бяспекі (у дакуменце воінскае званне ўказана памылкова). Ваеннай Калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18 лютага 1941 г. за масавыя неабгрунтаваныя арышты і скажоныя метады следства прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны. Шэвелеў Навум Ізраілевіч, 1909 г. н., ур. г. Смаленска, нам. загадчыка сектара кадраў Смалаблвыканкома, затым супрацоўнік УДБ УНКУС. Далейшы лёс невядомы. Дакумент быў атрыманы ў Кіраве 2 красавіка 1937 г., рэгістрацыйны ўваходзячы № 507 (307-?). На дакуменце накладзена рэзалюцыя адрасата: «Мне».

[4] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 1. Нацдэм — нацыянал-дэмакрат. Калегаў — біяграфічных звестак не выяўлена. Левінсон Ной Саламонавіч, 1901 г. н., ур. м. Глуск Мінскай губ. (цяпер Магілёўская вобл.), у органах дзяржаўнай бяспекі з 1921 па 19 мая 1950 гг. Са Смаленска быў пераведзены ў г. Арол у УДБ УНКУС, дзе займаўся фальсіфікацыяй следчых матэрыялаў і неабгрунтаванымі арыштамі грамадзян. Звольнены па службовай неадпаведнасці з пасады нам. начальніка Упраўлення Усольскага ППТЛ МУС СССР. Дакумент быў атрыманы ў Пясочні 30 кастрычніка 1935 г., рэгістрацыйны ўваходзячы № 3604.

Сідарэнкаў — біяграфічных звестак не выяўлена, Савін — біяграфічных звестак не выяўлена.

У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 4. Тэлеграма ў Пясочні была атрымана 9 лістапада ў 16 гадзін 56 хвілін, без нумара, бланк № 40.

Карасёў — біяграфічных звестак не выяўлена.

[5] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 2. Публікуецца з захаваннем правапісу арыгінала. Жонка М. І. Гарэцкага — Леаніла Усцінаўна Чарняўская (1893—1976 гг.) у верасні-кастрычніку 1935 г. знаходзілася на лячэнні ў бальніцы г. Кірава (Вяткі), куды ў канцы верасня выехаў М. І. Гарэцкі, каб праведаць жонку і сям'ю і забраць з сабой сына Леаніда (1922—1944 гг.). У Кіраве М. І. Гарэцкі прабыў з 23 верасня па 2 кастрычніка 1935 г., у Пясочню вярнуўся 4 кастрычніка. Дачка М. і. Гарэцкага — Галіна Максімаўна Гарэцкая (н. 1921 г.), жыве ў Санкт-Пецярбургу.

[6] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 3. У Пясочню дакумент паступіў 8 снежня 1935 г., рэгістрацыйны ўваходзячы № 3977. На дакуменце адрасатам накладзена рэзалюцыя сакратару: «Мне. 8/XII Карасёў». Замест Савіна дакумент падпісаў яго намеснік Калегаў.

[7] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 16. Публікуецца з захаваннем правапісу арыгінала. У Кіраў дакумент паступіў 21 ліпеня 1936 г., рэгістрацыйны ўваходзячы № 1854. На дакуменце Карасёвым накладзены наступныя рэзалюцыі: А). «Мне. 21/VII Карасёў», Б.). «да справы-форм.[уляра]. Прысутнічае яшчэ адна адзнака, зробленая асабіста Карасёвым: «Выканана 24/VII-36 г. № 14560 указаны няправільна, неабходна чытаць: № 14550; № 14801 не выяўлены, верагодна няправільна вынесены зыходзячы нумар цытуемага дакумента: 4108. Прозвішча (псеўданім агента) упамінаемай у дакуменце асобы заменена літарай Н. Аронсан — біяграфічных звестак не выяўлена.

[8] У крымінальнай справе № 13036 па абвінавачванню М. І. Гарэцкага дакумент быў на месцы вырванага ліста № 5. Публікуецца з захаваннем правапісу арыгінала. У Кіраў дакумент паступіў 19 снежня 1936 г., рэгістрацыйны ўваходзячы № 2861. На дакуменце аператыўным упаўнаважаным УДБ накладзена наступная рэзалюцыя: «Мне Быстроў 19/XII».

«СВБ», «БНГ» — «Саюз вызвалення Беларусі» і «Беларуская народная Грамада» — сфабрыкаваныя ГПУ БССР у 1930—1931 гг. і ў чэрвені—лістападзе 1933 г. групавыя крымінальныя справы на прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, палітычныя працэсы, па якіх абвінавачвалася адпаведна 108 і 68 чалавек, пераважна беларускіх пісьменнікаў, вучоных, настаўнікаў, студэнтаў, народных камісараў, журналістаў. Цяпер сфальсіфікаваныя чэкістамі крымінальныя справы апісаны беларускімі гісторыкамі, напрыклад, І. М. Міхнюком і іншымі. У 1937—1938 гг. большасць асуджаных і адбыўшых пакаранне па гэтых «справах» былі ў другі (трэці) раз арыштаваны і расстраляны, у тым ліку і М. І. Гарэцкі.

У праекце дакумента замест слоў «прагляду дакументаў» стаяла «перлюстрацыі карэспандэнцыі». Гэта і наступныя выпраўленні зроблены Малыгіным.

**Мікалай ІЛЬКЕВІЧ,**
**супрацоўнік Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі.**
*г. Смаленск.*

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 18 (37)


## НОВАЯ ТЭХНАЛОГІЯ ЗДАРОЎЯ

**Многія прыходзяць у рэдакцыю і расказваюць, што чулі аб цуда-ўкладышах для ног, якія «ўсё лечаць». Публікуем больш падрабязную інфармацыю аб новым спосабе лячэння, які спецыялісты ацэньваюць як сенсацыйны прарыў у біяэнергетыцы — танны і эфектыўны шлях да здароўя.**

Біяэнергетычныя ўкладышы для ног PIOKAL (ПІОКАЛ) уяўляюць сабой кавалачак мяккага, эластычнага матэрыялу спецыяльнай формы і якасці, які закладваецца ў абутак або паміж шкарпэткамі на ноч (па жаданню і лячэбнаму прызначэнню) дзецям, дарослым, цяжарным жанчынам для выношвання здаровага плода і падтрымання здароўя маці ў дародавы і пасляродавы перыяд. Іх могуць насіць тыя, хто займаецца напружанай работай, людзі творчай працы, спартсмены для сілы, энергіі, вынослівасці, зняцця напружання пасля трэніровак, перадстартавых хваляванняў і фінішных няўдач. Укладышы рэкамендуюцца як вельмі хворым, так і «ўмоўна» здаровым.

Праз 1—10 хвілін прыкладвання PIOKAL у ступнях адчуваецца прыемнае цяпло — гэта эфект экранізуючага ўздзеяння. Наша цяпло не рассейваецца, а адбіваецца і ўспрымаецца рэцэптарамі ступняў назад. З гэтай хвіліны пачынаецца ваша лячэнне, дыягностыка і рэабілітацыя — вяртанне да здароўя! У каго што баліць, той пра тое і гаворыць, тое і лечыць. У аднаго — праблемы э сэрцам, у другога — са страўнікам, у трэцяга — з нервовай сістэмай, крывёю, сном, галавой, нагамі, астма, цукровы дыябет, шчытападобная залоза, ціск, суставы, болі, у тым ліку і душэўныя, гінекалогія і г. д. — у кожнага лячэнне ідзе індывідуальна, непаўторна, у адпаведнасці з толькі яму ўласцівым станам арганізма. Пачынаюць актывізавацца працэсы на ўсіх узроўнях самарэгуляцыі арганізма: клетачным, малекулярным, хімічным, энергетычным. Нагам цёпла, адыходзіць душа, супакойваецца нервовая сістэма, вяртаюцца сілы, а ў многіх — страчанае здароўе і надзея.

Укладышамі PIOKAL лечацца і дыягнастуюць здароўе. Праз 10—20 хвілін тэст па прыкладзенай табліцы пакажа, якія ў вас праблемы ў арганізме. Пакажа нават тое, чаго не паказвае самая сучасная дыягнастычная апаратура і, убачыўшы сябе як у люстэрку, арганізм сам сабе прапіша лячэнне значна больш мудрае, больш індывідуальнае, чым усе нашы суб'ектыўныя, сярэднестатыстычныя і сярэднеарыфметычныя метады і падыходы да яго. Адбываецца комплексная рэгуляцыя ўсяго арганізма.

Вось чаму так многа добрых водгукаў аб біяэнергатэрмічных укладышах PIOKAL — самастойным сродку лячэння і сумяшчальным з прыёмам лекаў, неабходнасць у якіх рэзка змяншаецца. Спектр дапамогі вельмі шырокі, асабліва пры хранічных цяжкавылечных хваробах. Ставім у вядомасць бацькоў і ўрачоў, што дзяцей з захворваннем нырак, страўніка, мочапалавой сістэмы, эндакрыннымі праблемамі, заіканнем, запаволеным развіццём, начным энурэзам, нестабільнай нервовай сістэмай, эпілепсіяй — не залечвайце, абавязкова адпраўляйце ў цэнтр «АГНІЯ» па ўкладышы PIOKAL і самі можаце прыняць удзел у назіраннях за імі, пазваніць да нас, калі ўзнікнуць пытанні. Высокая эфектыўнасць пры штодзённым нашэнні вусцілак адзначаецца на працягу 3—5 месяцаў. Затым, пры хранічных хваробах, лячэнне працягваюць новымі вусцілкамі, а старыя перакладваюць у абутак і даношваюць, таму што ўкладышы маюць фізічны знос.

Існуе многа розных укладышаў, пракладак, вусцілак для ног, але ўкладышы PIOKAL — не маюць аналага. Іх вынайшаў і выпускае адзіны чалавек у свеце, які дапамог пазбавіцца ад хвароб мільёнам людзей, — Казімеж Піатровіч. Прадстаўніком PIOKAL у Беларусі з'яўляецца аздараўленчы навукова-практычны цэнтр «АГНІЯ».

Увага! Укладышы PIOKAL неабходна набываць толькі ў аздараўленчым дылерцэнтры «АГНІЯ» (Мінск-12, Сурганава, 2, пакой 3а, тэл. 32-44-02, 65-09-06) і магазінах «Оптыка» г. Мінска.

**РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ЦЭНТРЫ:**
**г. Баранавічы — (01634) 2-55-42**
**г. Віцебск — (02122) 2-25-19**
**г. Брэст — (0162) 25-52-45**
**г. Гомель — (0232) 54-14-64**

Яны не прадаюцца на базарах, у кіёсках, з рук, ля прахадных прадпрыемстваў, патрабуюць граматнага выкарыстання. У цэнтры хворыя кансультуюцца ўрачамі, інвалідам і дзецям прадастаўляецца скідка 30 працэнтаў. Іншагароднім магчыма перасылка, для чаго на адрас цэнтра неабходна прыслаць пісьмо з указаннем захворванняў. Мы вышлем умовы перасылкі.

**Е. САРКІСАВА.**



## ПРАДАЕЦЦА

**Новы цагляны дом** у пас. Акцябрскі Баранавіцкага раёна або мяняю на жыллё ў Слоніме.
Тэл. у г. Слоніме (8-01562) 3-22-58.

**Барана, культыватар, акучнік, касілка да матаблока.**
Браслаўскі раён, в. Зарэчча, тэл. (8-253) 26-7-52.

**Дом драўляны** 6х10 м, абкладзены цэглай, участак 0,16 га ў г. Стоўбцы.
Тэл. у Баранавічах 27-1-59.

Танна **трубы са шкла** АДМ-8, дыяметрам 40 мм, даўжынёй 2,1 м, 96 шт.
Тэл. (8-277) 29-8-20, да 21.00.

**Новы дом** з мансардай — 160 кв. м (без унутраных работ) у г. Івянец (60 км ад Мінска).
Тэл. (8-293) 34-4-52, вечарам.

**Рыс** 0,48—0,53$ за кг.
Тэл. (02351) 2-31-83.

**Рогі лася**, 11 адросткаў, 5,5 кг — за 2.000.000 руб.
Адрас: 222152, Мінская вобл., Барысаўскі р-н, в. Клятное, Углік В. П.

**Дом у вёсцы** (0,25 га, сад, хлеў), 5 км ад станцыі Уша (у бок Маладзечна).
Тэл. 584-802

**Вялікі драўляны дом** у прыгарадзе г. Жлобіна, чыстая зона, ад чыгункі 1,5 км, маецца тэлефон, газ, вада побач; кошт 5.200$.
Тэл. (0232) 51-11-54.

## РОЗНАЕ

Зраблю мантаж і рамонт электраабсталявання ў гаражах, на дачах
тэл. у Барысаве (8-277) 29-8-20 з 18.00

Камбінат ЖБК г. (Баранавічы) адгрузіць па нізкіх цэнах вырабы па вашай заяўцы
тэл. 70-8-09

Прадам або абмяняю на кватэру ў Мінску дом у в. Сіняўка (з садам і гаспадарчымі пабудовамі)
тэл. (8-293) 4-54-14

## КОЖНЫ ШОСТЫ МІНЧАНІН ХАЦЕЎ БЫ КУПІЦЬ КВАТЭРУ, КОЖНЫ ВОСЬМЫ — АЎТАМАШЫНУ АЛЬБО ХАЛАДЗІЛЬНІК

**6—7 мая сацыялагічнай службай «Зеркало» кампаніі БелаПАН праведзена чарговае тэлефоннае апытанне трохсот жыхароў Мінска. Прадстаўнікам розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва ва ўзросце ад 18 гадоў і старэй прапаноўвалася адказаць на пытанне: «Якую рэч доўгачасовага карыстання вы хацелі б купіць у першую чаргу?»**

Адной трэцяй рэспандэнтаў (33 працэнты), спасылаючыся на недахват грошай, было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне: «Для куплі дарагіх рэчаў грошай няма, так што пра гэта не задумваўся».

Кожны шосты мінчанін (16 працэнтаў) марыць аб куплі кватэры альбо дома. Асабліва актуальная гэтая праблема для асоб да 30 гадоў (57 працэнтаў); з сярэдняй і няпоўнай сярэдняй адукацыяй (70 працэнтаў); мужчын (53 працэнты).

Па 12 працэнтаў апытаных хацелі б купіць аўтамашыну і халадзільнік. Моладзь да 30 гадоў (57 працэнтаў), з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй (99 працэнтаў), мужчыны (86 працэнтаў) больш арыентуюцца на аўтамашыну. Пра халадзільнік часцей гавораць рэспандэнты ва ўзросце 30—39 (39 працэнтаў) і старэй за 60 гадоў (19 працэнтаў), з сярэдняй адукацыяй (69 працэнтаў), жанчыны (64 працэнты).

Па 7 працэнтаў мінчан у якасці першачарговай пакупкі хацелі б бачыць тэлевізар альбо мэблю для кватэры. Пра гэтыя рэчы доўгатэрміновага карыстання мараць асобы 30—59 гадоў (70—90 працэнтаў), з сярэдняй адукацыяй (55—80 працэнтаў), жанчыны (70 працэнтаў).

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

*Віншуем з днём нараджэння Надзею Лінік з Драгічына. Жадаем здароўя, кахання і добрых сяброў.*
*Сяброўка з Залужжа.*

## «БЕЛЛЕГПРОМ» ПЛАНУЕ АСЭНСАВАЦЬ МЕСЦА ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ НА РЫНКУ

Канцэрн «Беллегпром» распрацоўвае канцэпцыю развіцця лёгкай прамысловасці на перыяд да 2000 года.

Паводле слоў першага віцэ-прэзідэнта канцэрна Аляксандра Міхневіча, сэнс канцэпцыі — вызначыць, якая колькасць прадукцыі можа быць рэалізавана на трох рынках: СНД (у першую чаргу Расіі), унутраным і рынку далёкага замежжа. Толькі калі будуць вызначаны гэтыя лічбы, стане зразумелым, на колькі і па якіх відах тавараў патрабуецца павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці. Па меркаванню Аляксандра Міхневіча, рост дзеля росту, калі тавар не знаходзіць попыту, не мае сэнсу. Прадпрыемствы, якія працуюць на склад, павінны шукаць шляхі выйсця, падвяргацца рэструктурызацыі. Плануецца, што канцэпцыя будзе распрацавана да чэрвеня бягучага года.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПАСКРЭБЛІ ПА ЗАСЕКАХ

У Магілёве адбылася прэзентацыя першага супермаркета — «Гандлёвага дома», які заснаваў цэнтр «Магілёўскі таварны рынак». Адметна, што МТР, створаны на базе культгандлю, забівае адразу двух зайцоў: разгружае склады мясцовых прамысловых прадпрыемстваў, бо гандлюе менавіта таварамі, выпушчанымі на Магілёўшчыне, і павялічвае тавараабарот дзякуючы таму, што гандлюе па цэнах на 15—20 працэнтаў ніжэй за звычайныя зноў жа па прычыне таго, што «засекі» тутэйшыя.

Дарэчы, прамысловыя прадпрыемствы вобласці згадзіліся браць аплату за сваю прадукцыю на працягу двух месяцаў, тады як раней гэты тэрмін абмяжоўваўся пяццю днямі. Гандаль проста не паспяваў рэалізоўваць тавары.

Цяпер ён імкліва пайшоў угору. Прыбытковымі сёлета сталі ўсе універмагі горада. Адбілася яшчэ і тое, што з грамадзянамі нарэшце-такі разлічыліся па зарплаце і яны аднавілі свае пакупніцкія здольнасці.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

**Ксеракопія купона не прымаецца.**

# ЦІ НЕ НАВЕДАЦЬ ВАМ ПСІХІЯТРА?

**Здаровы лад жыцця. Гэты выраз апошнім часам трывала ўвайшоў у наш лексікон. Большасць людзей ужо ўсвядоміла важнасць уласнага здароўя. Быць здаровым стала нават модным. Аднак мы разумеем гэта паняцце не зусім дакладна, аднабакова: не ўжывай алкаголь, наркотыкі, не куры, займайся спортам — і будзеш здаровы. «Не ўсё так проста», — зазначаюць спецыялісты-псіхіятры. І яны маюць рацыю. Ва ўсім свеце ўжо даўно ўсвядомілі, што псіхічнае здароўе насельніцтва з'яўляецца адной з асноўных каштоўнасцей, часта куды больш важнай, чым здароўе фізічнае. Праблеме псіхічнага здароўя насельніцтва і быў прысвечаны «круглы стол», які прайшоў днямі ў рэдакцыі нашай газеты. Для ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве былі запрошаны вядучыя спецыялісты рэспублікі ў галіне псіхіятрыі: галоўны псіхіятр Міністэрства аховы здароўя дацэнт Алег ЛІСКОЎСКІ, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі псіхіятраў прафесар Раман ЕЎСЯГНЕЕЎ, дацэнт кафедры псіхатэрапіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў Анатоль ГАЛАВАЧ, галоўны ўрач Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы Аляксандр ЗАРКО і намеснік галоўнага ўрача Мінскага гарадскога наркалагічнага дыспансера Уладзімір МАКСІМЧЫК. За апошнія гады многае змянілася ў нашай краіне, не магла не змяніцца і псіхіятрыя. Што зараз уяўляе сабой гэта галіна медыцыны? Ці здольна яна забяспечыць псіхічнае здароўе нацыі? Каму мы давяраем сваё лячэнне? Якія справы ў Беларусі з алкагалізмам, наркаманіяй, іншымі небяспечнымі хваробамі? На гэтыя і некаторыя іншыя пытанні, якія датычацца літаральна кожнага чалавека, атрыманы адказы, што называецца, з першых вуснаў.**

## ПСІХІЯТРЫЯ УЧОРА, СЕННЯ, ЗАЎТРА

Яшчэ даволі доўгі час на гэтай галіне медыцыны будзе заставацца след ад кляйма, якое пакінуў таталітарны рэжым. Псіхіятрыі народ баяўся і, каб пазбавіцца гэтага страху, патрэбен час і як мага большая колькасць сапраўднай інфармацыі. Усім добра вядомы прыклады выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных мэтах. Здаралася рознае, аднак да гонару нашых айчынных прадстаўнікоў гэтай галіны трэба заўважыць, што на Беларусі палітычных псіхічных хворых не было. І гэта не пустыя словы — шматлікія міжнародныя камісіі, якія праводзілі праверкі ўжо ў дэмакратычны перыяд, ніякіх злоўжыванняў не выявілі. Людзі, якія абвінавачваюць псіхіятрыю, крывяць душой, бо ў таталітарнай дзяржаве ні адзін інстытут не можа быць іншым. Засталося ў памяці людзей і кляймо ізгояў грамадства, якое ставілі на псіхічна хворых людзях, алкаголіках, наркаманах з усімі адсюль вынікамі.

Сёння сітуацыя істотна змянілася да лепшага. Няма таго прымусовага лячэння і тых сацыяльных наступстваў, якія яно за сабой цягнула. Няма тых многіх дзесьці антыгуманных метадаў, што выкарыстоўваліся псіхіятрыяй. Наадварот, з'явіліся новыя методыкі, добраахвотнасць, ананімнасць лячэння. Значна пашырылася кола паслуг. Ні для кога не сакрэт, што ў развітых краінах візіты да псіхіятра— звычайная рэч. Калі чалавек хоча выбраць работу, жонку, месца жыхарства і г. д., ён у першую чаргу звяртаецца да псіхіятра, які, улічваючы яго індывідуальныя схільнасці, дапамагае зрабіць правільны выбар. Нам, вядома, яшчэ вельмі далёка да таго часу, калі звыклай стане фраза: «Вось я тут быў у аднаго добрага псіхіятра і табе раю...». Аднак некаторыя зрухі ўжо ёсць. Магчыма, тады і статыстыка крыху зменіцца. Просты прыклад: палова шлюбаў, якія заключаюцца ў нашай рэспубліцы, «бракаваныя» — не сышліся характарамі. Зразумела, усе мы розныя, і трэба добра ведаць чалавека, з якім збіраешся пражыць жыццё. У рэспубліцы ўжо дзейнічаюць (хоць іх і не хапае) кабінеты сацыяльна-псіхалагічнага кансультавання, працуюць псіхіятры ў агульных і дзіцячых паліклініках, існуе той жа тэлефон даверу... Псіхіятрыя не стаіць на месцы. Пастаянна праводзяцца сумесныя з замежнымі спецыялістамі семінары па абмену вопытам, пераймаецца ўсё тое прагрэсіўнае, што выкарыстоўвае заходняя псіхіятрыя, пастаянна павышаецца ўзровень прафесіяналізму спецыялістаў гэтай галіны.

## РЭСУРСЫ ЎНУТРЫ ЧАЛАВЕКА

Як ні сумна гэта ўсведамляць, аднак у нашай краіне псіхічнае здароўе насельніцтва ўвогуле не можа быць добрым ужо таму, што нам выпала жыць у так званы пераходны перыяд (у пераходным грамадстве, з пераходнай эканомікай і г. д.). У любым пераходным грамадстве заўсёды ўзрастае колькасць многіх псіхічных расстройстваў. Псіхічнае здароўе нацыі — гэта не нешта дробнае, вузкае, прыватнае, гэта пытанне агульнадзяржаўнай важнасці і разглядацца яно павінна адпаведным чынам.

Жыццё прад'яўляе да чалавека вельмі жорсткія патрабаванні, якія да таго ж яшчэ і пастаянна мяняюцца. Чалавек не заўсёды аказваецца здольным перанесці такія нагрузкі, і на фоне гэтага ўзнікаюць памежныя нервова-псіхічныя расстройствы. Як можна засцерагчыся ад гэтага? Першае, што трэба назваць, гэта два асноўныя універсальныя прынцыпы: абарона часам і абарона адлегласцю. Як мага менш знаходзіцца ў стрэсавых сітуацыях і як мага далей ад іх. На думку псіхіятраў, у беларускага народа ёсць цудоўная рыса характару — памяркоўнасць, якая ў значнай ступені абараняе яго псіхічнае здароўе. Мы адрозніваемся ад народаў Поўначы і ад паўднёвых народаў. Геаграфічна мы знаходзімся дзесьці пасярэдзіне. Гэта сыграла пэўную ролю ў фарміраванні разумных суадносінаў рацыянальнага і эмацыянальнага.

Каб эфектыўна абараніць сябе ад згубнага ўздзеяння стрэсавых сітуацый, чалавеку, па-першае, трэба добра ўсвядоміць важнасць свайго псіхічнага здароўя. Часта абывацель думае: «Ну і што, што я два тыдні не сплю? Вось калі б у мяне сэрца балела → гэта важна». Менавіта тут хаваецца самая вялікая памылка — нават тая ж гіпертанія часта пачынаецца з псіхічных расстройстваў.

Чалавеку таксама неабходна ведаць аб сабе ўсё, уяўляць сваё псіхічнае здароўе. Ведаць, якія існуюць псіхічныя расстройствы, што норма, а што паталогія, як сябе настроіць, дзе можна атрымаць дапамогу. Для гэтага дзяржава павінна забяспечыць доступ сучаснай навуковай інфармацыі праз тую ж літаратуру, якой літаральна завалены ўвесь цывілізаваны свет. Трэба кожнаму чалавеку навучыцца здымаць адмоўныя ўздзеянні ад той ці іншай стрэсавай сітуацыі. Рэкамендацыі тут простыя — памяркоўнае стаўленне да праблем: ці варта? Раніца мудрэйшая за вечар: пераспі сваё гора; не гарачыся. З фізічных сродкаў прафілактыкі, даступных кожнаму, ярка выражаным антыстрэсавым уздзеяннем валодаюць масаж і водныя працэдуры.

На Захадзе стрэс ужо даўно навучыліся «мераць». Існуюць вызначаныя шкалы, па якіх можна падлічыць, колькі балаў стрэсу ў вас накалілася. Урач папярэджвае, а вы можаце жыць як хочаце. Аднак калі вы зробіце тое і тое, то ў той ці іншай ступені можаце разлічваць на свой інфаркт, язву і г. д. І чалавек вырашае сам, што для яго важней: узняцца яшчэ на адну прыступку па службовай лесвіцы і атрымаць язву, або застацца здаровым.

Існуе меркаванне, што стрэс можна здымаць алкаголем, маўляў, крыху выпіў — стала лягчэй. Гэта падманнае ўражанне. Часта алкагалізацыя прыводзіць да непапраўных наступстваў... Рэсурсы ўнутры нас, і не трэба шукаць іх там, дзе іх няма.

## ПРЫ ДОБРААХВОТНАСЦІ АНАНІМНАСЦЬ І ПРАФЕСІЯНАЛЬНАСЦЬ ЛЯЧЭННЯ ГАРАНТУЮЦЦА

За апошнія тры гады значна ўзрасла колькасць захворванняў на алкагалізм. Зараз у рэспубліцы на ўліку знаходзяцца 120 тысяч хворых на алкагалізм і 30 тысяч чалавек — на прафілактычным уліку (злоўжываюць, але не алкаголікі).

Па шэрагу суб'ектыўных прычын у насельніцтва магло скласціся ўражанне, што дзяржаўнай службы лячэння алкагалізму сёння, мабыць, не існуе. На фоне тых сапраўды жорсткіх мераў, якія прымаліся ў адносінах да алкаголікаў у часы былога Саюза, калі лячэнне было прымусовым і мела шэраг сацыяльных наступстваў, сённяшняя добраахвотная наркалогія не ўздымае вакол сябе хвалю вострых уражанняў. Істотна змяніўся і сам падыход да гэтай не зусім звычайнай хваробы. Сёння айчынная наркалогія выкарыстоўвае ўсё найбольш прагрэсіўнае, што і за мяжой — медыкаменты, іголкарэфлексатэрапію, ультрафіялетавае апраменьванне, многія метады псіхатэрапіі...

Вядома, можна доўга спрачацца аб усіх плюсах і мінусах добраахвотнага лячэння. Калі карміцель у сям'і прапівае ўсе грошы, збівае жонку, дзяцей і яго нельга прымусіць лячыцца, у гэтым няма нічога добрага. Прымусовае лячэнне прадугледжана толькі ў двух выпадках: калі хворы ўяўляе небяспеку для ўласнага жыцця і жыцця іншых людзей. Гарантуюць сёння дзяржаўныя клінікі і ананімнасць лячэння. Чалавек можа звярнуцца па дапамогу і не называць сябе. Хворы на алкагалізм, які праходзіць лячэнне ў дзяржаўнай установе, не церпіць ніякага сацыяльнага ўціску (яго не пазбаўляюць працы, вадзіцельскага пасведчання і інш.). Аднак не ўсе сёння пра гэта ведаюць, і менавіта ананімнасць часта становіцца тым матывам, які штурхае чалавека ісці лячыцца не да спецыялістаў у дзяржаўныя ўстановы, а да прыватнікаў, экстрасенсаў, чараўнікоў і інш.

## ХВАРОБУ ЧАРОЎНАЙ ПАЛАЧКАЙ НЕ ВЫЛЕЧЫШ

Сапраўды, на фоне ўсіх гэтых крыклівых аб'яў, якімі прыватныя лекары сёння запоўнілі нашы СМІ, дзяржаўная наркалагічная служба выглядае больш чым сціпла. «Лечым алкагалізм за адзін дзень. Лечым па фотаздымку. Лечым без ведама хворага...» Ды яшчэ і гарантыя — вылечванне 90—99 працэнтаў хворых. Ці магчыма такое?.. Не, — упэўнена заяўляюць прафесіянальныя медыкі. Зараз эфектыўнасць лячэння алкагалізму ў дзяржаўных установах складае 30—35 працэнтаў. І гэта добры працэнт, які мала адстае ад працэнта эфектыўнасці лячэння ў перадавых краінах. Шмат блытаніны нарабіла ў гэтай справе рэклама. З-за некаторых традыцыйных, матэрыяльных і іншых аспектаў дзяржаўная наркалогія не можа сябе рэкламаваць і таму часта застаецца незаўважнай. З другога боку, людзі прызвычаіліся давяраць таму, што пішуць у газетах, і таму пасля хлуслівай рэкламы вельмі цяжка завяваць іх давер. Вось і атрымліваецца, што людзі, спадзеючыся на хуткую папраўку, плацяць грошы (і немалыя) шарлатанам, а замест выздараўлення атрымліваюць куды менш прыемныя наступствы, часта небяспечныя для жыцця. На жаль, нярэдка паступаюць у стацыянар людзі, якія дзесьці «на баку» лячыліся, плацілі вялікія грошы, а зараз знаходзяцца ў крытычным стане.

Няма чаго здзіўляцца таму, што афіцыйная медыцына ставіцца да ўсякага роду лекараў і знахараў не вельмі прыхільна. Жах становішча ў тым, што людзі дапускаюць магчымасць лячэння хворых людзьмі, якія нават не атрымалі базавай медыцынскай адукацыі. Напрыклад, калі ў нас сапсуецца тэлевізар, мы яго нясём да майстра, які мае добрую кваліфікацыю. А чалавек жа значна больш складаная «машына». Вядома, магчымасць так званых «цудоўных» выздараўленняў не выключана, а адбываюцца яны часам таму, што спрацоўвае самаўнушэнне. Чалавек дае таблетку, настой, траву і да т. п., напрыклад, ад кашлю, і кажа, што яна ад галавы, і сродак дапамагае. Аднак у пераважнай большасці выпадкаў гора-пацыент не атрымлівае нічога, акрамя шкоды.

Адным словам, кожны павінен займацца сваёй справай. І тое, што нехта, магчыма, сапраўды магутны экстрасенс і можа «біяполем дастаць да цэнтра Зямлі», не дае гэтаму чалавеку права лячыць людзей, апераваць іх псіхікай. Гэта абсурд, нонсенс, якога няма ні ў адной цывілізаванай краіне. Афіцыйная медыцына прынцыпова не супраць народных лекараў, экстрасенсаў і гіпнатызёраў, аднак, каб лячыць людзей, патрэбна мець на гэта дазвол спецыялістаў. Толькі спецыялісты маюць права вызначаць — можа чалавек лячыць іншых людзей або не, прынясе ён карысць іх здароўю або шкоду. Калі ўсе гэтыя экстрасенсы сапраўды такія ўжо цудоўныя лекары, чаму б ім не сустрэцца з прадстаўнікамі афіцыйнай медыцыны? Аднак на кантакт яны ідуць вельмі рэдка.

## НАД УСІМ ПАВІНЕН СТАЯЦЬ ЗАКОН

Як вырашаецца праблема афіцыйнай і неафіцыйнай медыцыны на Захадзе? А вельмі проста — над усім стаіць закон. Законы аб псіхіятрыі ўвесь цывілізаваны свет прыняў яшчэ ў 70-я гады, тым самым не пакінуўшы месца шарлатанам або проста непрафесіяналам. Хочаш і можаш займацца лячэннем людзей — атрымай афіцыйную ліцэнзію. Не — будзьце ласкавы... За парушэнне закона штраф або больш жорсткае пакаранне. Таму няма на Захадзе, ды ўжо і ў нашых суседзяў у Прыбалтыцы, аніякіх чараўнікоў, «бабак і дзедак». У нас жа на Беларусі зараз проста рай для рознага роду жулікаў таму, што няма больш-менш прыстойнага закона аб псіхіятрыі. Няма закона, які б абараніў здароўе людзей і правы сапраўдных прафесіяналаў сваёй справы. Каб абараніць сябе ад розных непрыемных нечаканасцей, звязаных з медыцынай, людзі павінны ведаць, што яны маюць поўнае права патрабаваць у чалавека, да якога звярнуліся па дапамогу, доказаў таго, што ён мае права гэта рабіць. Дакумент, выдадзены дзяржавай, на тэрыторыі якой урач збіраецца займацца практыкай. Людзі таксама павінны ведаць, што яны маюць права патрабаваць кампенсацыю за негатыўныя наступствы, калі такія з'явяцца ў выніку лячэння. Рэчаіснасць такая, што чалавек, якога падманулі, не звяртаецца ў суд, не хоча паказаць, што ён быццам бы дурны. А так справу пакідаць нельга.

Зразумела, на абарону насельніцтва ў першую чаргу павінна стаць дзяржава, і крокі ў гэтым напрамку ўжо робяцца. Зараз Міністэрства аховы здароўя падрыхтавала законапраект аб камітэце па ліцэнзаванню. Ён аб'яднае ўсё ліцэнзаванне па рэспубліцы, што датычыцца медыцыны — медыцынскай дзейнасці, фармакалогіі, тэхнікі і інш. Будзем спадзявацца, што пасля таго, як закон уступіць у сілу, справы ў гэтай галіне наладзяцца.

Напрыканцы, шаноўныя чытачы, хачу нагадаць вам адну старажытнарымскую прымаўку: «У пераможцаў раны зажываюць хутчэй». Сапраўды так: у псіхічна здаровых людзей усе астатнія хваробы вылечваюцца лягчэй і хутчэй. Добры настрой і псіхічнае здароўе — залог здаровага арганізма. Вясёлыя, жыццярадасныя людзі хварэюць куды менш, чым панурыя. Так што рабіце высновы і заўсёды заставайцеся пераможцамі.

«Звязда» ў сваю чаргу па дамоўленасці з удзельнікамі «круглага стала» бярэ на сябе клопат па арганізацыі спецыяльнай рубрыкі, дзе будуць выступаць вядучыя спецыялісты Беларусі ў галіне псіхіятрыі.

**Падрыхтаваў Сяргей ПРОТАС.**

*НАДЗЁННАЕ*

# НА ЗАВОДЗЕ «ЭЛЕКТРОНІКА» ВЫРАШЫЛІ ПАЦЯРПЕЦЬ. АДНАК АПТЫМІЗМУ ЎСЁ МЕНЕЙ

**Завод «Электроніка» навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл» у спіс падтрыманых дзяржавай трапіў. Аднак разавай ін'екцыі дастаткова толькі для таго, каб адцягнуць момант падзення на дно, але не прадухіліць яго.**

Асноўны від прадукцыі завода — электронныя гадзіннікі, якасныя і танныя. Акрамя традыцыйных, асвойваецца выпуск новых відаў гэтага тавару. У прыватнасці, у бягучым годзе плануецца пачаць серыйны выпуск «размаўляючых» гадзіннікаў. У хуткім часе завод пачне вырабляць тэлефонныя апараты з уманціраваным у корпус гадзіннікам. Распрацаваны шматфункцыянальны апарат, адна з аперацый — будзільнік. Працягваюцца работы па дапрацоўцы таксафоннага блока для магнітнай карткі. Першыя сто таксафонаў з гарызантальным размяшчэннем карткі ўжо ўстаноўлены ў сталіцы. Да канца бягучага года плануецца пераабсталяванне тэлефонных апаратаў па ўсёй рэспубліцы. Сярод іншых відаў прадукцыі завода — лічыльнік вады (электронныя прыборы не выпускаюцца ні ў адной краіне СНД), электронныя тэрмометры. Канструктарскім бюро завода распрацаваны каляровы тэлевізар на вадкіх крышталах з экранам 15 сантыметраў па дыяганалі. Падобную тэхніку выпускаюць толькі японцы. Разам з тым у айчыннай распрацоўкі няма будучыні. Серыйны выпуск малагабарытнага, практычна бяспечнага (працуе без электратоку) тэлевізара патрабуе сур'ёзных укладанняў — 100—200 мільёнаў долараў. Зрэшты, на гэта на прадпрыемстве не разлічваюць, і айчынны тэлевізар на вадкіх крышталах хутчэй за ўсё застанецца вынаходкай у адным экземпляры.

Ды што там казаць пра складаную тэхніку, калі простая не знаходзіць попыту. Сёння рынак запоўнены таннымі таварамі з Кітая. Але і з адпаведнай якасцю. Па словах дырэктара завода «Электроніка» Уладзіміра Вярбіцкага, на беларускім рынку сёння рэалізуецца 10 працэнтаў прадукцыі, звыш 75 — у Расіі, астатняя размяркоўваецца па краінах СНД.

Паводле слоў дырэктара завода, аптымізму застаецца ўсё менш. Прадпрыемства працуе 4 дні ў тыдзень, сярэдняя зарплата на заводзе складае 800 тысяч рублёў. Скарачэння кадраў тут практычна не было: звыш чатырохсот работнікаў у мінулым годзе пакінулі завод самі. «Электроніка» пакуль працуе. Але, па меркаванню спадара Вярбіцкага, сённяшняя неразумная падатковая палітыка праз 2-3 гады выльецца ў тэхналагічнае адставанне і адсутнасць кваліфікаваных кадраў. «Чым даўжэй лечыцца падатковая хвароба, тым бліжэй пахаванне вытворчасці», — адзначыў Уладзімір Віктаравіч.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ У КРАІНЫ ПАЎДНЁВАЙ АФРЫКІ АДКЛАДЗЕНЫ

**Афіцыйны візіт дэлегацыі Міністэрства замежных спраў і Міністэрства знешніх эканамічных сувязей рэспублікі, які меркавалася ажыццявіць у канцы красавіка - пачатку мая, адкладзены на нявызначаны тэрмін.**

Як паведаміў першы сакратар Міністэрства замежных спраў Уладзімір Пісчака, да паездкі нашай дэлегацыі ў Бразілію, Аргенціну і Чылі з беларускага боку ўсё было падрыхтавана. Станоўчыя адказы атрыманы ад кіраўніцтва Аргенціны і Бразіліі. Першая дзяржава згодна прыняць беларускую дэлегацыю ў канцы мая, другая — у другой палове бягучага года. Ад кіраўніцтва Чылі адказу пакуль не было.

Мэтай маючага адбыцца візіту з'яўляецца ўстанаўленне гандлёва-эканамічных кантактаў Беларусі з названымі дзяржавамі. У пасольствы гэтых краін у Маскве накіраваны прапановы па ўзаемных пастаўках тавараў. Беларусь гатова гандляваць прадукцыяй машынабудавання, радыёэлектронікі, іншымі таварамі. З Бразіліі рэспубліка мяркуе завозіць цукар, каву, з Аргенціны — алей, з Чылі — морапрадукты, сокі, растваральныя напоі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ПАДАТКІ, ЯК ЛЮСТЭРКА НАШАЙ СЁННЯШНЯЙ СІТУАЦЫІ



**Напэўна, мала каму ў нашай дзяржаве даводзіцца вытрымліваць столькі крытыкі, як падатковым і фінансавым органам, што распрацоўваюць асновы падатковай палітыкі і ўкараняюць яе на практыцы. І ў гэтым не было б нічога страшнага, калі б на самай справе дзеянні дзяржавы ў гэтай галіне не ператварыліся ў моцны тормаз эканамічнага і палітычнага развіцця Беларусі.**

Падаткі крытыкаваліся заўсёды і ўсюды, пачынаючы з часоў Рымскай імперыі. Крытыкуюцца яны і цяпер. Але ў адказ на крытыку дзяржава павінна рэагаваць у абавязковым парадку. І прымаць меры па ўдасканаленню падатковых законаў, узмацненню іх рэгулюючых і стымулюючых функцый, стварэнню таваравытворцам рэжыму найбольшага спрыяння. На жаль, мы, мякка кажучы, не вельмі можам пахваліцца дасягненнямі ў гэтым. Прывяду некалькі фактаў. У 1940 годзе працаздольныя паддання караля Уладзіслава IV, якія пражывалі на тэрыторыі Гомельшчыны, плацілі падаткі грашамі ў памеры 28,8 працэнта ад гадавога даходу; два дні на тыдзень асабіста адпрацоўвалі «натурай» каралю на працягу ўсяго года. Але для іх меліся і шматлікія льготы. Напрыклад, магчымасць дармавой нарыхтоўкі лесу і дроў у радыусе чатырох міль ад месца пражывання... У 1995 годзе працаздольныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пражываюць на тэрыторыі Гомельскай вобласці, плацілі грашамі не менш як 30 працэнтаў ад даходаў працоўных калектываў. І ў асноўным авансам. Фармальна паншчына ў нас адсутнічае, але фактычна яна існуе ў форме шматлікіх падаткаў на фонд аплаты працы і ў выглядзе падаходнага падатку на заработную плату. Сёння іх сумарная грашовая велічыня набліжаецца да трох дзён адпрацоўкі «натурай» у тыдзень на працягу ўсяго года. Дарэчы, на мой погляд, сучасны работнік аддаў бы перавагу адпрацоўцы «натурай», чым плату грашамі. Але гэта з вобласці фантазіі: дзе кіраўніцтва знойдзе дастатковую колькасць працоўных месцаў для паншчыны? Што ж датычыцца дармавога паліва ці лесу, хаця б для будаўніцтва хаты (калі дзяржава сама не ў стане вырашыць жыллёвую праблему), то гэтага няма і ў паміне.

У цяперашні час падаткі (я маю на ўвазе і плату ў пазабюджэтныя фонды) настолькі вялікія, што толькі ў самых спрыяльных умовах у нашых прадпрыемстваў пасля ўплаты ўсіх падаткаў, збораў і непадатковых плацяжоў застаецца прыкладна 19 працэнтаў ад абароту на новы цыкл вытворчасці. Паказчык гэты відавочна недастатковы, таму што мінімальна неабходнае значэнне павінна быць у межах не менш як 50 працэнтаў у галіне вытворчасці і 20—25 — у гандлі. Дарэчы, аналагічная сітуацыя назіраецца і ў эканоміцы Італіі, дзе пасля выліку ўсіх падаткаў у тамтэйшых суб'ектаў гаспадарання застаецца 18 працэнтаў ад абароту. Гэта прывяло да эканамічнага застою і банкруцтваў, масавага вывазу капіталу за мяжу. Па падліках італьянскіх спецыялістаў, іх вытворцы таварнай прадукцыі аказаліся абкладзенымі фіскальнай сістэмай на 66 працэнтаў больш, чым, у супастаўных умовах, прадпрыемствы, якія плацяць падаткі ў Англіі; на 53 працэнты больш, чым у Іспаніі; на 54 працэнтыбольш, чым у Францыі; і на 19 працэнтаў больш, чым у Германіі. Як відаць, наша падатковая сістэма, па аналогіі, па ўзроўню фіскальнасці апярэджвае ўсе краіны Еўропы. І, відаць, толькі ў нас на практыцы рэалізавана мадэль, у якой чалавек існуе як аб'ект падаткаабкладання, а не як тварэц грамадскага багацця. Вось канкрэтны прыклад. За выкіды шкодных рэчываў у навакольнае асяроддзе ў нас плацяць экалагічны падатак. Мне здаецца, нават у назве гэтага падатку схавана нейкае блюзнерства ў адносінах не толькі да прыроды, але і да людзей. Звярніце ўвагу: заплаці падатак і працягвай забруджваць асяроддзе пражывання. Прычым, чым больш забруджвае суб'ект гаспадарання навакольнае асяроддзе, тым больш падатковых паступленняў ідзе ў бюджэт. Гэта значыць, галоўнае — сабраць як мага больш грошай. Эфектыўнасць жа дзеянняў урада па ахове навакольнага асяроддзя мінімальная, яго стан у цяперашні час варты жалю. Зусім па-іншаму вырашаюць праблему экалогіі ў іншых краінах. У ФРГ, напрыклад, пры вырашэнні праблемы выкідаў шкодных рэчываў з выхлапных труб аўтамабіляў улады не ўводзілі падатковай платы, а прапанавалі ўладальнікам аўтамабіляў набываць каталізатары, з устаноўкай якіх шкодныя рэчывы нейтралізуюцца. Пры гэтым кожны пакупнік каталізатара атрымліваў падатковую льготу ў выглядзе 50-працэнтнай стаўкі пры аплаце падатку за карыстанне аўтамабілем. Гэта было выгадна. І ўсе, хто набыў каталізатары, былі задаволеныя, падлічвалі выйгрыш ад такой здзелкі... Але ўражвае іншае. Як трэба разумець уладам характар уласнага народа, каб зрабіць такі элегантны падатковы трук! Бо праз некалькі гадоў выкарыстанне аўтамабіляў з выхлапнымі трубамі без каталізатараў забаранілі наогул, падатковую льготу скасавалі, а кошт каталізатара ўвайшоў у прадажную цану аўтамабіля. Наш падатковец і фінансіст могуць спытацца: «А як жа выконваўся план па збору падаткаў?» Адказ тут просты: улады ФРГ недабор падатковых сум з лішкам кампенсавалі эканоміяй сваіх выдаткаў за кошт захавання ўзроўню занятасці ў аўтамабільнай прамысловасці і ўстойлівага плацежаздольнага попыту насельніцтва, не кажучы ўжо аб захаваным здароўі нацыі.

Прыведзены прыклад і азначае працу падатковай сістэмы на чалавека, калі забяспечваецца рост занятасці насельніцтва і выкарыстанне ўзрастаючых асабістых даходаў у сваіх інтарэсах і інтарэсах усіх.

У рэшце рэшт з пазіцый сацыяльнай справядлівасці даўно настаў час вызначыцца, што забяспечыць прагрэс нашаму грамадству: практыка фіскальнай палітыкі пры фарміраванні прыбытковай часткі бюджэту ці жыццё па сродках у залежнасці ад стану эканомікі? У апошнім выпадку норма падатковых паступленняў павінна быць разлічана і аптымізавана з улікам абавязковага ўзнаўлення, пакупніцкага попыту, росту даходаў насельніцтва.

Давайце разгледзім праблему падаткаабкладання фонду аплаты працы. Па майму глыбокаму перакананню, гэты фонд павінен цалкам належаць працоўнаму калектыву і не абкладацца ніякімі падаткамі. Прычым справа не толькі ў тым, што сумарная стаўка падаткаў на фонд аплаты працы набліжаецца да 100 працэнтаў, але і ў механізме выканання плацяжоў. Тавары толькі яшчэ ствараюць ці яны знаходзяцца ў абароце, а падаткі ўжо ўтрыманы. Па сутнасці, уплачваецца падатак за выкарыстанне працоўнай сілы. І гэта ва ўмовах масавага беспрацоўя!

Супярэчнасць узмацняецца тым, што гэтым падаткам спрабуюць фінансаваць арганізацыйную работу і забяспечыць занятасць беспрацоўнага насельніцтва.

Узнікае пытанне, ну а як жа тады быць з адлічэннем 35 працэнтаў ад фонду аплаты працы ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва і 1-працэнтным адлічэннем у пенсіённы фонд, г. зн. напаўненнем гэтых фондаў і адпаведнымі выплатамі з іх? Адказ просты. Спытайцеся ў самога насельніцтва, старых і маладых, ці хочуць яны атрымліваць пенсію, ва ўсе часы жабрацкую, з агульнага катла, які папаўняецца падатковымі паборамі? Ці не лепш, яшчэ будучы маладым, самім адкладваць са сваёй зарплаты на прыстойную старасць, ды яшчэ пад працэнты ў надзейным банку? У цяперашні час сістэма дзяржаўнага пенсіённага забеспячэння ў краіне не адпавядае сучасным патрабаванням і па меры пераходу да рыначнай эканомікі ўсё больш і больш будзе ўваходзіць у супярэчнасць з рэальнай рэчаіснасцю як прадукт нярыначных часоў. Бо відавочна, што кожны працаздольны чалавек павінен мець магчымасць ствараць свой уласны пенсіённы фонд для прыстойнай старасці. Дзяржаўны прынцып, пры якім працаздольнае пакаленне цалкам утрымлівае людзей пенсіённага ўзросту праз адлічэнні па сацстраху ў «агульны кацёл», выйшаў з ужытку. Настаў час распрацаваць і на працягу 30—40 гадоў паступова рэалізаваць на практыцы новыя падыходы да гэтай праблемы з улікам сусветнага вопыту і эканамічнай справядлівасці. Ці думаюць над вырашэннем пенсіённай праблемы ў калідорах улады? Наўрад ці. Таму што ў іншым выпадку ад сказачнай кармушкі адыдзе цэлая армада чыноўнікаў, што жыруюць у галіне сацкультбыту і хвалююцца толькі аб уласным дабрабыце.

Відавочна, настаў час задумацца над адменай падаходнага падатку на заработную плату, замяніўшы яго падаходным падаткам для ўсіх юрыдычных і фізічных асоб, якія маюць падаткаабкладаемы даход. Аб'ектам падаткаабкладання павінна быць розніца паміж агульным гадавым даходам і прадугледжанымі льготамі. Але для гэтага, акрамя Падатковага кодэкса, неабходна прыняць закон аб абавязковым дэклараванні ўласных даходаў грамадзян. У гэтым выпадку адным са станоўчых момантаў будзе стварэнне моцнага рычага для эфектыўнай барацьбы з ценявымі даходамі і іншымі негатыўнымі з'явамі ў грамадстве.

Прыняцце названых законаў створыць прадпасылкі не толькі для прагрэсіўных падатковых удасканаленняў, але і для прынцыповых змен сацыяльнай сутнасці інвестыцыйных працэсаў у эканоміцы. Асноўная доля капіталу ў інвестыцыі будзе прыходзіць не з бюджэту пасля эканамічна сумніўных рашэнняў уладу маючых, а з уласных сродкаў насельніцтва. Акрамя таго, будзе рэалізавана права кожнага грамадзяніна ўдзельнічаць у кіраванні дзяржавай праз інвестыцыйны працэс. Прычым фінансаванне неэфектыўных праектаў будзе прадухіляцца з прычыны асабістай незацікаўленасці кожнага патэнцыяльнага інвестара.

Сусветны вопыт пацвярджае правільнасць практыкі спагнання падаткаў непасрэдна з пакупніка ў галіне спажывання. Пры гэтым у працэсе атрымання падатковых плацяжоў немалаважная роля належыць звычайнаму касаваму чэку. У іншых краінах гэтаму плацежнаму дакументу надаецца нашмат больш значэння, чым у нас на Беларусі. Напрыклад, у касавых чэках магазінаў ЗША ўказваецца назва набытых тавараў, іх цэны, агульная сума да падаткаабкладання, працэнтныя стаўкі падаткаў па кожнаму тавару (0; 4,50; 8,25 працэнта і г. д.), агульная сума пакупкі з улікам падаткаабкладання, атрыманая ад пакупніка сума наяўнымі коды для камп'ютэрнага ўліку, перасцярога аб магчымых тэрмінах прад'яўлення прэтэнзій... Іншымі словамі, мае месца максімальная галоснасць. Поўнае раскрыццё інфармацыі і па падаткаабкладанню. І, як гэта сацыяльна справядліва, эканамічны цыкл заканчваецца продажам тавару спажыўцу з пералікам з выручкі падатковага плацяжу ў бюджэт. Пры такім падыходзе рэальна магчымыя ўлік, кантроль і галоснасць фінансавых аперацый у галіне спажывання.

На заранку нараджэння нашай суверэннай дзяржавы не быў дадзены адказ нашаму таваравытворцу на пытанне: чаму падаткі павінен плаціць ён, а не той, хто набывае яго прадукт. Гэтым мы стварылі праблему шматразовасці падаткаабкладання суб'ектаў гаспадарання. Напрыклад, каб зрабіць трактар «МТЗ», вытворчы працэс неабходна пачаць з набыцця сыравіны. Скажам, фармовачны пясок для ліцейнай вытворчасці здабываецца на Гомельшчыне, дзе ўжо адразу робіцца тое ж падаткаабкладанне. У выніку кошт пастаўляемага пяску павялічваецца на суму аплачаных падаткаў. Ліцейшчыкі зрабілі загатоўкі і ўключылі ў іх кошт свае падаткі, частку падаткаў гамяльчан, а таксама пастаўшчыкоў металу, электраэнергіі і г. д. Але гэта толькі пачатак. Далей ідзе механічная апрацоўка загатовак і зборка вузлоў трактара. У іх кошце зноў улічваюцца шматлікія падатковыя долі папярэдніх удзельнікаў працэсу. Нарэшце, пасля зборкі трактара ў яго кошт дадаюцца падаткі трактарнага завода і зноў падатковыя долі субпастаўшчыкоў. Агульны вынік завышэння кошту трактара за кошт падаткаабкладання няцяжка падлічыць у бухгалтэрыі МТЗ. Далей трактар набывае сельгасвытворца і адносіць яго кошт на асноўныя сродкі вытворчасці, на якія ў працэсе вытворчасці налічваецца амартызацыя, сабекошт прадукцыі. У выніку кошт канчатковага прадукту ў выглядзе хлеба, мяса ці малака даходзіць да пакупніка з такімі схаванымі ў іх цане падатковымі накруткамі, што ўжо праглядваецца толькі фінансавая піраміда, падобная на піраміду сумна вядомай МММ.

Аднак усяму гэтаму ёсць тлумачэнне. На Беларусі на працягу апошніх гадоў няма рэальнага стратэгічнага плана эканамічнага развіцця на перспектыву, хаця б з намёткамі сістэмнасці і комплекснага падыходу. Нам ніхто не можа сказаць, якое ж грамадства мы будуем. Ці то сацыялізм з рыначным тварам, ці то рынак з сацыялістычным тварам, ці то яшчэ нешта. Тыя дэкларатыўныя заявы і праграмы, якія падпісваюць вучоныя мужы і якія зацвярджаюцца вышэйшымі службовымі асобамі дзяржавы, пакуль застаюцца толькі прыгожай бутафорыяй. Але грошы для функцыянавання дзяржавы, утрымання яе вялізнага апарату, фінансавання выдаткаў на абарону, сацыяльную галіну і г. д. аднекуль браць трэба. Выйсце з такой сітуацыі ўладу маючыя пакуль знайшлі толькі адно: узмацненне падатковага прэса, імкненне выціснуць у бюджэт з суб'ектаў гаспадарання максімум сродкаў. Не даючы ім пры гэтым нічога ўзамен.

І вось ужо некалькі гадоў эканоміка Беларусі са сваімі падаткамі знаходзіцца шмат вышэй таго ўзроўню падаткаабкладання, пры якім дасягаецца найвялікшы збор падаткаў. Пры такой сітуацыі, з аднаго боку, бюджэтны дэфіцыт пры росце падаткаў часова зніжаецца. Але, з другога боку, ва ўмовах манапалізаванай эканомікі рост падаткаў прыводзіць да росту цэн і інфляцыі. Не кажучы ўжо пра тое, што суб'екты гаспадарання не ў стане пераадолець непасільны падатковы бар'ер, што ў рэшце рэшт прыводзіць да падатковых неплацяжоў і невыканання даходнай часткі бюджэту. Пра гэта, дарэчы, гавораць і вынікі работы нашага народнагаспадарчага комплексу за першы квартал, у якім бюджэтныя зборы склалі ўсяго толькі каля 15 працэнтаў да года. Не трэба казаць, чым гэта пагражае. Цяпер неабходна зрабіць правільныя высновы і вызначыць аптымальнае значэнне ўзроўню падаткаабкладання. Прагнозная ацэнка на базе даных расійскіх спецыялістаў паказвае, што ўзровень беларускіх падаткаў на 40—60 працэнтаў вышэй за аптымальнае значэнне. Аднак лепш, калі айчынныя эканамісты правядуць мадэльныя эксперыменты па рэальных сцэнарыях для ацэнкі ўзроўню падаткаабкладання і выдадуць практычныя рэкамендацыі. Бо не за гарамі бюджэт 1997 года. І калі яго распрацоўка пойдзе па сцэнарыю 1996 года, вынікі для эканомікі краіны нават цяжка ўявіць. Надзея на тое, што распрацоўваемы выканаўчай уладай Падатковы кодэкс зменіць становішча ў народнай гаспадарцы да лепшага, пакуль падманлівая. Ды і не па сілах, на мой погляд, гэтая справа: распрацаваць і ўкараніць Падатковы кодэкс на працягу года. Гэта справа настолькі складаная, што спешка ні да чаго добрага не прывядзе. Тым больш, што наша падатковая сістэма вельмі складаная і змяніць яе будзе вельмі нялёгка. Цяпер шматлікія дзеючыя палажэнні і інструкцыі патрабуюць вылічаць індывідуальна, колькі, калі і якіх падаткаў павінен заплаціць кожны суб'ект гаспадарання. Добрасумленнасць разліку ў рэальнай практыцы залежыць ад асобы бухгалтара ці падатковага інспектара, ад трактоўкі заканадаўства рознымі чыноўнікамі і г. д. Удзел у гэтым працэсе соцень тысяч людзей прыводзіў і будзе заўсёды прыводзіць на бясконцым шляху спроб і памылак у нашай сістэме падаткаабкладання да адмоўных вынікаў. Працэдура падаткаабкладання, безумоўна, павінна быць спрошчана, а ўсе ўдзельнікі пастаўлены ў роўныя ўмовы. Вельмі відавочна, што падатак павінен працаваць на чалавека, а не чалавек існаваць для падатку. Заканамерна і ўжо пастаўленае раней пытанне — чаму падаткі павінен плаціць вытворца тавараў, а не іх пакупнік? Іншы падыход, на мой погляд, забяспечыў бы і мінімальную цану на прадукт, і выключыў бы падатковыя прыпіскі да сумы валавога ўнутранага прадукту. Тут і скасаванне падатковых прыпісак з паказчыка прадукцыйнасці працы, і аслабленне крыміналу (у сувязі з адсутнасцю прычын для ўхілення ад падаткаў), і практычная рэалізацыя прынцыпу — багаты плаціць двойчы, калі набывае дарагую рэч: за сябе — яе рыначны кошт і падатак — за беднага. Бедны нічога не плаціць, таму што ў яго няма магчымасці набываць дарагія рэчы. І ў той жа час усе плацяць пасільныя падаткі пры набыцці танных тавараў.

Стала відавочным, што мы жывём не па сродках. Можна шмат гаварыць аб залішніх выдатках выканаўчай улады, аб неэфектыўных тратах бюджэтных грошай, аб няўменні чыноўнікаў прымяніць на практыцы законы эканамічнага развіцця. Але галоўнае ў іншым. Наша выканаўчая ўлада ўпарта спрабуе захаваць камандна-адміністрацыйную сістэму кіравання эканомікай, аб'явіўшы пры гэтым аб рыначных рэформах, г. зн. спрабуючы сумясціць несумяшчальнае.

У нас многія людзі разумеюць адказнасць не як неабходны абавязак адказваць за свае дзеянні, а як магчымасць пераадрасаваць на начальніка абвінавачанне за дрэнныя вынікі працы. Беларусь не зможа канкурыраваць са знешнім светам, захоўваючы старую аўтарытарную сістэму кіравання. Таму, хоча хто таго ці не, пераход на стыль працы з самакіравальнымі працоўнымі калектывамі непазбежны. Вось толькі для рэспублікі жыццёва важна, як хутка зразумеюць неабходнасць такога пераходу тыя, ад каго гэта залежыць.

І напрыканцы, трохі паўтаруся: няма неабходнасці даказваць важнасць прыняцця Падатковага кодэкса. Але неабходна мець на ўвазе важнасць сістэмнага падыходу ў вырашэнні праблем эфектыўнага развіцця эканомікі, у тым ліку і за кошт новай сістэмы падаткаабкладання. Асаблівыя ўмовы ўносіць абавязковасць распрацоўкі і ўвядзення сацыяльна арыентаванай падатковай сістэмы на карысць чалавека ў цесным супрацоўніцтве з Расіяй. Канцэптуальна і па ключавых пазіцыях нашы сістэмы падаткаабкладання павінны быць сумяшчальнымі. Такія патрабаванні інтэграцыйных працэсаў развіцця эканамічнага саюза. Аднак вырашэнне гэтай праблемы магчыма толькі пры ўмове канструктыўнага супрацоўніцтва дзвюх галін улады — заканадаўчай і выканаўчай. Чаго ў нас, на жаль, не назіраецца. Але гэта ўжо тэма для асобнай гутаркі.

**Уладзімір БАШАРЫМАЎ,**
**старшыня Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах.**

ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ

## Уладзімір ГІЛЕП:

# «Культуры не абысціся без апантаных энтузіястаў...»

***Уладзімір ГІЛЕП (да нядаўняга часу — першы намеснік міністра культуры і друку нашай краіны) абраны старшынёй Беларускага фонду культуры. Яшчэ зусім нядаўна гэтую грамадскую арганізацыю ўзначальваў народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў. Сёння, як і заўжды, Беларускі фонд культуры — свайго роду эпіцэнтр многіх грамадскіх і культурна-асветніцкіх ініцыятыў. Пра праекты, якія чакаюцца заўтра, ды і не толькі пра гэта, — у першым інтэрв'ю спадара Гілепа, якое ён дае на новай і адказнай пасадзе менавіта газеце «Звязда».***

**— Дазвольце пачаць размову з пытання ў пэўнай ступені прамалінейнага. Ёсць Міністэрства культуры — установа шматгранная, кампетэнтная. Навошта ж яшчэ і фонд? Чаму б не стварыць, калі гэтага патрабуюць абставіны, яшчэ адзін аддзел у саставе міністэрства?**

— Відавочна, што і вы не будзеце аспрэчваць значнасць дзейнасці БФК, здабыткі ў сферы нацыянальнай культуры. Наша праца — на вачах усяе грамадскасці, з удзелам самой грамадскасці. Ды і ў назвах абедзвюх устаноў падставы да сугучнасці і суладдзя дае паўсюдная прысутнасць слова «культура». Сфера клопатаў, здавалася б, калі мераць агульным вялікім маштабам, адна і тая ж. Так, і не зусім так. Міністэрства праводзіць у жыццё шматабсяжныя, дакладна выверанфя, перспектыўныя дзяржаўныя праграмы. Зрушыць нешта, аператыўна ўмяшацца ў спланаваны часам на гады працэс даволі цяжка, амаль немагчыма. Міністэрства — бюракратычная ўстанова (заўважаю гэта ў добрым сэнсе).

Што ж датычыцца БФК, то тут уладарыць грамадская ініцыятыва. Я назаву імёны людзей, якія ў розныя часы спрычыніліся да дзейнасці фонду: Іван Чыгрынаў, Адам Мальдзіс, Мая Яніцкая, Уладзімір Дзянісаў, светлай памяці Генадзь Каханоўскі ды шмат хто яшчэ. Наўрад ці гэтых асоб трэба прадстаўляць дадаткова. Якраз гэтыя людзі, стыль іх жыцця, іх руплівасць і энергічнасць пераконваюць, што культуры не абысціся без апантаных энтузіястаў.

**— Ці можна гаварыць пра пэўныя канкрэтныя праекты БФК у апошні час?**

— Калі ласка. Як прыклад — праблема малых гарадоў, паселішчаў. Асобнай праграмай мы вызначылі для сябе клопат аб адраджэнні беларускіх мястэчак. Скажыце мне, хто і калі гэтым спецыяльна займаўся на дзяржаўным узроўні? Наадварот — мястэчка мэтанакіравана руйнавалі. Садзейнічалі гэтаму індустрыялізацыя і калектывізацыя. Адны паселішчы пераўтваралі, дзякуючы будаўніцтву буйных прадпрыемстваў, у гарады. Наносілі пры гэтым шкоду і ўсяму наваколлю, сцягваючы працоўныя рэсурсы з усіх вёсачак паблізу. Іншыя мястэчкі адно толькі цэнтральнымі садзібамі калгасаў і заставаліся.

**— Пры гэтым гублялася галоўнае — духоўная аура правінцыі. Дарэчы, шкада, што няма мястэчку нават літаратурнага, мастацка-дакументальнага помніка. Хіба што празаік Мар'ян Віж напісаў цёплую краязнаўчую кніжачку пра старыя мястэчкі...**

— І сапраўды, старадаўняе мястэчка — гэта высокая духоўная гармонія чыстага правінцыяльнага жыцця. Чаго вартыя ўжо адны толькі кірмашы, якія праводзіліся ў кожную пару года, прымяркоўваліся да рэлігійных, усенародных святаў. Да таго ж кожнае мястэчка вызначалася нечым адметным, пэўным промыслам. Таму і ператвараліся кірмашы ў сапраўдныя выстаўкі народнай творчасці. У Копысі, напрыклад, выраблялі кафлю. Івянец славуты керамікай. Капыль — высокімі ўзорамі ткацтва. У кожнага мястэчка — свой вобраз.

**— Вы так захоплена расказваеце пра мястэчкі, што ўжо і мне ідылістычна падаецца, што, звярнуўшы на малыя паселішчы ўвагу, можна будзе абудзіць культуру, духоўнасць і вёскі, і горада заадно. Але жыццё куды больш жорсткае. Вось і ў дарагім мне мястэчку Пуховічы (кажуць старажылы, што сённяшнюю вёску Пухавічы якраз так і называлі — Пуховічы) шарэе жыццё, меншае моладзі, клуб вясковы, ці, як раней называлі, дом культуры, гібее, здаецца, вось-вось разваліцца...**

— Ды будзе гібець і ў вашых Пуховічах, і ўсюды, калі толькі пра культуру дбаць асобна, а пра жыццё людзей, сацыяльную, вытворчую сферы — асобна. Праграму «Адраджэнне малых гарадоў і паселішчаў» БФК разумее зусім не як адны толькі святочныя фэсты. Папершае, трэба разгледзець, убачыць людзей мястэчка. Спакон веку ў ім прысутнічала шматканфесіянальнасць. Разам, у адной супольнасці з беларусамі, жылі яўрэі і палякі, татары і ўкраінцы, літоўцы... Мне асабіста падаецца, што і наша нацыянальная памяркоўнасць, гістарычны беларускі менталітэт — адтуль, з мястэчка. Дык вось, плануючы свята (а летась яно праходзіла ў Дзвінску, сёлета БФК праводзіць фэст у Копысі), усе гэтыя моманты мы ўлічваем. Аднак рупімся і пра другое. Як прыклад — Копысь. Быў там некалі маленькі заводзік — выраблялі сучасную кераміку. Але з надыходам новых эканамічных умоў прадпрыемства «лягло» на дно. Людзі звольніліся. Вось і думаем, якія інвестыцыі прыцягнуць у Копысь, якіх бізнесменаў запаліць ідэяй адраджэння промыслу па вырабу кафлі. Ніякае Міністэрства культуры займацца гэтым клопатам, апекавацца не будзе. Абудзіць, разварушыць грамадскасць — задача фонду.

**— Але ж і фонду патрэбны грошы. У каго будзеце прасіць іх — у дзяржавы ізноў жа?**

— БФК — гэта небюджэтная арганізацыя. Мы існуем за кошт тых прадпрыемстваў, якія нам перадала дзяржава. А гэта — Бабруйская галантарэйная і Маладзечанская мастацкая фабрыкі. Праўда, і яны зараз знаходзяцца ў даволі цяжкім становішчы. На канферэнцыі, дзе мяне абралі кіраўніком БФК, якраз пра гэта і вёў размову. І зараз наладжванне спраў на прадпрыемствах лічу першачарговай задачай. Запрацуюць як след фабрыкі — будуць у фонду і грошы на ажыццяўленне самых розных праектаў.

Рупячыся аб матэрыяльным забеспячэнні, мы ўсё ж вялікую ўвагу ўдзяляем людской ініцыятыве. І трэба заўважыць, што ёсць яшчэ людзі, якія ідуць да нас з ініцыятывай, з перакананнем працаваць бясплатна, галоўнае — каб толькі не згубіць, захаваць нацыянальную культуру. Такіх апантаных энтузіястаў, як, напрыклад, Васіль Літвінка, трэба шукаць і шукаць. Асацыяцыя фалькларыстаў, што пачыналася з ініцыятывы БФК, сёння на грамадскіх пачатках робіць надзіва шмат.

**— Беларускі фонд культуры — гэта і дзейнасць грамадскай камісіі «Вяртанне».**

— Ёсць, дарэчы, і ідэнтычная дзяржаўная камісія...

**— Але нешта пра яе здабыткі не чуваць.**

— «Вяртанне» БФК працуе плённа. Тут трэба ўлічваць і такі момант. На грамадскім узроўні можна зрабіць нашмат болей, абмінаючы многія дыпламатычныя ўмоўнасці. Мы збіраем інфармацыю. Як сведчанне — два выпускі зборніка «Вяртанне», на падыходзе — трэці. Фатаграфуем, занатоўваем, дзе і што беларускага ў свеце знаходзім. І ёсць плён.

**— І што ўжо вернута?**

— Для мяне асабіста, як для беларуса, вялікай абразай было, што Беларусь да нядаўняга часу не мела ў стане добрай захаванасці ніводнага слуцкага пояса. Тады як у Польшчы, Літве, Украіне яны захоўваюцца не толькі ў экспазіцыях і фондах музеяў, але і ў прыватных калекцыях. І вось ужо зараз два слуцкія паясы — на Беларусі. Адзін з іх перадаў вядомы Анджэй Цеханавецкі.

Ёсць пэўныя зрухі і ў вяртанні славутай бібліятэкі Храптовічаў з Кіева. І пасля таго, як сабрана ўся інфармацыя, зроблены многія ўзгадненні, праведзены грамадскія перамовы, тады ўжо можна і дзяржаўныя інстытуты падключаць. Бо на дзяржаўным узроўні лагічна весці перамовы, калі ёсць законныя дакументальныя падставы да вяртання.

Але, заўважце, вельмі важная тут яшчэ адна акалічнасць. Вяртанне — гэта не толькі фізічны працэс. Але (і хутчэй за ўсё — гэта асноўнае) і працэс накаплення інфармацыі. Нам трэба засведчыць, якія ўласна беларускія, ўласна нацыянальныя скарбы знаходзяцца за межамі Айчыны. Вось палякі, напрыклад, нядаўна выдалі чарговы бібліяграфічны том, дзе ўказваюць, як у самым падрабязным каталогу, кожную кніжачку, вывезеную за межы Польшчы, указваюць бібліятэчны шыфр кожнай кнігі.

Мы ж часам шукаем навобмацак. У нас не захавалася музейных спісаў, інвентарных кніг.

**— Відаць, войны таму прычына?**

— Але ж і іншыя краіны, іншыя народы войны пашкуматалі не меней, чым Беларусь.

**— У справе вяртання — галоўнае высвятленне адносінаў з суседзямі... Тут, відавочна, без пачуцця такту не абысціся.**

— У нас складваюцца нармальныя адносіны з палякамі. Створана сумесная камісія «Вяртанне», якая працуе на грамадскіх пачатках. Палякі не супраць вярнуць радзівілаўскія зборы жывапісу. Але пры ўмове, што яны стануць экспазіцыяй у адрэстаўрыраваным Нясвіжскім замку. Праўда, вяртаюць на часовае ўтрыманне. Але ж не абмяжоўваюць гэта тэрмінамі. Адзінае, чаго патрабуюць, — каб былі нармальныя ўмовы для музейнага захоўвання.

Ёсць папярэдняя дамоўленасць аб стварэнні беларуска-расійскай камісіі «Вяртанне».

Але, акрамя згаданых вышэй рэчаў, хачу звярнуць увагу і на такую акалічнасць. Камусьці яна можа падасца крамольнай. Трэба вяртаць і імёны. Мы ўсіх раздалі, раздарылі. Манюшка, Агінскі для нас — усяго толькі польскія кампазітары. А колькі ж мастакоў, спевакоў, пісьменнікаў, якія нарадзіліся на Беларусі, сёння — у чужых пантэонах славутасцяў. А мы, беларусы, сарамліва маўчым — як быццам гэта ўсё не наша.

***— Будзем спадзявацца, што Беларускі фонд культуры, камісія «Вяртанне», у прыватнасці, зробяць нямала, каб падтрымаць агеньчык духоўнасці, надаць беларускаму адраджэнню новы энергетычны зарад.***

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ПАРТУЛІК

# У БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКАЙ ПАРТЫІ — ЧАРГОВАЯ СПРОБА ПАЗБЕГНУЦЬ ДОЎГАТЭРМІНОВАГА КРЫЗІСУ?

**На фоне ўнушальнай палітычнай перамогі аграрнай партыі на мінулых парламенцкіх выбарах яе суперніца — Беларуская сялянская — як быццам знікла ў нікуды. Шырокай рэкламы БСП не зрабіў нават чарговы партыйны з'езд. Што ж робіцца ў партыі, якая, згодна са сваімі статутнымі, праграмнымі заявамі, магла б стаць дзейснай сілай, дзейсным рычагом у справе дэмакратычных пераўтварэнняў у сферы аграпрамысловага комплексу. З гэтым пытаннем і звярнуліся да Міхаіла Антоненкі, актывіста Беларускай сялянскай партыі, кандыдата эканамічных навук. Цяпер ён узначальвае прэзідыум Цэнтральнай рады БСП.**

**— Міхаіл Мікалаевіч, але ж, здаецца, на з'ездзе старшынёй партыі быў абраны Яўген Міхайлавіч Лугін...**

— Ён і застаецца ім. Але створаны яшчэ прэзідыум Цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі.

**— Як некалі і ў ЦК КПСС...**

— Прэзідыум — гэта зусім не бутафорыя, не жаданне стварыць яшчэ адну кіраўніцка-адміністрацыйную адзінку. Апошнім часам адчувалася (і ў гэтым пераканалі ў першую чаргу выбары), што ў партыі няма дзейснай, аператыўнай сістэмы прыняцця пэўнага рашэння, а пасля і яго ажыццяўлення. Статут патрабаваў ад нас літаральна ўсе важнейшыя пытанні вырашаць на з'ездзе альбо пленуме. Цяпер ёсць больш аператыўная структура — прэзідыум.

**— Дзейнасць партыі немагчыма без выразнага ўплыву на заканатворчасць. Не маючы сваіх прадстаўнікоў у парламенце, вы фактычна, прабачце за жорсткасць фармулёўкі, асуджаны на выміранне. Такіх бяздзейсных, неўплывовых партый — дзесяткі. Але ж нават у масе сваёй яны не здольны ўплываць на грамадства, дамагацца якіх бы там ні было пераўтварэнняў.**

— Але ж за намі, за спінаю ў таго ж прэзідыума, у кіраўніцтва партыі — больш за дзесяць тысяч членаў БСП. Хіба гэта не ўплывовая сіла? Да таго ж у парламент выйшаў наш прадстаўнік — Герасіменка. Праз яго і збіраемся ўплываць на заканатворчую дзейнасць, праз яго і кантактуем з парламенцкай фракцыяй «Грамадзянскае дзеянне».

**— Але ж, здаецца, Герасіменка выйшаў з шэрагаў БСП на апошнім з'ездзе?**

— Заявы аб выхадзе наш дэпутат не пісаў. Кантакты, стасункі з партыяй, Цэнтральнай радай працягвае падтрымліваць. Што ж датычыць заявы Герасіменкі на з'ездзе БСП, то я асабіста разумею гэта як жаданне завастрыць праблему, пазбавіць многіх людзей пэўных ілюзій, прымусіць працаваць сур'ёзна, напружана.

**— Мы гаворым з вамі ў важны для вёскі перыяд...**

— Наперад адчуваю, аб чым збіраецеся запытацца. Маўляў, якая ў нас ідзе практычная работа па дапамозе вяскоўцам у веснавых клопатах, у сяўбе і г. д. ...А якая, прабачце, павінна ісці ў партыі з гэтай нагоды работа? Што, трэба ўпаўнаважаных разаслаць па раёнах? Але ўжо, відаць, хопіць. Дзесяцігоддзямі адна партыя кіравала сельскай гаспадаркай. І што мы зараз маем? ...Але што робіцца на вёсцы — мы ведаем. Сувязь з фермерамі, астатнімі актывістамі партыі маем трывалую.

***Беларуская сялянская партыя перажывае, кажучы трывіяльна, няпростыя часы. Наколькі ўплывовай на вёску, на вяскоўцаў будзе дзейнасць гэтай палітычнай арганізацыі, залежыць, на мой прыватны погляд, ад лідэраў БСП. Ад таго, наколькі разумнымі будуць іх уласныя і палітычныя амбіцыі.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

НАУЗДАГОН

## Уладзімір УЛАСЕНЬ:

# «Пагадненне з Калінінградскай вобласцю — не што іншае, як палітычны гарант эканамічнага супрацоўніцтва»

***«Звязда» ўжо паведамляла, што паміж Міністэрствам транспарту і камунікацый нашай краіны і адміністрацыяй Калінінградскай вобласці падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне транспарту. Паколькі апошнім часам тэма падобнага супрацоўніцтва даволі актыўна абмяркоўвалася на старонках шэрага беларускіх і замежных выданняў, па інфармацыю «з першых вуснаў» наш карэспандэнт вырашыў звярнуцца да намесніка міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Георгіевіча Уласеня.***

**— На працягу некалькіх гадоў у якасці магчымых «марскіх варот» Беларусі называліся Рыга, Вентспілс, Клайпеда, Гданьск. Ці азначаюць цяперашнія пагадненні, што канчатковы выбар зроблены на карысць Калінінграда?**

— Нам заўсёды было важна выбіраць порты, дзе найбольш танныя паслугі і хуткая апрацоўка грузаў. Апроч таго, варта ўлічваць, што ўсе порты маюць спецыялізацыю як па грузах, так і па напрамках перавозак. У залежнасці ад усяго гэтага Беларусь апошнім часам выкарыстоўвала некалькі партовых збудаванняў — у Клайпедзе, Вентспілсе, Херсоне і інш. Адмаўляцца ад іх паслуг мы не збіраемся.

Але прынцыпова, што менавіта падчас кантактаў з адміністрацыяй Калінінградскай вобласці былі дасягнуты дамовы аб рэжыме ўзаемнага найбольшага спрыяння ў галіне транспарту. Калі канкрэтна, дамовіліся, што для нас будуць устаноўлены льготныя тарыфы на карыстанне калінінградскімі портамі, а для самай заходняй вобласці Расіі — на транзітныя перавозкі праз тэрыторыю Беларусі.

**— Сёння для марскіх перавозак Беларусь карыстаецца фрахтам. Ці мае наша краіна намер стварыць уласны флот?**

— Безумоўна, вельмі выгадна, калі нашы грузы дастаўляюцца да замежных спажыўцоў беларускім транспартам. Але каб стварыць уласны флот, патрэбны вялікія сродкі. Напрыклад, адно судна грузападымальнасцю 3 тысячы тон каштуе прыкладна 8 мільёнаў долараў. Таму зараз прапрацоўваюцца варыянты арэнды альбо пакупкі суднаў па лізінгу. Ёсць яшчэ адна ідэя — для недалёкіх перавозак пераабсталяваць беларускія судны тыпу «рака» на тып «рака—мора».

Аднак усё роўна пры стварэнні беларускага флоту без інвестыцый не абысціся. Прычым мы разлічваем не толькі на дзяржаўныя сродкі, але і на капіталы ўсіх зацікаўленых суб'ектаў гаспадарання.

**— У падпісаных паміж Беларуссю і Калінінградскай вобласцю пагадненнях дэкларуецца аб намерах сумеснага будаўніцтва порта на Балтыцы. Які ўдзел у праекце возьме наша краіна?**

— Ідэя сумеснага будаўніцтва порта вельмі цікавая, але пакуль яна таксама знаходзіцца ў стадыі прапрацоўкі. Што датычыць удзелу ў праекце Беларусі, ён можа быць розным — праз прамое інвесціраванне альбо праз стварэнне адмысловага сумеснага прадпрыемства, якое будзе напрацоўваць капітал і ўкладваць яго ў развіццё порта. Які з гэтых варыянтаў аптымальны, зараз вывучаецца. Бо, як вядома, перш чым нешта адрэзаць, лепш спачатку адмераць сем разоў.

**— Бадай, самае балючае пытанне. Вядома, што агульнай мяжы Беларусь і Калінінградская вобласць не маюць. Вядома таксама, што ўсе папярэднія спробы ўсталяваць так званы транспартны калідор праз паўночна-ўсходнія раёны Польшчы былі ўспрыняты ў Варшаве адназначна — як пагроза суверэнітэту гэтай краіны. У такіх варунках ці маюць нашы пагадненні з Калінінградскай вобласцю сэнс увогуле?**

— Сапраўды, рэакцыя польскага боку была няпростай, але пасля сустрэчы прэзідэнтаў нашых краін з'явілася надзея, што мы прыйдзем да згоды. Транспартны калідор вельмі выгадны і для Польшчы, бо для яе гэта і інфраструктура, і новыя працоўныя месцы, і, урэшце, даходы ад транзіту.

**— У такім разе апошняе: існуе думка, што цяперашнія пагадненні Беларусі з Калінінградам маюць не эканамічны, а чыста палітычны характар...**

— Пагадненні можна расцэньваць як палітычныя, але прадыктаваны яны толькі эканамічнымі меркаваннямі. Гэты крок патрэбны дзеля таго, каб у далейшым можна было спакойна працаваць па заключэнню дамоў паміж суб'ектамі гаспадарання абодвух бакоў. Таму цяперашнія пагадненні — не што іншае, як палітычны гарант эканамічнага супрацоўніцтва.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ПА МЕРКАВАННЮ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ СЕМІНАРА Ў НАВАПОЛАЦКУ, БУДУЧЫНЯ ЗЯМЛІ НАЛЕЖЫЦЬ ПРЫВАТНІКУ

**НАПРЫКАНЦЫ МІНУЛАГА ТЫДНЯ ў Наваполацку праходзіў семінар «Аграрна-зямельная рэформа ў Рэспубліцы Беларусь», арганізаваны Віцебскім аддзяленнем Фонду Сораса і Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў ( НІСЭПД).**

На думку кандыдата сельскагаспадарчых навук, начальніка аддзела па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню Віцебскага аблвыканкома Уладзіміра Вашкевіча, сялу патрэбны датацыі, танныя крэдыты і адтэрміноўка плацяжоў. У адваротным выпадку ў хуткім часе вяскоўцы пачнуць карміць толькі сябе. Разам з тым старшы навуковы супрацоўнік інстытута эканомікі і інфармацыі АПК Сяргей Пяткевіч, які знаёміў прысутных з ходам рэформаў у сельскай гаспадарцы краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, праінфармаваў слухачоў аб тым, што ў Эстоніі адмовіліся ад датацый АПК, і, пачынаючы з мінулага года, у краіне вызначыўся рост вытворчасці ў сельскай гаспадарцы. А што тычыцца вытворцаў сельгаспрадукцыі як пастаўшчыкоў яе гараджанам, то тут статыстыка сведчыць не на карысць калгасаў. У адпаведнасці з данымі Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ, якія былі прааналізаваны вядучым навуковым супрацоўнікам НІСЭПД Леанідам Злотнікавым, большасць гараджан жыве за кошт уласнай гаспадаркі. Так, доля спажывання прадуктаў харчавання, вырабленых у падсобнай гаспадарцы ці атрыманых з вёскі (маюцца на ўвазе перадачы бацькоў у выглядзе бульбы ці сала) за мінулы год склала па рэспубліцы: бульбы — 87,6 працэнта, агародніны — 76,6, садавіны — 46,2, мяса і мясапрадуктаў — 33,7, яек — 38,1, малака і малочных прадуктаў — 32,7 працэнта. Пры такім становішчы спраў знікненне калгасаў можа адбыцца амаль нябачна. Сёння гаспадыні ідуць па прадукты харчавання пераважна не ў дзяржаўныя магазіны, а на рынкі, дзе, па-першае, усё ёсць, па-другое, больш якаснае, і па-трэцяе, куды таннейшае, чым у гандлёвых кропках.

У неабходнасці правядзення рэформы аграрна-прамысловага комплексу ніхто не сумняваецца. Толькі вось дасканалага механізма яе рэалізацыі не выпрацавана. Са знікненнем калгасаў, што ўсё ж неяк клапоцяцца пра вяскоўцаў, з'уляецца шмат сацыяльных пытанняў. У прыватнасці, як забяспечыць нармальнае жыццё сялян, большасць з якіх пенсіянеры, у далёкіх і ўжо паўзабытых ужо сёння вёсках, калі знікне калгас? На думку спадара Пяткевіча, супрацоўніка інстытута эканомікі АПК, нам неабходна пачынаць рэформу з прыняцця дасканалага закона, ажыццявіць яе ў кароткі тэрмін — за год-два, як гэта зрабілі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дзе на сённяшні дзень трывалыя паказчыкі росту па ўсіх пазіцыях. Па яго меркаванню, зямлю трэба вярнуць яе ўласнікам і не абмяжоўваць формы гаспадарання — жыццё само вызначыць, што найбольш эфектыўна. З дванаццаці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы дзесяць знайшлі спосаб вярнуць зямлю ўладальнікам. Спадар Пяткевіч не прыхільнік выкарыстання вопыту іншых краін поўнасцю, без уліку становішча на Беларусі. Але, па яго меркаванню, лепш раздаць зямлю бясплатна, калі людзі не могуць яе купіць, як гэта зрабілі ў Албаніі, але не пакідаць яе без гаспадара, што адбываецца ў нас сёння. Паводле слоў Сяргея Уладзіміравіча, які пабываў у многіх краінах Еўропы, колькасць прыватных зямель складае не менш 90—95 працэнтаў. Тое ж тычыцца і Галандыі, пра якую ў нас кажуць, быццам там буйныя гаспадаркі. Будучыня толькі за ўласнікам, лічыць спадар Пяткевіч.

Зрэшты, гэта бачна і па паказчыках, якія прывёў у сваім дакладзе старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах РБ Георгій Кузняцоў. Ва ўласнасці сялянскіх гаспадарак знаходзіцца 64,7 тысячы гектараў зямель. Меры па расшырэнню зямельных участкаў, што з'яўляюцца маёмасцю грамадзян, вядуць да павелічэння вытворчасці. Так, вытворчасць збожжа ўзрасла з 130,1 тысячы тон у 1991 г. да 302,4 тысячы тон (+172,3) у 1995-м, бульбы — з 5812,2 тысячы тон да 8211,2 тысячы (+2399,1), садавіны — з 501 да 790,5 тысячы тон (+289,5). Дзякуючы павелічэнню пагалоўя буйной рагатай жывёлы за мінулы год ў прыватным сектары выраблена 2011,9 тысячы тон малака (у 1991 г. — 1790,1 тыс. т). Акрамя таго, у 1995 г. грамадзянамі было выраблена ялавічыны і свініны 231,8 тысячы тон, што на 13,8 тысячы тон больш, чым у 1991 г.

Каму выгадна гаспадарыць неэфектыўна, выдаткоўваць трэцюю частку дзяржаўнага бюджэту і купляць за мяжой элементарныя прадукты харчавання? У калгасаў такіх, якія яны ёсць сёння, няма заўтрашняга дня. Толькі гаспадар можа атрымаць станоўчы вынік. Праўда, можна паспрачацца. За гады рэформы (з 1991-га па 1995-ы) было створана 3686 фермерскіх гаспадарак, з якіх 551 перастала існаваць. Аднак не ў малой ступені тут прычына ў адсутнасці сістэмы сэрвіснага абслугоўвання фермерскіх гаспадарак. Зрэшты, людзі не спадзяюцца толькі на ўлады: колькасць коней у прыватных гаспадарках за апошнія гады ўзрасла з 15 тысяч да да 68.

У межах семінара адбылася прэзентацыя падрыхтаванага пад эгідай Міністэрства замежных спраў Італіі мемарандума, які закранае праблемы аграхарчовых сістэм Усходу і Захаду на парозе трэцяга тысячагоддзя. Дакумент змяшчае рэкамендацыі для кіраўніцтва краін ЕС, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, СНД, міжнародных арганізацый.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ПОГЛЯД*

# ВЯЧАСЛАЎ СІЎЧЫК ВЫХОДЗІЦЬ З ГАЛАДОЎКІ

***Як паведамляла ўжо «Звязда», у мінулую пятніцу пад падпіску аб нявыездзе быў вызвалены з-пад варты сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, які абвінавачваецца па арт.186-3 Крымінальнага кодэкса. Прычына вызвалення — пагаршэнне стану здароўя ў сувязі з галадоўкай, што цягнулася амаль тры тыдні. У мінулую суботу Вячаслаў Сіўчык паступіў у трэцюю клінічную бальніцу горада Мінска і пачаў выходзіць з галадоўкі пад наглядам урачоў-спецыялістаў. В.Сіўчык п'е разбаўленыя вадой сокі, узвары, а вечарам у панядзелак збіраўся ўключыць у свой рацыён і кашу...***

***На мінулым тыдні «Звязда» некалькі разоў прадстаўляла пункт погляду прадстаўнікоў следчага ўпраўлення Мінскай гарадской пракуратуры на сітуацыю, звязаную з крымінальнай справай па факту масавых беспарадкаў у Мінску падчас шэсця «Чарнобыльскі шлях». Цяпер дзякуючы вызваленню В.Сіўчыка з-пад варты, надарылася магчымасць высветліць і яго пазіцыю, тым больш, што ён рашуча адмаўляецца прызнаць сваю віну.***

**—Вячаслаў, спачатку я хацеў бы цябе запытаць, як ты цяпер сябе адчуваеш?**

— Я адчуваю сябе як чалавек, што сутыкнуўся з рэальнай сістэмай пакарання нявіннага чалавека. Адзінае, што я магу добрае сказаць, дык гэта тое, што са здароўем у мяне ўжо лепш, я вельмі ўдзячны ўрачам, у тым ліку тым, якія працуюь у праваахоўнай сістэме. Яны выконвалі свой абавязак і вельмі мне дапамаглі. Я думаю, што мне ўдасца выйсці з галадоўкі без сур'ёзных страт, я зацікаўлены ў тым, каб застацца актыўным чалавекам і захаваць сваё здароўе.

**— Была інфармацыя, што ты меў сур'ёзныя складанасці з ныркамі і зрокам. Ці так гэта?**

—Як можаш заўважыць, цябе я бачу, хадзіць магу, маю больш-менш нядрэнныя аналізы. А з'яўленне той інфармацыі звязана з тым, што як да мяне ніякія звесткі з волі не даходзілі, так і на волю інфармацыя трапляла з цяжкасцю. Тут проста адбыўся нейкі збой.

**—Але газета «Имя» нават выйшла з вялікім загалоўкам «Вячеслав Сивчик при смерти»...**

— У мяне сапраўды было цяжкае становішча. Гэта тлумачыцца перш за ўсё менавіта той сітуацыяй, якая склалася вакол мяне. Затрыманы я быў адразу пасля мітынгу, прывезены пасля ночы, праведзенай ў Фрунзенскім РАУСе, у спецпрыёмнік, які быў, па-мойму, загадзя падрыхтаваны. Спачатку мяне абвінавацілі, што я нібыта перакрываў рух на праспекце Машэрава, затрымалі і адвезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік, суд-«двойка» без сведак і адваката ацаніў мае хуліганскія дзеянні ў дзесяць сутак, але ж я іх не адбыў, бо мяне павезлі ў наручніках у пракуратуру, ізалятар часовага ўтрымання, потым зноў у пракуратуру, СІЗО... Карацей, я прайшоў шэсць этапаў... У пракуратуры мяне ўжо абвінавацілі ў крымінальным злачынстве. Аб'явіўшы галадоўку, я сфармуляваў заяву супраць прававога бязмежжа, я апісаў усе свае няшчасці, як мяне затрымалі і як судзілі. Гэта было адзінае паказанне, якое я даў следчым. Натуральна, я не прызнаваў сябе вінаватым, нічога не падпісваў, але нікога гэта не цікавіла. Мяне кінулі ў ізалятар часовага ўтрымання, я трапіў у камеру, дзе былі людзі ўжо «вопытныя». З пяці маіх сакамернікаў чацвёра мелі не менш як дзве судзімасці. Спачатку нават ўражваюць голыя нары, адсутнасць вады... Пасля я быў прывезены ў СІЗО на Валадарскага. Толькі праз тыдзень мне ўдалося дамагчыся, каб дапусцілі майго адваката... Ведаеце, гэта прававое бязмежжа тычыцца не толькі мяне асабіста, але ў сувязі з тым, што я з'яўляюся адным з кіраўнікоў БНФ, мяне, відаць, вырашылі «раскруціць» на крымінальную справу за тое, што я з'яўляюся сакратаром БНФ. Аб гэтым, дарэчы, упаміналася ў афіцыйным абвінавачанні. Гэта і ёсць той самы большы крымінал, які я ўчыніў у сваім жыцці. За гэта мяне кінулі ў ізалятар. 15 мая мяне даставілі ў турэмны шпіталь па вуліцы Апанскага, дзе мне аказалі першую дапамогу ў сувязі з маёй галадоўкай.

**— У якіх умовах праходзіла твая галадоўка?**

— У вельмі дрэнных. Былі дні, калі не было нават вады, усяго за час галадоўкі мне паставілі толькі тры клізмы. І наогул, зараз я сябе нават псіхалагічна няўтульна адчуваю, бо мая вага зменшылася на чатырнаццаць кілаграмаў. Зараз я важу 58 кілаграмаў. Апошні раз я столькі важыў у восьмым ці дзевятым класе...

**— Ці рабіў ты пісьмовыя заявы, звязаныя са сваёй галадоўкай?**

— У сувязі з тым, што мяне кідалі з адной установы ў другую, я напісаў некалькі такіх заяў. Следчаму пракуратуры я напісаў заяву яшчэ 30 красавіка. Акрамя таго, па меры паступлення ў новыя ўстановы, я пісаў заявы на імя не толькі кіраўнікоў гэтых спецустаноў, але і іх медыцынскіх частак.

**— Ці ведаеш ты вынікі медыцынскай камісіі, якая даследавала цябе 16 мая?**

— Не, не ведаю. Нічога, апроч таго, што мяне аглядалі.

**— Як да цябе адносіліся прадстаўнікі аховы?**

— Адносіны былі вельмі неадназначныя. Частка з іх ставілася да мяне як да апошняга зэка, а частка звярталася на «вы» і паводзіла сябе, наколькі гэта магчыма, па-чалавечы. Гэта вельмі важны момант. Уся гэта сістэма накіравана на тое, каб даказаць табе, што ты не чалавек. На мяне вялікае ўражанне пакінула вялікая колькасць людзей, якіх судзяць неадэкватна іх учынкам. Я не думаў, што такое магчыма, што людзі могуць сесці за тое, што яны ўкралі веласіпед ці мех бульбы. Ды дайце ім штраф за гэта...СІЗО перапоўнены. Ёсць камеры, дзе на адно месца прыпадае па тры чалавекі. Крымінальныя скардзяцца на незаконныя дзеянні падчас дазнанняў. Ды і самі гэтыя каморкі, дзе няма паветра, дзе людзі пазбаўлены, акрамя волі, магчымасці захаваць сваё здароўе. Неаднаразова даводзілася бачыць усе гэтыя інфекцыйныя захворванні: каросту, прышчы ўсякія, туберкулёз і ўсё астатняе.

Калі не будзе рэформы гэтай сістэмы, нас чакаюць вялікія цяжкасці. Так, павінна быць пакаранне, але яно не павінна быць на ўзроўні здзекаў. Мы павінны будаваць еўрапейскую дзяржаву і да таго часу, пакуль у нас не будзе нармальных еўрапейскіх турмаў, немагчыма гаварыць аб нейкіх правах чалавека і прававой рэформе. Калі мне, палітыку, не перадавалі газеты і лісты, то што ўжо казаць пра звычайных людзей, якія трапілі ў гэту сістэму і не маюць магчымасці наняць адваката. Для таго, каб вызваліць мяне адтуль, былі дэманстрацыі, пікеты, выступленні палітыкаў, у тым ліку дэпутатаў, былі запыты міжнародных арганізацый. А што рабіць простаму чалавеку, які трапіў у гэта прававое бязмежжа? Я баюся, што ў маім выпадку нічога выключнага няма, дай Бог, каб я памыляўся ў тым, што ў нас ужо адладжана сістэма паліцэйскай дзяржавы, якая давядзе да таго, што беларусы падзеляцца на дзве катэгорыі: тыя, якія сядзяць, і тыя, якія іх ахоўваюць. Я б гэтага не хацеў. Кажу я аб гэтым таму, што сутыкнуўся з такімі чалавечымі пакутамі, якія зусім неадэкватныя таму, што гэтыя людзі ўчынілі.

**— Як да цябе ставіліся крымінальнікі?**

— Для мяне было вялікай нечаканасцю надзвычай добрае стаўленне з боку гэтых самых крымінальнікаў, яны паважаюць чужыя погляды, там я меў магчымасць быць самім сабой. Да мяне крымінальнікі сапраўды добра ставіліся. Яны мне вызвалілі ніжнія нары. Гэта сапраўды шмат значыць. Яны адчувалі, што я чалавек некрымінальнага свету і што я пакутаваў нявінна, за выступленне супраць улады. Праўда, крымінальнікі зусім не ведалі той артыкул, які мне быў прад'яўлены. Для іх ён быў дзіўным. Мне не было ніводнай заўвагі наконт беларускай мовы, у адрозненне ад міліцыянераў-кантралёраў, якія часта патрабавалі размаўляць «на человеческом языке». Людзі, якія сядзяць, не прымушалі гаварыць на рускай мове і не рабілі ніякіх заўваг на гэты конт.

**— 7 мая табе было прад'яўлена абвінавачанне. У чым яно заключалася?**

— У ім зазначалася, што я, як сакратар управы Беларускага народнага фронту і як член аргкамітэта шэсця «Чарнобыльскі шлях» (хоць аргкамітэт называўся зусім іначай) быў актыўным арганізатарам таго, што людзі з нажамі і іншай атрыбутыкай пачалі перакульваць машыны. Яшчэ гаварылася аб падбухторванні ў друку. І гэта таксама няправільна. Не было ніводнага майго артыкула перад 26 красавіка. Адзін з людзей, які вядзе следства, шчыра мне зазначыў, што для таго, каб мяне пасадзіць, прыйдзецца пераглядаць усе відэаплёнкі. Я не супраць суда. Калі будзе суд, у нас будзе цудоўная магчымасць расказаць праўду пра тое, што адбываецца наогул на Беларусі і тое, што было 26 красавіка. Я вельмі хацеў, каб у мяне быў адкрыты суд і я меў рэальную магчымасць усё гэта сказаць.

А тое, што пасадзілі Хадыку, зусім незразумела. Менавіта ён ішоў на перамовы з міліцыяй, ён зрабіў больш за іншых, каб 26 красавіка не было сур'ёзных эксцэсаў, ён быў сярод тых, хто паварочваў гэтую калону каля цырка. Я разумею, вядома, што склалася такая сітуацыя, калі трэба шукаць крайніх, але шукайце штонебудзь больш праўдападобнае.

**— У гэтых падзеях ці не найбольшае абурэнне ўладаў выклікаюць дзеянні ўкраінцаў з УНА—УНСО. Што ты аб гэтым ведаеш?**

— Я магу гаварыць аб падзеях 26 красавіка толькі да моманту майго затрымання. Акрамя таго, адзін раз я сядзеў у камеры з трыма ўкраінцамі. Я зусім не ўпэўнены, што нашы доблесныя органы ўзялі баевікоў УНСО. Ва ўсялякім разе, там было арыштавана некалькі старонніх украінцаў. Як сакратар управы БНФ магу сказаць, што мы не мелі дачынення да запрашэння прадстаўнікоў УНСО на Беларусь. У той жа час мы вітаем любыя сілы, якія прыходзяць на дапамогу беларусам у абароне іх суверэнітэту. Дарэчы, я вельмі сумняваюся, што тыя сем украінцаў, якія цяпер сядзяць, з'яўляюцца баевікамі. На мой погляд, яны таксама ахвяры палітычных рэпрэсій, цалкам магчыма, што яны зноў-такі адыгрываюць пэўную ідэалагічную ролю. Самі міліцыянеры ацэньвалі колькасць УНСОўцаў, што былі ў Мінску, на ўзроўні 15—20 чалавек — на пяцьдзесят тысяч астатніх дэманстрантаў...

Я хацеў бы падзякаваць усім тым, хто дапамог мне выйсці адтуль. Паверце, там не вельмі добра. Я вельмі ўдзячны ўсім людзям, палітычным дзеячам, журналістам, тым, хто ставіў подпісы ў маю падтрымку.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**P.S.** *Тым часам, як паведамілі ў Мінскай пракуратуры, Юрый Хадыка застаецца ў следчым ізалятары і працягвае галадоўку.*

# ЛЮБА — БРАВА!

**У зале камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі, што ў касцёле святога Роха, адбыўся канцэрт фартэпіяннай музыкі.**

Творы Ф. Шапэна выканала лаўрэат рэспубліканскага і міжнароднага конкурсаў, выпускніца рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, стыпендыятка Фонду падтрымкі беларускай культуры Люба Янпольская. Вучаніца прафесара В. Рахленкі была на вышыні. У праграме канцэрта прагучалі накцюрн до-дыез мінор, сач. 27 №1, чатыры мазуркі, эцюд соль-дыез мінор, сач. 25 №6, балада фа мінор, сач. 52, саната сі мінор, сач. 58 Шапэна. Адзін з гэтых твораў Люба нядаўна выканала на Шапэнаўскім міжнародным конкурсе ў Польшчы. 17-гадовая дзяўчынка выдатна прайшла выпрабаванне Шапэнам! Дарэчы, у чацвёртым класе Люба ўжо прымала ўдзел у конкурсе Дварыёнаса ў Вільнюсе. Пазней яна неаднойчы выступала з камерным аркестрам філармоніі, з Вялікім сімфанічным.

У зале камернай музыкі Люба выступае другі раз. У першы раз яна таксама выступала з сольным канцэртам, у праграме якога была саната Моцарта з фантазіяй до-мінор і саната Бетховена.

Прыгожы пачатак, ён абяцае беларускай піяністцы славу і сусветную вядомасць.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## СЁННЯ

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Іаана, Арсенія**
**К. Яна, Віктара**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На значнай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі дажджы моцныя, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 13—15, Віцебску — 15—17, Мінску, Магілёве — 16—18. Гомелі — 17—19 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць. 22-га — па поўначы, 23-га — па паўднёвай палавіне кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 4—9, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 21 МАЯ

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. 21 мая — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых з захворваннямі на стэнакардыю, гіпертанію, страўнікава-кішачнага тракта, апорна-рухальнага апарата.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прымаць полівітаміны, лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

**Калектыў «Звязды» глыбока смуткуе з выпадку смерці рэдактара аддзела адукацыі і культуры газеты «Мінская праўда» Уладзіміра Антонавіча КОБРЫНА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.**

***ДОБРЫЯ ВЕСТКІ***

# НА ВАЎКАВЫСКІМ ЗАВОДЗЕ МЕТАЛАВЫРАБАЎ ПРАЦУЮЦЬ У ДЗВЕ ЗМЕНЫ, ЧАСАМ ПРЫХОПЛІВАЮЧЫ ВЫХАДНЫЯ

— Гэтаму прадпрыемству раней не заўсёды шанцавала на кіраўнікоў, — паведаміў старшыня Ваўкавыскага гарвыканкома Анатоль Зайцаў сваім калегам з прэзідэнцкай «вертыкалі», якія сабраліся на абласны семінар. — Але з Багатыровым, цяперашнім дырэктарам, упэўнены, пашанцавала.

У пацвярджэнне Анатоль Сямёнавіч прывёў амаль сенсацыйны па сённяшніх мерках факт: на фоне рэзкага скарачэння ці нагогул спынення вытворчасці на дзесятках прадпрыемстваў Ваўкавыскі завод металавырабаў працуе ў дзве змены. Часам нават у выхадныя. Пры гэтым ён зусім не манапаліст на «замочным» рынку. Толькі ў Беларусі налічваецца 19 прадпрыемстваў падобнага профілю, а на ўсёй тэрыторыі былога СССР іх больш за дзвесце. Адсюль надзвычай жорсткая канкурэнцыя практычна ў кожным рэгіёне, прычым ва ўмовах неплацежаздольнасці многіх спажыўцоў. Плюс яшчэ агульныя «хваробы», якія не маглі не закрануць і ваўкавыскіх майстроў «замочных» спраў — абаротных сродкаў не хапае, крэдыты ў банку браць нявыгадна, падатковая сістэма настолькі недасканалая, груваcткая і нестабільная, што прымушае пашыраць штат бухгалтараў, каб не плаціць штрафных санкцый.

Разам з тым — пятнаццаціпрацэнтны «скачок» па тавараабароту, якога дабіліся на заводзе летась. Заўважце: поспех дасягнуты зусім не за кошт падаражання прадукцыі: 876 тысяч замкоў — гэта амаль на 100 тысяч больш, чым у 1994 годзе. Усё запланаванае выканалі і ў першым квартале сёлетняга года. Ніводнага разу рабочых не адпраўлялі дамоў з-за адсутнасці працы. Завод нічога не вінаваты за газ і электраэнергію. Сярэдняя зарплата (1 мільён 57 тысяч рублёў), можа, і не надта вялікая, затое выплачваецца акуратна, без затрымкі. За апошнія два гады ніхто не выкінуты на вуліцу па скарачэнню штатаў.

«Формула» поспеху даволі простая — ваўкавыскія замкі па сваёй якасці лепшыя, чым у шматлікіх канкурэнтаў, рэкламацый практычна няма. Таму можна зноў пазмагацца, напрыклад, за казахстанскі рынак, дзе ўжо, здаецца, «перахварэлі» вельмі таннымі кітайскімі замкамі, якія трэба выкідваць праз два месяцы пасля пакупкі. Да таго ж, ваўкавыская прадукцыя працэнтаў на дзесяць таннейшая, чым у тых жа расійскіх вытворцаў. За кошт чаго? Бо лічаць кожную капейку. У прыватнасці, добра ведаюць рынак сыравіны, наладжваюць кантакты з нетрадыцыйнымі пастаўшчыкамі. Скажам, тона расійскага поліпрапілену, на які раней арыентаваўся завод, цяпер каштуе 19 мільёнаў рублёў. А палякі прапануюць за 8 мільёнаў. Альбо як сёння памяняць устарэлае абсталяванне? Купляць яго — не па кішэні, а вось вырабіць самім, на ўласным эксперыментальным участку — зусім рэальна.

— Наш галоўны прынцып, — гаворыць дырэктар завода Яўген Багатыроў, — паважаць спажыўца, ён заўсёды мае рацыю. У калектыве будзе сапраўдны скандал, калі заяўку кліента своечасова не выканаюць. Пастаянна ўдзельнічаем у выстаўках за мяжой. У кожным рэгіёне імкнёмся займець партнёра, які б садзейнічаў збыту нашай прадукцыі. Немалую прыбаўку атрымліваем і ад уласных гандлёвых кропак — месячны абарот тут складае каля 600 мільёнаў рублёў.

Шмат павучальнага ўбачылі ўдзельнікі семінару і на Ваўкавыскім мясакамбінаце. Загрузка магутнасцей тут вельмі высокая, тэхналогія — безадходная, рэкламацый па якасці прадукцыі няма. З пастаўшчыкамі сыравіны камбінат, па словах яго дырэктара Паўла Севасцьянава, разлічваецца на працягу пяці банкаўскіх дзён, а рэканструкцыя праведзена ўласнымі сіламі і без спынення вытворчасці.

— Калі ў бліжэйшы час не развязаць вузлы праблем у прамысловасці, — адзначыў старшыня Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко, — нітка вытворчасці можа парвацца. Для некаторых прадпрыемстваў гэта можа скончыцца поўным крахам.

Вопыт лепшых прадпрыемстваў якраз і павінен дапамагчы іншым выбраць правільны шлях.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# АПЕРАЦЫЯ «ЛІСІЧКА»

**Не, нам, беларусам, са сваім багаццем нідзе не схавацца. Успомніце мінулае лета, ды і пазамінулае, і паза-паза... Словам, думаю, пярэчыць не будзеце, калі нагадаю, што ў адпаведны сезон на Беларусі здараецца лісічкавы бум. Вязуць у Гродна, пасля перапрадаюць у Польшчу. Ды і нават у нарыхтоўчыя канторы спажывецкай кааперацыі лісічку выгадна было здаваць.**

Што ні кажы, такі грыбны далікатэс у цывілізаваным свеце цэняць. У той жа Польшчы, у той жа Германіі слінку глытаюць, як толькі ўспомняць пра такі наш беларускі рэцэпт, які, кажуць, прыдумалі на Старадарожчыне: адварыць свежыя лісічкі, адцадзіць на друшляк, потым пакласці ў глыбокую патэльню, пасаліць і смажыць на невялікім агні. Калі ўся вада выпарыцца, дадаць свіны тлушч, зялёны кроп, дробна парэзаную цыбулю. Перад заканчэннем смажання патэльню накрыць накрыўкай. Падаваць са свежай маладой бульбай. У смажаныя лісічкі на стале можна дабавіць дробна пакрышаны ці нацёрты сыр («Мінскі» ці любы іншы.) або паліць смятанай. Чым не смаката? Вось таму і патрэбна чужаземцам наша лісічка. Сярод іншых грыбоў адзначыла жоўтагаловую князёўну і спажывецкая кааперацыя нашай краіны.

Калі гаварыць пра леташні ўраджай, то ён аказаўся не дужа высокім. Спачатку планы былі самыя грандыёзныя. Дамовіліся праз пасрэдніцкую фірму, што вараную лісічку будуць прадаваць Германіі па 12 дойчмарак за 1 кг. Выхад са свежых грыбоў складае 47—50 працэнтаў. Насельніцтва ахвотна кінулася працаваць на грыбаварныя пункты. Прымалі ж лісічку па цане ад 20 да 30 тысяч рублёў за 1 кілаграм. Пагадзіцеся, што па леташнім часе гэта даволі нядрэнныя грошы. Усяго было нарыхтавана 15 тон варанай лісічкі. Праўда, калі справа дайшла непасрэдна да продажу, аказалася, што нямецкі бок знайшоў больш танныя грыбочкі. І не на Беларусі, а ў Індыі і Кітаі. Прычым таннейшыя амаль у два разы — па 6-7 марак за 1 кілаграм. Тым не менш, усё ж спажыўсаюзаўцы лісічку прадалі. Безумоўна, згубілі некаторы час. А гэта паўплывала і на абарот сродкаў.

Што ж сёлета? Белкаапсаюз, непасрэдна ўпраўленне нарыхтовак лісічку як адзін са шляхоў заробку валюты з рахункаў не скідваюць. Наадварот — разлічваюць правесці, скажам так, аперацыю «Лісічка» больш эфектыўна. Будуць улічаны і леташнія хібы з цэнаўтварэннем. Лепей, відаць, прадаць болей і хутчэй, няхай сабе і па ніжэйшым кошце, чым марнаваць доўгі час укладзеныя грошы.

— Між іншым, сёлета, — заўважае намеснік начальніка аддзела ўпраўлення нарыхтовак Мікалай Міхайлавіч Карпінскі, — грыбаварных пунктаў будзе працаваць на 80 больш, чым летась. Усяго ж такіх «кропак» у нас 383. Хаця і невялікай арганізацыйнай працы вымагае нарыхтоўка грыбоў, але на сённяшні дзень праблемы ўзнікаюць. Пабольшала ў нас канкурэнтаў. Зараз нават любы асфальтава-цэментны завод можа кінуцца ў грыбны бізнес. Галоўнае, каб тара была і яшчэ, мусіць, патрэбна адно толькі жаданне.

Прагнозы арганізатары спажывецкай кааперацыі выказваюць асцярожныя. Ведаюць, што многае ў іх справе залежыць ад сезоннага надвор'я. І тым не меней, робяць усё магчымае, каб максімальная колькасць лісічкі трапіла якраз у кошык Белкаапсаюза. Спадзяюцца на падтрымку грыбнікоў. А праца ж іх будзе як след аплачана.

**Толькі адна парада аматарам зарабіць на лісічцы — даражэй за ўсё плаціць будуць за той грыб, што ў дыяметры будзе роўны 1—3 сантыметрам. Еўрапейскі, словам, стандарт патрэбен. Такая лісічка і не пакрышыцца, цалюткай застанецца. І на патэльні нямецкім гурманам такі грыб даспадобы прыйдзецца.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## У АБЛАСНЫМ СЕМІНАРЫ ПРЫМУЦЬ УДЗЕЛ ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

**20-21 мая ў Магілёве адбудзецца абласны семінар старшынь гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў, у якім прыме ўдзел група дэпутатаў Вярхоўнага Савета з ліку кіраўнікоў пастаянных парламенцкіх камісій на чале з намеснікам спікера Юрыем Малумавым.**

Прэзідыум Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў, як арганізатар семінара, прапанаваў наступную тэму для абмеркавання: «Мясцовае самакіраванне — неад'емны элемент прававога, дэмакратычнага грамадства, гарант яго стабільнасці і прагрэсу».

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэсцэнтры парламента, на семінары адбудзецца размова аб функцыях, структуры і асноўных напрамках удасканалення органаў мясцовай прадстаўнічай улады ў сучасных умовах; аб праблемах правядзення фінансава-бюджэтнай і банкаўска-крэдытнай палітыкі ў перыяд фарміравання сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі; аб задачах Саветаў дэпутатаў у забеспячэнні законнасці; аб асноўных напрамках рэфарміравання сельскай гаспадаркі; аб месцы і ролі мясцовых Саветаў у палітычнай сістэме Рэспублікі Беларусь.

У гэтыя ж дні Ю. Малумаў плануе сустрэцца з членамі Бабруйскага раённага таварыства інвалідаў «Міласэрнасць».

**БЕЛТА.**

***ЗАХАПЛЕННІ***

# «ЭДЭМ», З ЯКОГА НІХТО НЕ ВЯРТАЕЦЦА, ЗНАХОДЗІЦЦА Ў МІНСКУ

**Ёсць людзі, якіх адразу вылучаеш з-за нейкай іх асаблівай здольнасці ззяць, асвятляць і весці за сабою. Напэўна, гэта можна акрэсліць прыкладна так: прыцягальнасць «пуцяводнасці». Магчыма, неяк па-іншаму. Але Святлану Кашыцкую пры першым знаёмстве я вылучыла ў думках менавіта з-за гэтай прыцягальнасці, яшчэ нават не ведаючы, хто яна. Зрэшты, не толькі я адна.**

*Замест візітоўкі*

*Кашыцкая Святлана Валянцінаўна. Член Тэхнічнага камітэта Асацыяцыі гімнастыкі РБ. Чатырохразовая чэмпіёнка Беларусі па спартыўнай гімнастыцы. Суддзя Гульняў добрай волі 1994 года. Інструктар міжнароднага класа па аэробіцы і вядучая ранішніх размінак на Беларускім тэлебачанні. Гледачам 8 канала вядома таксама як аўтар і вядучая праграмы «Новы Эдэм».*

Але наша размова пачалася пра іншае...

— Святлана, тут нешта не так! Мне паведамілі, што ты працуеш урачом. Гэта што, проста легенды?

— Чаму легенды? Я сапраўды ўрач-стаматолаг па адукацыі. І на самай справе працую ў бальніцы.

— Значыць, спартыўная аэробіка і ўсе дасягненні, што з ёй звязаны, — проста захапленне?!

— Захапленнем гэта было, калі я вучылася ў медінстытуце. Апошнія два гады, што існуе клуб аэробікі «Эдэм», для мяне гэта сапраўдная праца. Прычым я не магу назваць яе «другой працай»!

— Чаму?

— Таму што другая — значыць не асноўная, другасная, тая, якую чалавек выконвае хоць крыху, але горш. Але для мяне яны абедзве — першыя! Медыцына — гэта маё, але калі б у маім жыцці не было аэробікі... Напэўна, я б памерла! Я не магу быць машынай, калі на кожнага хворага адведзена 15 хвілін часу, калі атрымліваеш прыніжальную зарплату. Але я зразумела, што кінуць медыцыну не змагу. Гэта мацней за мяне.



Дарэчы, і ў спорце я адчуваю актуальнасць прынцыпу адмыслова ўрачэбнага: «Не нашкодзь».

І з чаго пачалася гэтая «дваістасць прафесіі»?

— З заняткаў аэробікай у інстытуце. Пяць гадоў я ўваходзіла ў зборную Беларусі. Занялі трэцяе месца на чэмпіянаце Саюза. Я паглядзела, як выступаюць спартсмены з праграмамі-«адзіночкамі», і ўзнікла жаданне зрабіць такую праграму самой.

*Вярнуўшыся ў Мінск, Святлана стала прыходзіць на трэніроўкі на дзве гадзіны раней. Спартыўная зала яшчэ была зачынена. Яна ўключала магнітафон у пустым калідоры інстытута — і пачынала прыдумляць рухі, элементы свайго будучага выступлення.*

*Аднойчы трэнер па аэробіцы чамусьці прыйшла ў інстытут нязвыкла рана. «Што ты тут робіш адна?» Света расказала. «Ну што ж, «адзіночка» дык «адзіночка»! Паказвай!» — адышла ад здзіўлення трэнер.*

*Гэта здарылася ў 1989-м, пасля якога Святлана чатыры гады была чэмпіёнкай Беларусі.*

— Не надакучыла? — спытала я. На маё меркаванне, гэта нагадвае добры монаспектакль, які адзін выконваеш кожны тэатральны сезон. Хочацца змяніць рэпліку, потым другую... І нешта іншае адбываецца, новае зусім, хоць і з ранейшай сутнасцю! Дарэчы, тыя, хто займаецца спартыўнай аэробікай, сапраўды крыху артысты, а не толькі спартсмены. Такі файны сінтэз атрымліваецца, але не ў кожнага. Здольнасці, аказваецца, тут таксама патрэбны для поспеху. Але слухаем нашу гераіню далей.

— Ідэю аб праграме-»двойцы» мне падаў знаёмы, чэмпіён Еўропы. Параіў паспрабаваць. Я пачала шукаць партнёра для новай праграмы. Лёгка сказаць!.. Я хацела, каб выступленне было для хлопца і дзяўчыны. Так захапілася, што аднойчы бачу проста на вуліцы: стаіць хлопец спартыўнага выгляду, «не перакачаны», што таксама важна. Падыходжу і гавару: «Вы не маглі б быць маім партнёрам?» Ён зірнуў на мяне, як на вар'ятку, — і наўцёкі!..

*Партнёра для чэмпіёнкі знайшлі, у рэшце рэшт, у інстытуце фізкультуры. Ведаючы вынікі першых тлумачэнняў, Света нават засаромелася і сказала толькі: «Заўтра будзь!» А назаўтра пачалася сапраўдная «дрэсіроўка». Потым — зноў першыя месцы, узнагароды...*

*У 1992 годзе прыйшло запрашэнне на чэмпіянат свету. Але радавацца было яшчэ рана. Грошай на паездку ў Францыю ні ў кога не было, нават у спорткамітэта. Спонсараў не было таксама.*

Пашкадавала Света, вядома, аб упушчанай магчымасці: сябе паказаць, на людзей паглядзець. (Хаця чаму толькі сябе. Яна была ўжо «тварам» Беларусі ў спорце!) І — прыйшла ў «Эдэм». У свой. Менавіта яна яго і стварыла — для сябе і іншых.

І калі пачыналася ўсё з невялічкай залы і магнітафона-касетніка, то цяпер клуб «Эдэм» мае пяць філіялаў па ўсёй сталіцы. Святлана ганарыцца тым, што ў клубе працуюць выключна прафесіяналы: чацвёра яго трэнераў па адукацыі ўрачы, двое скончылі Акадэмію фізвыхавання.

— Прафесіянальны падыход — гэта вельмі важна! — лічыць яна. — Трэба ведаць, якую нагрузку даць кожнай групе мышцаў. А то праз некалькі гадоў, напрыклад, забаліць спіна, а ты і ведаць не будзеш, што ад нейкага няправільнага практыкавання! Дарэчы, усе інструктары павінны абавязкова прайсці праграму з пяці семінараў, якая распрацавана міжнароднай арганізацыяй «Sport aerobic sistem».

Пакуль канчаткова не вырашана пытанне аб наданні аэробіцы статусу алімпійскага віду спорту. Святлана Кашыцкая і яе выхаванцы (я, шчыра кажучы, так і не зразумела, яны больш захоплены спортам ці самой Святланай) яшчэ змогуць, напэўна, паўдзельнічаць у Алімпіядзе. Пакуль жа займаюцца сваёй справай — карыснай і для здароўя, і для душы. Многія з тых, хто некалі ўпершыню прыйшоў у «Эдэм», цяпер сябруюць сем'ямі. Усё астатняе можна ўбачыць на свае вочы: раз у месяц Святлана праводзіць паказальны ўрок для ўсіх жадаючых. Плануе правесці яго 11 мая (у 13$^{00}$ па вуліцы Караля, 7. Каму цікава — тэл. 56-22-35). А неўзабаве (25—26-га) сумесна са спорткамітэтам РБ клуб «Эдэм» ладзіць сертыфікацыйны семінар, які пакладзе пачатак школе інструктараў па аэробіцы. Для тых, хто пажадае крыху ці зусім змяніць прафесію, дадам: вучыцца ў гэтай школе будзе не вельмі лёгка, асабліва калі вы не займаліся спортам і не любіце танцаваць. Экзаменатарамі будуць члены рэспубліканскага спорткамітэта і Святлана Кашыцкая. Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, многія з «Эдэма» не вяртаюцца назад, у ранейшы менталітэт і стыль жыцця. Напэўна, гэта цікавей за тэлесерыял?

**Таццяна СНІТКО.**

**На здымку**: трэнеры міжнароднага класа Людміла БЕЛАЯ, Святлана КАШЫЦКАЯ і Аксана БАРАНОЎСКАЯ.

# ЧЫГУНКА ВЯЛА Ў БАЛГАРЫЮ...

**ПЕРШАЕ і самае моцнае ўражанне: нібыта адбывалася сустрэча з некалі зведанай, даўняй любоўю, якая з цягам часу сцішэла і толькі раз-пораз шчымліва давала аб сабе знаць. І пра якую было напісана:**

*Балгарыя! Мацнее сэрца ўдар.*
*Гляджу я ў тваe вочы карыя,*
*гляджу я на засмужаны твой твар...*
*Любоўю сэрца поўніцца, Балгарыя!*

Далей ішлі радкі: Друг і другар...

*Калі ёсць друг, які*
*вялікаю адлегласцю аддзелены, —*
*вялікаю надзеяй абнадзеяны*
*ты на ўсе годы і на ўсе вякі.*

Як і ў кожным мастацкім абагульненні, тут, магчыма, не абышлося без перабольшання. Але толькі не адносна адлегласці. Апошняя, якую складаюць недзе каля дзвюх тысяч вёрст, з'яўляецца якраз рэальнасцю. У чым я і мае спадарожнікі маглі добра пераканацца, тым больш, што адольвалі гэтыя вёрсты не па авіятрасе, а па чыгунцы, цягніком, ды яшчэ ў прычапным вагоне (з шыльдай «Мінск—Сафія»)...

Ну ды ўсё па парадку.

Светлая ідэя наконт таго, каб узнавіць пачатыя некалі так паспяхова і даўшыя багаты плён беларуска-балгарскія культурныя сувязі («културни врьзки) і правесці ў Балгарыі тыдзень беларускай літаратуры, набыла ў сярэдзіне мінулага месяца рэальныя абрысы. Да ажыццяўлення яе падключыліся непасрэдна наша пасольства ў Балгарыі і балгарскае ў Беларусі, а таксама наша і балгарскае таварыствы дружбы.

На адрас кіраўніцтва БелТД і старшыні Таварыства «Беларусь—Балгарыя» Генадзя Цыхуна прыйшло запрашэнне наступнага зместу: «Маю гонар ад імя Федэрацыі дружбы запрасіць дэлегацыю ў саставе... (далей ішлі імёны. — **А. В.**) наведаць Балгарыю з 22 па 28 красавіка для правядзення тыдня беларускай літаратуры. Падчас знаходжання дэлегацыі будуць арганізаваны сустрэчы з кіраўніцтвам Федэрацыі дружбы і Саюза балгарскіх пісьменнікаў, з балгарскімі літаратарамі. Плануюцца сустрэчы з чытачамі. Будуць абмеркаваны пытанні далейшага супрацоўніцтва паміж Федэрацыяй дружбы і Таварыствам «Беларусь—Балгарыя». Застаюся ў чаканні нашых сустрэч і сумеснай плённай працы на балгарскай зямлі. З павагай старшыня Федэрацыі, прафесар Захар Захарыеў».

На такое запрашэнне, па-сяброўску гасціннае і ў той жа час дзелавое, нельга было не адгукнуцца адэкватна.

А напярэдадні ад'езду мы яшчэ былі запрошаны ў балгарскую амбасаду, дзе Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол у РБ Марка Ганчаў (вядомы, дарэчы, у сваёй краіне паэт) і саветнік пасольства Станой Караджаў пажадалі нам добрай дарогі.

Ад'язджалі нядзельнай раніцай, 20 красавіка. Прамым, як ужо гаварылася, беларуска-балгарскім вагонам, які за час падарожжа чаплялі да трох розных цягнікоў. Дэлегацыю складалі: намеснік старшыні прэзідыума БелТД Ніна Іванова (ёй перш за ўсё прыйшлося займацца рознымі арганізацыйнымі пытаннямі), супрацоўніца Інстытута мовазнаўства, перакладчыца з балгарскай Марына Абрагімовіч, старшыня Рады нашага пісьменніцкага Саюза Васіль Зуёнак, Алесь Разанаў і аўтар гэтых радкоў... Выехалі светлай вясновай раніцай і такой жа сонечнай раніцай, роўна праз двое сутак, выходзілі з нашага «суверэннага» вагона на перон сафійскага вакзала. Нас добра праводзілі ў шлях і гэтак жа прыветна сустракалі на канцавой станцыі. Сустракалі наш пасол у Балгарыі Аляксандр Герасіменка і саветнік пасольства Валерый Брылёў, першы балгарскі пасол у нашай краіне Стоіл Фердаў, прадстаўніца Федэрацыі дружбы Барана Іліева, паэт і перакладчык, старшыня Таварыства «Балгарыя—Беларусь» Найдан Вылчаў, пісьменнікі, перакладчыкі з беларускай Стэфан Паптонеў і Сімяон Уладзіміраў. Словам, прагучала і «з прыездам!» і «добре дошли!»

Праграма тыдня аказалася гранічна насычанай. Пачынаючы з дня прыезду. Першая сустрэча адбылася ў Доме Федэрацыі дружбы. Тут нас цёпла вітаў і вёў за сталом рэй намеснік старшыні Федэрацыі (старшыня знаходзіўся ў камандзіроўцы), настаяцель знакамітага храма Аляксандра Неўскага Грозю Грозеў. Ён наведваў у свой час Беларусь, быў госцем нашага Дома дружбы і ахвотна ўспамінаў свае беларускія ўражанні. Затым тут жа, у Доме Федэрацыі, адбылася прэс-канферэнцыя, на якую сабралася шмат журналістаў — супрацоўнікаў як літаратурных, так і грамадскіх выданняў. Задаваліся самыя розныя пытанні, якія сведчылі пра цікавасць да культурнага і палітычнага жыцця новай, суверэннай Рэспублікі Беларусь. У гасцінных сценах Дома Федэрацыі прайшла і першая размова з балгарскімі пісьменнікамі. Зала зноў-такі была запоўнена, што, як казалі нам гаспадары, не так часта бывае ў апошні час. На сустрэчу прыйшлі як даўнія сябры Беларусі і беларускай літаратуры, яе перакладчыкі, так і незнаёмыя нам асабіста да гэтага паэты і празаікі. Цікавіліся нашымі справамі, пыталіся пра творчасць Васіля Быкава і Ніла Гілевіча. Адбыўся цікавы абмен думкамі. А паэт Бажыдар Бажылаў нават прачытаў свой новы, напісаны спецыяльна да сустрэчы верш пад назваю «Беларусь». «Я цябе ведаю амаль на памяць, наша родная сястра, наша журба Беларусь, — цытую верш у падрадкоўным перакладзе. — Нас з табой то старэйшы брат, то яшчэ нехта некуды вёў, а цяпер мы самі ідзём і ідзём, поплеч, як роўныя... І цяпер я шчаслівы, што мы разам перад верным сябрам і няверным ворагам...»

Сустрэча завяршылася хвалюючым момантам — прэзентацыяй толькі што выдадзенай кнігі Алеся Разанава «Страшны суд». Версэты нашага самабытнага аўтара пераклаў на балгарскую мову Здраўка Кісьёў, а выдаў у сваім прыватным выдавецтве «Сярэбраны леў» Георгі Макоўскі, якія жывуць у Русэ (першы вялікі горад, які мы праязджалі па дарозе ў Сафію). Абодва прыехалі для ўдзелу ў прэзентацыі і гаварылі ў сваіх выступленнях пра паэзію А. Разанава, пра тое, як нараджалася ў Русэ яго кніга. Мы былі сведкамі плённага творчага супрацоўніцтва двух паэтаў, беларускага і балгарскага, духоўнага ўзаемадзеяння дзвюх славянскіх літаратур.

Наступны дзень быў таксама багаты на падзеі. Нас прымалі ў Саюзе балгарскіх пісьменнікаў, і была падпісана дамова аб узаемасупрацоўніцтве пісьменніцкіх арганізацый дзвюх краін. (Дарэчы, пра традыцыйную абумоўленасць і жыццёвую неабходнасць такога супрацоўніцтва пісалася ў свежым нумары газеты «Българки писател», дзе былі змешчаны, з нагоды тыдня нашай літаратуры, новыя пераклады з сучаснай беларускай паэзіі і артыкул Стэфана Паптонева пра творчасць Васіля Быкава). Потым мы мелі гутарку з паэтамі і празаікамі, якія супрацоўнічаюць у рэдакцыі тыднёвіка «Литературен форум». Закраналіся шматлікія актуальныя пытанні літаратурнага і грамадскага жыцця нашых краін.

У той жа дзень наша дэлегацыя прысутнічала на прэс-канферэнцыі і пасяджэнні «круглага стала», прысвечаных тэме «Ад чарнобыльскай аварыі да чарнобыльскага сіндрому». У абмеркаванні прынялі ўдзел паслы Беларусі, Расіі і Украіны. З вялікай увагай было выслухана выступленне Васіля Зуёнка, у прыватнасці, яго прачулыя, кранальныя радкі пра дзяўчынку з «зоны»:

*Расці, прыжывайся, елачка,*
*Дзяўчынку пераганяй.*
*Не забывайся, Леначка,*
*Пра гэты атамны край.*
*Над Бяседдзю ў Саматэвічах*
*Табе не хадзіць павек...*
*Навошта ж тут садзіць елачку*
*Стары дзівак — чалавек?*
*А недзе блукае цэзій*
*З нумарам сто трыццаць сем.*
*І што яму да паэзіі —*
*Ён музу выгнання нясе...*

Так падчас нашага гасцявання святочная ўзрушанасць пераклікалася з балючым напамінкам, паэзія — з жыццёвай прозай, літаратура — з палітыкай. Пераклікаліся нашы мовы, нашы сугучныя клопаты, трывогі і спадзяванні.

Павінен заўважыць, што праграма тыдня не абмяжоўвалася сустрэчамі з калегамі па пяру і актывістамі Федэрацыі дружбы. Мы наведалі адну з нацыянальных святынь Балгарыі — Рыльскі манастыр. Пабывалі ў невялікім старажытным гарадку Самакове, славутым сваімі колішнімі майстрамі — жалезаапрацоўшчыкамі, і гутарылі з яго мэрам. Мелі сустрэчу з двума балгарскімі прадпрымальнікамі, якія дзяліліся сваімі планамі адносна сувязей з беларускім дзелавым светам. Н. Іванова нават паспела перагаварыць з дырэктарам адной з сярэдніх школ Сафіі на прадмет таго, каб парadніць яе з мінскай школай нумар 198, дзе дзеці вывучаюць балгарскую мову. Яшчэ з'ездзілі ў Плоўдзіў, дзе сустрэліся з выкладчыкамі і студэнтамі універсітэта і наведалі мясцовы паліграфкамбінат.

Да слова сказаць, у Плоўдзіве сутыкнуліся з двума фактамі, якія ў пэўным сэнсе характарызуюць як эканамічную сітуацыю, так і палітычную атмасферу ў краіне. У адказ на адно з нашых пытанняў дырэктар паліграфкамбіната Пётр Кірылаў-Пятроў сумна паведаміў нам, што ўсяго некалькі гадзін назад пачуў па радыё: гарадскія ўлады вырашылі «пусціць з малатка» яго даволі рэнтабельнае прадпрыемства. А каардынатар мясцовага аддзялення Федэрацыі дружбы Іванка Янкава расказала пра рашэнне мэра Плоўдзіва дэманціраваць помнік, які вядомы пад назвай «Алёша» і ўяўляе сабой семнаццаціметровую гранітную фігуру савецкага воіна, што ўзвышаецца на адным з самых высокіх узгоркаў старажытнага горада.

У нас не было магчымасці больш падрабязна даведацца, што адбываецца вакол лёсу «Алёшы», якімі матывамі кіраваліся тут мэр і абшчынная рада горада Плоўдзіва. Але можна было здагадвацца, што каменны «Алёша» мусіць адыгрываць ролю індыкатара. Індыкатара пэўных працэсаў і настрояў, што маюць сёння месца ў балгарскім грамадстве, у прыватнасці рэакцыі на неаімперскія замашкі Расіі. Пацвярджэнне гэтай версіі я знайшоў у красавіцкіх нумарах газеты «Литературен форум», якія нам далі падчас гутаркі ў рэдакцыі выдання. На пачатку красавіка рэдакцыя правяла «круглы стол» на тэму «Балгарыя і Расія — роўнасць ці дыктат», надрукавала падрабязную справаздачу аб дыскусіі і змясціла адкрыты зварот яе ўдзельнікаў — літаратараў і навукоўцаў. «Прэзідэнт Расіі і яго ваенны міністр абвясцілі свой намер аднавіць савецкую імперыю, уключыўшы ў яе і Балгарыю, — гаворыцца ў «Звароце». — Гэта — правакацыя не толькі ў дачыненні да нас, балгараў, але і ў дачыненні да ўсёй новай Еўропы. Хто ў нас даў падставу рускім зноў працягваць сваю імперскую руку?.. У гэты драматычны для нацыі момант заява прэзідэнта незалежнай Балгарыі і палітычныя дзеянні дэмакратычнай грамадскасці павінны атрымаць усенародную падтрымку. Пішыце лісты пратэсту Старшыні Савета Міністраў Відэнаву! Няхай той адкажа, ці схлусіў генерал Грачоў, заяўляючы ў Бруселі, што ён знайшоў паразуменне з балгарамі адносна размяшчэння ў нас ваенных баз. Ці прэзідэнт Ельцын толькі правакуе сваімі дзіўнымі паводзінамі нашу і еўрапейскую грамадскасць? Суайчыннікі, будзем мы на сусветнай карце або знікнем як дзяржава і народ — выбар залежыць ад усіх нас!»

Так што, як бачым, героя папулярнай песні Алёшу, якому дзяўчаты «дарят цветы», «падстаўляюць» палітыкі...

... На развітальнай вячэры, дзе старшынстваваў ужо вядомы нам прафесар Захары Захарыеў, былі падведзены, калі можна так сказаць, папярэднія вынікі тыдня нашай літаратуры ў Балгарыі. Пагадзіліся ўсе на тым, што добрая задума ўдалася і спадзяванні апраўдаліся, што нашы колішнія актыўныя літаратурныя ўзаемастасункі атрымалі новы працяг. Развіталіся мы з добрым, удзячным пачуццём. А потым, на зваротным шляху, пад стук вагонных колаў успаміналіся самі сабой напісаныя колькі гадоў таму радкі:

*Зямля і земя...*
*Корань тут адзін.*
*Карэнні ўсё тыя ж, тыя ж сокі.*
*Хоць сцелецца ў нас гладзь раўнін,*
*а ў іх узносіцца хрыбет высокі.*
*Шыпшына й шыпка...*
*Усё той жа цвет,*
*калючая, з шыпамі, тая ж ружа,*
*што на дарогах пацвярджала дружна*
*агульнасць нашых радасцей і бед.*

Сафія—Мінск.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ*

# ВЯЛІКАЯ ЦІКАВАСЦЬ ФІРМАЎ РАЗВІТЫХ КРАІН У ЧАС ДЭМАНСТРАЦЫІ НАШЫХ НАВУКОВЫХ І ТЭХНІЧНЫХ РАСПРАЦОВАК У ГАНОВЕРЫ

**ПРАЦЯГАМ падвядзення вынікаў удзелу нашай краіны ў Гановерскім прамысловым кірмашы-96 у Германіі стала сустрэча з журналістамі ў Політэхнічнай акадэміі кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і навукі.**

На сёлетнім кірмашы ўпершыню быў прадстаўлены спецыяльны стэнд гэтага ведамства. Са сваімі здабыткамі знаёмілі шматлікіх наведвальнікаў 23 экспаненты (прашу не блытаць з экспанатамі), сярод якіх 10 арганізацый навукі ВНУ, 8 — інстытутаў Акадэміі навукі, 5 прадстаўнікоў акцыянерных таварыстваў, сумесных і малых прадпрыемстваў. Усе яны разам прадставілі каля 100 сучасных распрацовак у розных галінах навукі і тэхнікі.

За 6 дзён кірмашу на міністэрскім стэндзе пабывалі прадстаўнікі больш як 500 фірмаў з розных высокаразвітых у тэхналагічным аспекце краін: Англіі, Японіі, ЗША, Швейцарыі, Польшчы, Даніі, Галандыі і іншых. У ходзе перагавораў было падпісана 159 пратаколаў аб намерах, 16 дагавораў аб правядзенні сумесных работ, пастаўцы вопытных партый прадукцыі больш чым на 2 мільёны нямецкіх марак. Таксама дамовіліся аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў. Заключаны 6 кантрактаў на агульную суму ў 561 тысячу нямецкіх марак і 310 тысяч доляраў.

Гэты стэнд, па словах Васіля Стаўрова, намесніка міністра адукацыі і навукі, першы падобны сур'ёзны выхад беларускіх вучоных і распрацоўшчыкаў на міжнародную арэну. Паводле яго папярэдніх прагнозаў, на беларускім стэндзе чакалі пераважна наведвальнікаў з маладых краін.

Але, на здзіўленне, большую цікавасць да нас праявілі якраз развітыя краіны Еўропы і іншых кантынентаў. Асаблівай увагай карысталіся экспанаты, у якіх узровень практычнага асваення і камерцыйнай рэалізацыі быў найбольш высокі. Напрыклад, прадукцыя ЗАТ «Белтэхналогія і М», політэхнічнай акадэміі, навукова-прамысловага аб'яднання парашковай металургіі і інш.

Прыемнай для беларусаў была і вялікая ўвага дзелавых людзей да распрацовак акадэмічных устаноў, у прыватнасці інстытута фізікі.

Але больш за ўсё В. Стаўрова ўразіла велізарная цікавасць прадстаўнікоў менавіта нямецкіх фірмаў. Ён даволі добра і даўно ведае Германію, шмат разоў наведваў яе — і раптам такі нечаканы прыток да стэнда нямецкіх спецыялістаў, гатовых да канкрэтнага супрацоўніцтва.

Міхаіл Дзямчук, рэктар політэхнічнай акадэміі, паспрабаваў больш шырока ацаніць вынікі ўдзелу ў Гановерскім кірмашы. Дні эканомікі Беларусі, на яго думку, далі нам магчымасць упершыню так значна і аб'ёмна паказаць сябе эліце дзелавога свету.

Каб нейкім чынам выправіць гэта становішча, зрабіць лепшым абмен інфармацыяй, у політэхнічнай акадэміі вырашылі наладзіць пастаянна дзеючую экспазіцыю перспектыўных сучасных распрацовак, аформіць яе па еўрапейскіх стандартах. Гэта дазволіць аўтарам цікавых навінак загадзя падрыхтавацца да ўдзелу ў буйных сусветных выстаўках, дзе ёсць магчымасць знайсці партнёраў, пакупнікоў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ*

## НА ІГНАЛІНЕ ЗНОЎ НЕ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ

З-за няспраўнасці на паўсутак была зніжана магутнасць другога энергаблока Ігналінскай атамнай электрастанцыі: увесь гэты час рэактар працаваў у рэжыме 60-працэнтнай магутнасці. Дырэктар ІАЭС Віктар Шэвалдзін заявіў, што паломка адбылася ў адной з васьмі секцый уласных патрэбнасцей станцыі. Пасля яе ўстаранення магутнасць рэактара поўнасцю адноўлена. Радыяцыйны фон, паводле паведамлення кіраўніка ІАЭС, зусім не змяніўся.

**ЭЛЬТА—БЕЛТА.**

## ПРЫРОСТ ВЫТВОРЧАСЦІ НА УКРАІНЕ МАГЧЫМЫ Ў 1997 ГОДЗЕ, У РАСІІ — УЖО Ў ГЭТЫМ

Прырост вытворчасці на Украіне будзе магчымым у 1997 годзе, у Расіі — у бягучым. Аб гэтым гаворыцца ў дакладзе Сусветнага банка «Глабальныя эканамічныя перспектывы і краіны, якія развіваюцца».

Дакумент прагназіруе стварэнне на працягу бліжэйшых гадоў спрыяльнага эканамічнага асяроддзя для пераходных эканомік, адкрытых для міжнароднага гандлю і замежных інвестыцый.

**УНІАН — БелаПАН.**

## БАРАВОЙ ПРА ЧАЧНЮ І ЎЛАДУ

На думку лідэра Партыі эканамічнай свабоды, дэпутата Дзярждумы Канстанціна Баравога, «правакацыйная па сваёй сутнасці ідэя наведвання Прэзідэнтам Расіі тэрыторыі Чачні замест рэальных крокаў па мірнаму ўрэгуляванню канфлікту пахавае ўсякую магчымасць для перагавораў пасля першага стрэлу ў час візіту». Баравой лічыць, што гэта ідэя накіравана супраць урэгулявання чачэнскага канфлікту і супраць Прэзідэнта Ельцына. За правакацыямі, паводле слоў Баравога, «стаяць спецслужбы і адзін чалавек, які іх каардынуе». Падзеі апошніх дзён: смерць Дудаева, выкрыццё вялікабрытанскіх дыпламатаў, заява кіраўніка аховы Прэзідэнта аб небяспечных выніках выбараў і неабходнасці іх адмены — Баравой расцаніў як спланаваную спецслужбамі Расіі акцыю супраць Прэзідэнта Ельцына.

## ЭСТОНСКІ ПАРЛАМЕНТ — ЗА ЯДЗЕРНУЮ ЗБРОЮ

Члены эстонскага парламента не супраць таго, каб НАТО размясціла на тэрыторыі гэтай прыбалтыйскай дзяржавы ядзернае ўзбраенне. Аб гэтым заявілі інфармацыйнаму агенцтву **«Аргументы и факты-Новости»** вядучыя эстонскія палітыкі.

## ГАРБАЧОЎ ЧАСТАВАЎ ГАСЦЕЙ КАНЬЯКОМ

Праз 11 гадоў пасля свайго Указа аб барацьбе з п'янствам экс-прэзідэнт СССР, які балаціруецца на пасаду прэзідэнта Расіі, Міхаіл Гарбачоў, запрасіўшы на сустрэчу дзеячаў культуры, першым падняў чарку з каньяком за свой поспех на выбарах. На рэпліку карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва «Аргументы и факты-Новости», чаму Гарбачоў здрадзіў сваім антыалкагольным прынцыпам, Міхаіл Сяргеевіч адказаў: «Таму што жывём мы дрэнна, і каб забыць аб гэтым, прыходзіцца піць, але галоўнае — не захапляцца, ведаць норму. Інакш стане яшчэ горш».

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Сталыя мужчыны, якія храпуць у сне, часцей набіраюць залішнюю вагу, чым тыя, хто пазбаўлены гэтага недахопу. Да такой высновы прыйшлі амерыканскія медыкі, якія даследавалі групу з 508 ветэранаў, самаму старэйшаму з якіх было 90 гадоў. Да гэтага часу, як вядома, бытавала іншая думка, згодна з якой менавіта лішняя вага лічылася прычынай (або адной з прычын) храпу, пакольку меркавалі, што тлушчавыя адкладанні прыводзяць да парушэння дыхальнай сістэмы. Так што, хто храпе, той і тлусцее, і ніяк не наадварот.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Добры сюрпрыз паднесла свайму гаспадару ў японскай прэфектуры Сайтана яго зусім звычайная кошка. Яна пасля працяглай адсутнасці з'явілася і палажыла да ног гаспадара пакет. Не вельмі зразумела, як яна магла справіцца з такім грузам і прыцягнуць яго дадому. А ў пакеце аказаліся 15 грашовых асігнацый па 10 тысяч іен (каля 100 доляраў) кожная, г. зн. прыкладна паўтары тысячы доляраў. Як кажуць, сціплы, але прыемны падарунак клапатлівай гаспадыні.*

**ІТАР-ТАСС.**

Адзін юань. Менавіта ў столькі ацэнены хвост пацука ў горадзе Шэньян, сталіцы паўночна-ўсходняй кітайскай правінцыі Ляапін, калі такі хвост прынесці да варот гарадской управы. З сакавіка ў горадзе забілі ўжо 400 тысяч пацукоў. Адзін работнік гарадскога элеватара прадставіў рэчавыя доказы на шэсць тысяч зведзеных грызуноў. І ўсё ж такі шэньянцы зайздросцяць жыхарам Шэньчжэні, дзе за хвост пацука даюць у пяць разоў болей.

**«Труд».**

# 36,6°
# ДЫЯБЕТ

**Вось якія сродкі для лячэння гэтай небяспечнай і распаўсюджанай хваробы прапануе «Зборнік па народнай медыцыне і нетрадыцыйных метадах лячэння», выдадзены пад рэдакцыяй Геворка Мінеджана.**

***Крапіва двухдомная***. 50 грамаў лісця крапівы заліваюць 500 мл гатаванай вады, пры гэтым лепш выкарыстоўваць эмаліраваны посуд. Праз дзве гадзіны настой працадзіць і піць па адной чайнай лыжцы 3 разы на дзень да яды. Лепш заварваць свежае лісце. З маладой крапівы, акрамя ўсяго, можна прыгатаваць карысныя для здароўя вітамінныя салаты.

***Стручкі фасолі.*** Збіраюць у жніўні і выкарыстоўваюць у выглядзе адвару. 15—20 г стручкоў вараць на працягу 3-4 гадзін у 1 літры вады да паловы аб'ёму. Атрыманы адвар працадзіць і прымаць па паўшклянкі за 30 хвілін да яды 3-4 разы на дзень на працягу трох месяцаў.

***Корань дзьмухаўцу.*** Чайную лыжку дробна нарэзанага кораня заварваюць як чай у шклянцы гатаванай вады, настойваюць 20 хвілін, ахалоджваюць і працэджваюць. Неабходна прымаць па чвэрць шклянкі 3-4 разы на дзень.

***Кара асіны*** прымяняецца пры пачатковай стадыі дыябету. Сталовую лыжку сухой здробленай кары асіны гатаваць 30 хвілін на малым агні ў дзвюх шклянках вады. Ухутаўшы, даць настоіцца на працягу дзвюх гадзін, працадзіць. Прымаць па чвэрць шклянкі 3 разы на дзень да яды. Даволі эфектыўны сродак.

***Лісце чарніц.*** Сталовую лыжку сухога лісця на шклянку кіпеню. Настоіць, ухутаўшы, на працягу 30—40 хвілін, працадзіць. Прымаць па шклянцы настою тры разы на дзень у ахалоджаным выглядзе невялікімі глыткамі. Таксама эфектыўна пры пачатковай стадыі дыябету: неамертылін, які знаходзіцца ў лісці, значна паніжае ўтрыманне цукру ў крыві.

Свежы ***сок чырвоных буракоў*** п'юць пры дыябеце па 1/4 шклянкі 4 разы на дзень.

***Лопух*** (корань) — адна частка, ***фасоля стручковая*** (сухія створкі) — адна частка, ***чарніцы*** (лісце) — адна частка. 60 грамаў гэтага збору настоіць у літры халоднай вады 12 гадзін. Затым гатаваць 5 хвілін, даць настоіцца на працягу адной гадзіны, працадзіць. Прымаць па 3/4 шклянкі 5 разоў на дзень праз гадзіну пасля пасля яды.

Пры дыябеце вельмі добрае ўздзеянне маюць свежыя ***ягады брусніц***.

У народнай медыцыне прымяняюць таксама адвар маладых парасткаў і лісця балотных ***дурніц*** (голубики). Сталовую лыжку травы заварыць шклянкай кіпеню, гатаваць на слабым агні 10 хвілін, ахаладзіць. Прымаць па сталовай лыжцы тры разы на дзень.

***Чарніцы*** (лісце) — адна частка, ***фасоля стручковая*** (сухія створкі) — адна частка, ***лён*** (насенне) — адна частка, ***аўсяная салома*** — адна частка. Тры сталовыя лыжкі гэтага збору на тры шклянкі вады. Гатаваць 10 хвілін. Ухутаўшы, даць адстаяцца 30—40 хвілін. Прымаць па чвэрці шклянкі 6 разоў на дзень.

Пры дыябеце 2-3 здробленыя ***цыбуліны*** заліць цёплай вадой, вытрымаць 7-8 гадзін, працадзіць і піць настой па невялікім кубачку 3 разы на дзень перад ядой.

30 г ***палявога хвашчу*** заліць адной шклянкай гарачай вады, гатаваць 5—7 хвілін, настояць 3 гадзіны Прымаць па 2—3 сталовыя лыжкі 4 разы на дзень перад ядой.

Палявы хвошч можна выкарыстоўваць у свежым выглядзе (салаты, начынка для пірагоў), а таксама ў выглядзе настою. Вось як гатуецца, напрыклад, салата: 2 шклянкі дробна парэзанага лісця хвашчу змяшаць з 50 г зялёнай цыбулі, 20 г шчаўя, можна дабавіць 40 г лісця дзьмухаўцу (одуванчика). Заправіць алеем ці смятанай, саліць па смаку.

10 здробленых пладоў ***шыпшыны*** заліць шклянкай кіпеню, гатаваць яшчэ на працягу 5 хвілін, настояць на працягу 4—5 гадзін. Прымаць па паўшклянкі 3—4 разы на дзень.

***Лісце сардэчніку*** (пустырника) — 1 г, ***лісце суніц*** — 15 г, ***лісце шаўкоўніцы*** (шелковицы) — 20 г. Сталовую лыжку збору заліць шклянкай гарачай вады, гатаваць 3—5 хвілін, настояць 1 гадзіну, працадзіць. Прымаць па дзве сталовыя лыжкі 3 разы на дзень пасля яды.

**Спадзяёмся, гэтыя простыя народныя сродкі вам дапамогуць. Аднак памятайце пры гэтым, што кожная расліна мае не толькі добрыя паказанні пры лячэнні, але могуць быць і процілаказанні. Чалавек — складаная біялагічная сістэма. Кожны індывідуум мае свае, уласцівыя толькі яму, якасці і цячэнне хваробы, і кожнаму чалавеку неабходны асобны падыход да лячэння яго хваробы. Таму тое, што добра аднаму, не падыходзіць іншаму. Не спяшайцеся даваць свае парады ці аказваць дапамогу. Прыступаць да лячэння хваробы трэба толькі пасля кансультацыі з урачом, які добра знаёмы і з лекавымі раслінамі, і з гісторыяй вашай хваробы. Ён і будзе ведаць, дасць такое лячэнне эфект, ці, наадварот, магчыма ўскладненне.**

## УСМЕШКА МАСТАКА






Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА і Марыны ГАРЭЛАВАЙ.

# ТЭЛЕБАЧАННЕ, 21 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 4 клас. Віды і жанры выяўленчага мастацтва. **9.20** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **9.35** «Корцік». Маст. фільм 3-я серыя. **10.45** «КААДП. Соннае царства». Мультфільм. **11.05** «Не згубі дрэва жыцця». Дак. фільм. **11.55** Музыка без межаў. Музычна-інфармацыйная праграма. **12.35** «Цыганка Аза». Маст. фільм з субцітрамі. **15.00** Навіны. **15.15** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11 клас. Сучасная беларуская драматургія. **16.35** Педагагічны экран. Навука і вышэйшая школа. **16.50** «Гомель-96». Вынікі тэлефестывалю, прысвечанага 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «На схілах старажытнага вулкана». Дак. фільм. **18.15** Будзьце здаровы. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Кобра». Тэлесерыял. 4-я серыя. **19.55** Форум нацыянальных культур Беларусі (анонс). **20.05** Вертыкаль. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Зоркі» на экране. Алена Сафонава ў маст. фільме «Вяртанне Батэрфляй». **23.50** Дзённік тэлефоруму «Экамір-96». **24.00** Навіны.

**ГРТ**

**5.00** Тэлераніца. **7.40** «Прэзідэнцкія выбары-96». **7.50** Тэлераніца. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.00** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». Серыял. **9.05** «Калі...» **9.45** Смехапанарама. **10.15** Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Свет». «Мы і рынак». **14.20** Мультсерыял. **14.35** «Прыгоды капітана Урунгеля». Мультсерыял. **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мультыролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Сем дзён спорту». **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Час пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** «Прэзідэнцкія выбары-96». **20.50** Фільм Сяргея Герасімава «Леў Талстой». **0.20** Музычная праграма MTV.

**Канал «Расія»**

**6.45, 7.50, 19.35, 21.10** Выбары-96. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.30** Весткі. **7.20** У гэты дзень... **7.30** Дзелавая Расія. **8.05** Мультфільмы. **8.20** L-клуб. **9.05** «Санта-Барбара». **9.55—10.20** Кліп-антракт. **13.50** Рэтра-шлягер. Таццяна Шмыга. **14.20** Футбол без граніц. **14.50** 21 кабінет. **15.20** «Новая сям'я. З цыкла «Перамена ў маім жыцці» (Турцыя). **15.35** Там-там навіны. **15.50** Каляндар. **16.20** Расія ў тварах. **16.45** Кліп-антракт. **16.55** «Дзяўчына з заўтра». Серыял для падлеткаў (Аўстралія). **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Прасцей простага. **18.00** «Нічога, акрамя». **18.15** «Галасуй, а то прайграеш». **18.30** Надзвычайны канал. **19.50** «Санта-Барбара». **20.40** Джэнтльмен-шоу. **21.25** Надвор'е. **21.30 — 23.45** «Рускі транзіт». 3-я і 4-я серыі. **23.45** Лепшыя гульні НБА.

**«Расійскія універсітэты»**

**7.30** «Белыя ночы». Маст. фільм. **9.00** «Кароль «усміхаецца». **9.30** Выбары-96. **9.40** Французская мова для дзяцей. **10.00** Тэлекурс «Французская мова ў дзеянні». **10.30, 13.30, 16.45** СІВ. Навіны. **10.40** Соф'я Піляўская. «Успаміны, якія заўсёды са мной». Перадача 1-я. **11.25** «У рабочы поўдзень». **12.00** Навукавідэа. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Рускі жывапіс. «Вялікія імёны Расіі. Рэпін». **13.35** «Варыянт «Амега». Маст. фільм. **14.45** Амплітуда поспеху. **15.00** «Маскоўскія пенаты». **15.25** Выпрабаванне тайнай. Егіпет. **15.50** Выбары-96. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Муззон».

**НТБ**

**17.00** «Сямейка Флінстоун». 31-я серыя. **17.30** «Багатая жанчына: быць лепш». 21-я серыя. **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Рычард Чэмберлен, Род Стайгер і Дайан Венора ў фільме «Кук і Піры. Шлях да полюса». **20.45** Доктар Угол. **21.35** Час серыяла. «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 57-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** У пошуках прыгод. **23.50** Меламанія: Група «Шэдоуз».

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** «Цяпер». **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.05** Тэрмін адказу — сёння. **13.35** Парады садаводам. **13.45, 20.35** Тэлеслужба бяспекі. **14.05** «Спякота ў Акапулька». Серыял. 1-я серыя. **15.05** «Запісана залатымі літарамі». Тэлефільм. **15.35** Авертайм. **16.05** Стыль жыцця. **16.10** «У засені ліпавых алей». Тэлефільм. **16.20** «Вялікія прыгоды Мэдса». Мультсерыял. **16.25** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў (Францыя). **16.55** Спартыўны агляд. **17.05** Толькі без панікі. **17.30**, 18.00 Паказвае Ленінградская АТК. **18.35** Вялікі фестываль. **19.05** «Першае каханне». Серыял. **20.05** Сустрэча з Ларысай Долінай. **20.45** Што наша жыццё... **21.00** Спорт. **21.05** «Спякота ў Акапулька». Серыял. 1-я серыя. **22.05** «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма. **22.20—0.10** «Маленькі апакаліпсіс». Маст. фільм.





# *Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

Да гэтага дня — **21 мая** — адносяцца першыя летапісныя згадкі пра Нясвіж. У 1223 годзе было ўтворана Нясвіжскае княства.

**21 мая 1840 года** ў Мінску пачаў дзейнічаць тэатр, арганізаваны Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам (працу спыніў у 1850-я гады).

У гэты дзень **у 1911 годзе** нарадзіўся вядомы беларускі вучоны, акадэмік АН Беларусі Андрэй Капітонавіч Красін. Праводзіў навуковыя даследаванні па распрацоўцы і будаўніцтву атамных электрастанцый, вадароднай энергетыцы. Удзельнік стварэння першай ў свеце Обнінскай (за гэта — Ленінская прэмія 1957 года), Белаярскай атамных электрастанцый.

**21 мая 1921 года** нарадзіўся вучоны-фізік, «бацька» савецкай вадароднай бомбы, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, тройчы Герой Сацыялістычнай працы акадэмік Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў, які, па словах акадэміка Д. Ліхачова, з'яўляецца «чалавекам будучыні, чалавекам XXI стагоддзя, які змог зазірнуць у гэтую будучыню ў 50—60-я гады».

## Народны каляндар

***Праваслаўная царква ўшаноўвае сёння Іаана Багаслова. У гэты дзень, як і на Барыса, шануюцца крыніцы, якія не замярзалі і лічыліся гаючымі, асабліва ад хвароб вачэй.***

У гэты дзень забаранялася выкарыстоўваць коней, каб пазбегнуць у будучым няшчасных здарэнняў з імі. На агародах садзілі моркву, агуркі, цыбулю, рэдзьку. Гаспадыні высока падтыркалі спадніцы з надзеяй, што ўсё пасаджанае вырасце высокім, а агародніна — круглай, як калені. Іаан Багаслоў непасрэдна папярэднічаў дню Міколы і таму ў народзе называўся Міколавым бацькам.

З народных прымет: калі дзе ў гэты дзень адбудзецца навальніца з паўднёвым ветрам — то вясна будзе цёплая і будзе многа шкоднікаў раслін. Вялікая раса — на добрае надвор'е. Машкара «мак таўчэ» — таксама будзе пагода.

## Жыццё па зорках

***Сёння сонца ўступае ў зодыякальнае сузор'е Блізнят. Сваёй формай яно нагадвае вароты, і ў старажытнасці лічылася, што менавіта тут знаходзіцца ўваход на той свет. Простым вокам у сузор'і можна палічыць да 70 зорак, а дзве найбольш яркія з іх — Кастар і Полукс, згодна са старажытнагрэчаскім міфам — браты-блізняты.***

Камень-талісман Блізнят — жэмчуг, які сімвалізуе здароўе. Народжаныя пад гэтым знакам павінны быць здаровымі.

Сонца ў Блізнятах прыносіць лёгкія адносіны да жыцця. У гэты светлы і вясёлы час віруе думка, інтэлектуальны знак Блізнят спрыяе ўспрыманню новай інфармацыі, вучобе і самаадукацыі, у гэты час не сядзіцца на месцы, ён дае штуршок новым кантактам.

Знамянальна, што менавіта на гэты час прыпадае вялікае хрысціянскае свята — Ушэсце («Вознесение») 23 мая, якое ўзвышаецца над будзённасцю, а таксама свята Сёмухі (Троицы) 2 чэрвеня, якое нагадвае аб адзінстве дзеючых у свеце сіл.

## Неверагоднае, загадкавае...

***— Я з дзяцінства непрыгожы, маленькі ростам, можна сказаць, фізічна непаўнацэнны, — расказвае Арцём І. з горада Дубны. — Гадоў у 10 я ўжо ведаў, што дзяўчаты да мяне адносяцца вельмі грэбліва, зняважліва...***

І вось гадоў у 30 мне прызналася ў каханні наша бухгалтарка — маладая, прыгожая дзяўчына. Яе прызнанне, вядома, застала мяне знянацку, я доўга не мог зразумець: праўда гэта ці толькі сон. Я не мог спаць, думаючы аб гэтым. Нічога не еў, у мяне падскочыла тэмпература, аднойчы нават страціў прытомнасць. Апрытомнеўшы ж, убачыў над сабой суседку, якая нахілілася над маім ложкам (я жыў тады ў камуналцы) і вельмі выразна пачуў: «Не здох урод праклятьі, не атрымаю яго пакой...» Але ў той жа час яна ўсміхалася і казала: «Ну вось і ажыў, цяпер пойдзеш на папраўку».

Аказваецца, я чуў і яе голас, і тое, што яна казала пра сябе, г. зн. тое, аб чым маўчала.

Вярнуўся на работу, і да мяне літаральна кінулася наша прыгажуня Марыя, бухгалтарка. Яна кінулася мне на шыю, пацалавала, стала казаць, што перажывала, чакала мяне, я чуў: «Вось і выдатна. Жаню на сабе. У дзіцяці будзе хоць такі, але бацька...» .

У той момант я і зразумеў, што навучыўся чуць тое, што людзі хаваюць, аб чым маўчаць. І гэта жахліва! Уявіце сабе: зараз я — кандыдат навук, кіраўнік багатай фірмы. Мне даводзіцца сустракацца з дзесяткамі людзей штодня — разумнымі, дзелавымі, хітрымі. Ім нічога не ўдаецца, а я заўсёды пакутую ад таго, што чую пра сябе: «Ну і пачвара»... Паверце, гэта вельмі страшна!

## Мудрасць

Людзі, якіх разумееш адразу, — нецікавыя. Чалавек павінен умяшчаць у сабе, па магчымасці, усё плюс — яшчэ нешта. **(М. Горкі).**

Стаць бацькам заўсёды лёгка, быць бацькам —вельмі цяжка. **(В. Буш).**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2412.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12